ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

№ 3

№ 3



МЕНСК
Выдавецтва ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА"
1936



ПРОЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ X

№ 3
Сакавік 1936 г.



ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.,
ЦК КП(б)Б, пакой 21.
Тэлефон адказнага рэдактара па камутатару 20000, даб. 68.



Н. Гікало

# Урокі праверкі ў Беларускай партарганізацыі

Асобае становішча **Беларускай** совецкай соцыялістычнай рэспублікі як нацыянальнай рэспублікі, мяжуючай з капіталістычным Захадам, вызначыла асаблівасці і выключную адказнасць комуністычнай партыі Беларусі і яе кіраўніцтва ў правядзенні такога важнейшага палітычнага мерапрыемства, як праверка партдакументаў.

Пагранічнае становішча Беларусі спакушае ўсякага роду контррэволюцыйныя, белагвардзейскія, шпіёнскія і буржуазна-нацыяналістычныя элементы на тое, каб самымі разнастайнымі шляхамі пралезці ў КП(б)Б для падрыўнай работы. Праверка партыйных дакументаў паказала гэта з усёй відавочнасцю.

Дарэволюцыйная Беларусь, зняволеная царскай Расіяй, з'яўлялася эканамічна адсталай краінай, не меўшай магутнага індустрыяльнага пролетарыята і буйных пролетарскіх цэнтраў. У беларускіх гарадах пераважала дробная буржуазія (дробныя гандляры, саматужнікі, рамеснікі). Сельская гаспадарка знаходзілася на празмерна нізкім узроўні. Памешчык, пан і кулак на вёсцы адыгрывалі дамінуючую ролю. Асабліва вяліка была адсталасць Беларусі ў галіне культуры. Развіццё класавай барацьбы ўскладнялася шматнацыянальным складам народаў, насяляючых Беларусь.

На гэтай глебе і развіваўся на тэрыторыі сучаснай Беларусі рад контррэволюцыйных, нацыяналістычных і дробнабуржуазных партый, як Бунд, эсэры, меншавікі.

Для таго каб уясніць сабе ўсю складанасць абстаноўкі, у якой комуністычнай партыі Беларусі прыходзілася адстойваць справу вялікай пролетарскай рэволюцыі, трэба мець таксама на ўвазе, што працоўныя масы Беларусі перажылі нямецкую акупацыю, польскую акупацыю, бандытызм і цэлы рад эсэраўскіх паўстанняў.

Факты гавораць аб тым, што эсэры абралі тэрыторыю Беларусі як адну з баз для збірання сваіх сіл і як плацдарм для контррэволюцыйных выступленняў супроць совецкай улады пры прамой і непасрэднай дапамозе імперыялістычных інтэрвентаў.

Побач з адкрытымі формамі контррэволюцыйнай барацьбы су-

процьсовецкай улады класавы вораг дзейнічаў таксама і **замаскаванымі шляхамі.**

Распрацоўка раду матар'ялаў у сувязі з праверкай партдакументаў у комуністычнай партыі Беларусі паказала, што яшчэ ў першыя гады рэволюцыі, калі КП(б)Б арганізацыйна толькі афармілася, а сілы ўсёй партыі былі накіраваны на арганізацыю перамогі ў грамадзянскай вайне, контррэволюцыйныя, дробнабуржуазныя нацыяналістычныя партыі прасунулі ў наш совецкі апарат і ў рады комуністычнай партыі цэлыя групы сваіх людзей для вядзення падрыўной, контррэволюцыйнай работы.

Замаскаваныя метады барацьбы класавага ворага атрымалі сваё найбольшае развіццё к таму часу, калі мы адбілі напад інтэрвентаў звонку, вызвалілі Беларусь ад нямецкай і белапольскай акупацый і разграмілі сілы дамарошчанай контррэволюцыі. **Іменна ў гэты перыяд вораг, будучы разбітым у адкрытай бойцы, прадаўжае барацьбу іншымі шляхамі: вораг надзявае маску, імкнецца пранікнуць у партыю, у совецкі апарат, каб захаваць, такім чынам, свае кадры і весці разлагаючую, контррэволюцыйную работу знутры.**

**Тактыка двурушніцтва становіцца адной з форм барацьбы нацыяналістычных контррэволюцыянераў супроць совецкай улады.** Адзін з віднейшых прадстаўнікоў беларускай нацыяналістычнай контррэволюцыі, Ігнатоўскі, эсэр з 1904 года, удзельнік Яраслаўскага паўстання, пазней выкрыў прызначэнне гэтай тактыкі:

«Я прызнаю, што з моманту ўступлення ў партыю я вёў свядомую падвойную палітычную гульню ў інтарэсах ажыццяўлення ідэалаў беларускай контррэволюцыйнай інтэлігенцыі. Іменна выходзячы з гэтага, я напярэдадні ўступлення ў большэвіцкую партыю ўмовіўся з віднейшымі лідэрамі нацыянал-дэмакратычнага беларускага руху, маімі сябрамі па эсэраўскай партыі, у прыватнасці з Крычэўскім Пятром, перад яго уходам з Менска за кардон, што на розных палітычных участках, дзе мы будзем працаваць, дапамагаць трыумфу агульнай беларускай справы. Таму я пацвярджаю паказанні Цвікевіча, што я з Крычэўскім разышоўся па формуле: «Ты ідзі працаваць для Беларусі на Захад, а я пайду працаваць на Ўсход...»

Таксама пацвярджаю наступнае месца з паказанняў Цвікевіча, чутае ім заграніцай ад маіх палітычных сяброў па эсэраўскай партыі: «Калі мы пакідалі Менск, дык Ігнатоўскі гаварыў нам: «Нічога, хлопцы, мы будзем тут лаяць вас, а вы заграніцай лайце нас, а ад гэтага агульная беларуская справа толькі выйграе».

Або вось другі, не менш яркі дакумент, які пацвярджае пераход класавага ворага да новай тактыкі: «Мы рэкамендавалі беларусам уступаць у партыю, каб яны маглі займаць адказныя пасты і весці палітыку Прышчэпава і Баліцкага. Таму мы віталі ўсякага беларуса, уступіўшага ў партыю. Нам трэба беларусізаваць партыю і мець

там сваіх людзей, нацыяналістычна настроеных беларусаў. Гэта вярбоўка ў партыю рабілася, так сказаць, для абароны нашага тылу, з аднаго боку, а з другога боку, трэба было ўсюды мець сваіх людзей» (з паказанняў нацыянал-дэмакрата Лёсіка па справе СВБ).

Такая была тактыка контррэволюцыйных беларускіх эсэраў, выступаўшых пад нацыяналістычным флагам.

Прыкладна такой-жа тактыкі прытрымліваліся і бундаўцы. У свой час віднейшы кіраўнік бундаўцаў, Вайнштэйн, вельмі недвухсэнсна заяўляў, што «пры зліянні компартыі з Бундам апошні захавае свой рэволюцыйны дух і сваю гістарычную загартаванасць. Адмаўленне ад уваходжання ў РКП не дасць Бунду ні магчымасці развівацца, ні магчымасці існаваць».

Аб эсэрах, якія пралезлі ў нашу партыю і не адмовіліся ад сваіх старых контррэволюцыйных поглядаў, трэба сказаць, што яны для скрыцця свайго мінулага ўмела выкарысталі надзвычай заблытаны пераплёт соцыяльных і нацыянальных адносін у гады грамадзянскай вайны.

Праверка партдакументаў у компартыі Беларусі паказала, што ў радзе выпадкаў выхадцы з дробнабуржуазных нацыяналістычных партый, пралязаючы ў КП(б)Б, залічвалі ў свой партыйны стаж час прабывання ў тых партыях. Сваю контррэволюцыйную дзейнасць— а ў радзе выпадкаў і свой актыўны ўдзел у барацьбе супроць савецкай улады—яны выдавалі за партызанскі комуністычны рух. У радах КП(б)Б, такім чынам, аказаліся людзі, якія лічылі за сабой у якасці рэволюцыйных заслуг рад гадоў яўна контррэволюцыйнай, антысавецкай дзейнасці.

Яркім прыкладам у гэтых адносінах можа служыць ускрытая ў ходзе праверкі партдакументаў так званая «Капыльская справа».

У Капылі да канца 1919 года існавала сільная эсэраўская арганізацыя. У кіруючы склад гэтай арганізацыі ўваходзілі і манархічныя элементы. Пасля адыходу белапалякаў гэта арганізацыя стала выдаваць сябе за большэвіцкую. Каб лягчэй пранікнуць у рады большэвіцкай партыі, эсэры жульніцкім шляхам абвясцілі сябе чырвонымі партызанамі. Паміж іншым эсэраўскія дружыны, якія гэтымі людзьмі выдаваліся за партызанскія арганізацыі, вялі контррэволюцыйную работу супроць савецкай улады.

Кіраўнікі эсэраўскай арганізацыі ў Капылі ўпаследку атрымалі партбілеты (шляхам узаемнай рэкамендацыі), прабраліся на кіруючую работу: Чарнушэвіч—у якасці нам. дырэктара Інстытута мовы Беларускай Акадэміі Навук; Гурло—дырэктарам Інстытута народнай гаспадаркі; акурат так сама частка з іх прабралася ў Наркамасветы.

Контррэволюцыйную дзейнасць эсэраўскіх элементаў, прабраўшыхся ў нашу партыю, трэба разглядаць у цеснай сувязі з дзейнасцю нацыянал-дэмакратычных элементаў. Праверка партдакумен-

таў паказала, што, як правіла, выкрытыя нацдэмаўскія элементы ў мінулым належалі да эсэраў. І гэта, безумоўна, не выпадкова, бо карэнні эсэраўскага і нацдэмаўскага рухаў адны і тыя самыя—беларускае кулацтва. Сапраўдны твар гэтых буржуазна-нацыяналістычных, эсэраўскіх элементаў характарызуецца тым, што яны ў гады грамадзянскай вайны, дэкларуючы за «незалежную Беларускую народную рэспубліку», на справе прадавалі Беларусь оптам і ў розніцу імперыялістычным драпежнікам, пачаргова нямецкім, польскім і французскім, а пазней ператварыліся ў платных агентаў замежнай контрразведкі.

Тое, што характэрна для контррэволюцыйнай дзейнасці эсэраўскіх і нацдэмаўскіх элементаў, пралезшых у нашу партыю, у роўнай меры адносіцца і да контррэзолюцыйных, трацкісцка-меншавіцкіх і бундаўскіх элементаў.

Праверка партдакументаў паказала, што ў агромнай большасці выпадкаў былыя бундаўцы, прынятыя ў рады КП(б)Б, потым аказаліся ў радах трацкістаў. Гэта гаворыць аб адной і той самай соцыяльнай базе меншавіцка-трацкісцкіх і бундаўскіх элементаў, а таксама з'яўляецца паказчыкам таго, што значная частка былых бундаўцаў, прынятых у нашу партыю, па сутнасці, прадаўжала заставацца на сваіх старых ідэйных пазіцыях.

* * *

Засмечанне радоў партыйнай арганізацыі Беларусі класава варожымі людзьмі (выхадцамі з іншых антысовецкіх партый—Бунда, эсэраў, меншавікоў) сказалася ў націску гэтых дробнабуржуазных элементаў на паасобныя звенні партапарата. Адсюль у мінулым цэлы рад зрываў у правядзенні ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі на паасобных участках соцыялістычнага будаўніцтва. Адсюль у недалёкім мінулым правал у правядзенні раду сур'ёзнейшых палітыка-гаспадарчых мерапрыемстваў у асаблівасці на вёсцы.

На працягу раду год пад непасрэдным кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і таварыша **Сталіна** партыйная арганізацыя Беларусі правяла самую рашучую, бязлітасную барацьбу супроць усякага роду антыпартыйных груповак, супроць правых і «левых» апартуністаў, супроць контррэволюцыйных трацкістаў-зіноўеўцаў, супроць усякіх ухілаў у нацыянальным пытанні.

Разгромлен контррэволюцыйны нацыянал-дэмакратызм, ліквідавана кулацтва ў вёсцы.

Дзякуючы партыі і ўказанням з боку ЦК ВКП(б) і асабіста таварыша **Сталіна** Беларуская партарганізацыя дабілася рашаючага, карэннага палепшання работы на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва, высока ўзняла сцяг барацьбы за пролетарскі інтэрнацыяналізм.

Выходзячы з указанняў тазарыша **Сталіна** «аб спосабах вырошчвання і ўмацавання марксісцкіх кадраў з мясцовых людзей, кадраў, якія могуць служыць самым важным і ўрэшце рашаючым аплотам савецкай улады на акраінах і ў нацыянальных рэспубліках» *), КП(б)Б стварыла моцны касцяк выдатных большэвікоў з беларусаў, яўрэяў і т. д. Апіраючыся на гэтыя кадры, КП(б)Б здолела дабіцца за апошнія гады рашаючых поспехаў на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

Асабліва буйных поспехаў дабіліся працоўныя БССР пад кіраўніцтвам партыі за мінулы, 1935 год. У 1935 годзе прамысловасць Беларусі выканала план на 108,1%, што дае прырост прадукцыі ў адносінах да 1934 года 23,3%. У сельскай гаспадарцы мы дабіліся ў 1935 годзе далейшага росту ўраджайнасці, далейшага росту заможнасці калгаснікаў, бясспрэчнага зруху ў развіцці жывёлагадоўлі.

Значных поспехаў дабілася Беларуская партарганізацыя ў народнай асвеце: колькасць навучаючыхся ў школах дасягнула 1 мільёна (у параўнанні з 1915 годам павелічэнне больш як у 3 разы); студэнтаў у вузах—12.273 чалавекі (у 1915 годзе лік студэнтаў вузаў складаў 182); студэнтаў у тэхнікумах—20.928 чалавек (у 1915 годзе—2258)—такія няпоўныя даныя, якія характарызуюць агромны культурны рост народаў Беларусі.

Дзякуючы велізарнай дапамозе з боку пролетарыята Совецкага саюза, у першую чаргу з боку рускага пролетарыята, дзякуючы мудраму і штодзеннаму кіраўніцтву з боку ЦК ВКП(б) і асабіста таварыша **Сталіна, адсталая, жабрацкая Беларусь ператворана ў культурны квітнеючы край.**

* * *

**Яшчэ ў 1933 годзе ЦК ВКП(б) адзначыў уздым совецкай нацыянальнай культуры ў Беларусі.** Тады-ж ЦК ВКП(б) паставіў перад ЦК КП(б)Б задачу самай рашучай барацьбы з буржуазнымі нацыяналістамі, трацкістамі, бундаўцамі, эсэрамі і іншымі ворагамі, праводзіўшымі сваю антысовецкую работу пад фальшыва-нацыяналістычным флагам.

Значная работа па ачышчэнню партыі ад гэтых элементаў была прароблена ў 1932 годзе і затым, у час чысткі партыі, у 1933 годзе. Урокі падзей, звязаных са зладзейскім забойствам С. М. Кірава, узнялі пільнасць КП(б)Б. У гэты перыяд быў выкрыты і выгнаны з радоў партыі цэлы рад прытаіўшыхся белагвардзейскіх, кулацкіх, буржуазна-нацыяналістычных і трацкісцка-зіноўеўскіх элементаў.

**Рашаючую ролю ў ачышчэнні радоў партыі ад класава варожых і чуждых людзей, прабраўшыхся ў нашы рады, адыграла праверка**

---

*) Сталін. „Марксізм і нацыянальна-каланіяльнае пытанне", стар. 135. Партвыдат 1935.

**партдакументаў**. Праверка ў агромнай ступені ўзняла класавую пільнасць комуністаў Беларускай партарганізацыі, яна ўзняла актыўнасць не толькі членаў партыі, але і лепшых з беспартыйных. Аўтарытэт нашай большэвіцкай партыі ў вачах шырокіх працоўных мас узняты на новую, больш высокую ступень.

Хіба аб гэтым не сведчыць, напрыклад, такі факт, калі ў адным з раёнаў Беларусі старуха-калгасніца прышла пеша за 40 кілометраў да сакратара райкома і выкрыла аднаго з «членаў партыі», адказнага работніка, былога ўдзельніка банды Булак-Балаховіча?

Гэта-ж сам па сабе нязначны факт гаворыць аб тым, як дарага наша партыя масам працоўных. І гэта не адзіны выпадак: заяў выкрываўчага парадку было падана за ўвесь час партправеркі па ўсіх раёнах Беларусі звыш 10 тысяч, з якіх значная частка пацвердзілася.

Праверка яшчэ больш згуртавала ўсіх членаў партыі і ўсіх працоўных Беларусі ў барацьбе за генеральную лінію нашай партыі вакол ЦК ВКП(б), вакол правадыра народаў СССР таварыша **Сталіна**.

Велізарнейшае значэнне праверкі партдакументаў заключаецца не толькі ў тым, што з партыі выгнаны ўсякага роду белагвардзейцы, буржуазныя нацыяналісты, трацкісты, эсэры, бундаўцы, шавіністы, жулікі і прахвосты, але і ў тым, што партправерка садзейнічала выяўленню многіх соцень і тысяч партыйных і непартыйных большэвікоў, бязмежна адданых нашай партыі, паказваючых большэвіцкія ўзоры ў рабоце на самых разнастайных участках соцыялістычнага будаўніцтва.

Ачыстка партыйных радоў ад чуждых і варожых элементаў, бясспрэчна, сказалася ў тым магутным уздыме рабочых і калгасных мас, які знашоў сваё выражэнне ў разгарнуўшымся **стаханаўскім** руху. Лік стаханаўцаў у Беларусі на 10 снежня мінулага года складаў 10 тысяч, к сучаснаму моманту складае ўжо 25 тысяч.

За студзень бягучага года вытворчая праграма выканана Беларуссю на 103,7%, або на 24% вышэй чым у мінулым годзе. Гэтыя тэмпы паказваюць, што **металапрамысловасць, будаўнічая, лясная, трыкатажная і некаторыя іншыя віды прамысловасці Беларусі выканаюць свой пяцігадовы план у 4 гады.** Цагельная прамысловасць Беларусі ў 1935 годзе вытварала 225 мільёнаў цэглы. У гэтым годзе яна дасць да 500 мільёнаў цэглы. Гарантыяй гэтага—работа такіх стаханаўцаў, як Сенкевіч, які дае 46 тысяч цэглы за прэсазмену; Куйбышэў, які выконвае 337% нормы, Суханаў і яго таварышы, якія дабіліся павелічэння магутнасці сваіх станкоў у два разы. Стаханаўцы абутковай фабрыкі імя Кагановіча (тт. Скабло, Розенберг і інш.) зэканомілі за 1935 год скурсыравіны на 60 тысяч пар абутку.

Стаханавец-чырвонасцяжнік Лычкоўскі замест 160 скрынак запалак ў змену выпрацоўвае 250 скрынак.

Па іншых галінах прамысловасці мы маем не менш яркія ўзоры стаханаўскай работы.

* * *

Узнімаючы на новую ступень усю нашу работу, мы ні на мінуту не павінны забываць аб той асобай адказнасці, якая ляжыць на нас, працуючых у шматнацыянальнай рэспубліцы, на мяжы з капіталістычным светам.

Важнейшая задача партарганізацыі Беларусі—**далейшае ўсямернае павышэнне большэвіцкай пільнасці.** Ад беларускіх большэвікоў перш за ўсё патрабуецца ўменне хутка распазнаваць і рашуча паралізаваць контррэволюцыйныя дзеянні такіх ворагаў, як буржуазныя нацыяналісты, эсэры, выступаючыя пад фальшыва-нацыянальным флагам, бундаўцы, не гаворачы ўжо аб найвялікшай пільнасці да рознага роду шпіёнаў, правакатараў, дыверсантаў, якія прасочваюцца да нас з-за граніцы. Партыйная пільнасць патрабуе ўмення распазнаваць усе іх махінацыі, патрабуе ўважлівага вызучэння тых каналаў, па якіх такога роду ворагі шукаюць шляхоў у КП(б)Б. Праверка партыйных дакументаў паказала, напрыклад, што ў радзе выпадкаў шпіёнскім элементам удаецца прабрацца ў рады нашай партыі пад выглядам палітычных эмігрантаў, нібыта ўцёкшых з-за граніцы ад праследванняў.

Партыйная пільнасць абавязвае нас умець выкрываць контррэволюцыйныя махінацыі і іншых ворагаў нашай партыі і савецкай улады, у асаблівасці двурушнікаў—трацкістаў і зіноўеўцаў, скаціўшыхся ў лагер самай агалцелай белагвардзейшчыны. Праверка партыйных дакументаў, паміж іншым, паказала, што асноўным кадрам трацкістаў у БССР удалося аднавіцца ў партыі яшчэ ў 1927—1928 гадах шляхам падачы заяў аб адмаўленні ад трацкісцкай дзейнасці. Ва ўліковых картках пры аднаўленні трацкістаў у партыі адзнак аб выключэнні іх з партыі не рабілася, бо ў радзе выпадкаў трацкісты аднаўляліся ў партыі без усякіх партыйных спагнанняў. Аднавіўшыся такім чынам, трацкісты пераязджалі ў іншыя арганізацыі і там ужо, скрыўшы сваё трацкісцкае мінулае, працягвалі часта беспакарана сваю контррэволюцыйную, двурушніцкую дзейнасць. Праверка партыйных дакументаў паказала таксама, што трацкісты звычайна прабіраліся на такія ўчасткі работы, дзе, з аднаго боку, можна было спакойна адседжвацца, а з другога—блізка сутыкацца з рабочай і сялянскай масай.

Іменна ў сувязі з праверкай партдакументаў комуністы Беларусі асабліва зразумелі, што **партыйная пільнасць патрабуе моцнай, непарушнай сувязі з масамі,** што пільнасць патрабуе смелага разгортвання большэвіцкай **самакрытыкі і крытыкі** не гледзячы на асобы,

што ідэйна-большэвіцкая загартоўка патрабуе **павышэння тэарэтычнага ўзроўню** ўсіх членаў партыі.

Партыйная пільнасць патрабуе далейшага ўмацавання партыйнай дысцыпліны ў КП(б)Б, найстражэйшага захоўвання большэвіцкага статута, далейшага ўсямернага палепшання арганізацыйна-партыйнай і ўнутрывыхаваўчай работы. Урокі праверкі партдакументаў яшчэ ярчэй паказалі нам, што задача ўздыму арганізацыйна-партыйнага кіраўніцтва да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва з'яўляецца стрыжнем, асновай поспеху ўсёй нашай работы.

Для таго каб справіцца з тымі велізарнейшымі задачамі, якія стаяць перад КП(б)Б як адным з атрадаў вялікай ВКП(б), наша асаблівая ўвага павінна быць накіравана—як гэтаму заўжды вучыць нас таварыш **Сталін**—на клапатлівае, **любоўнае вырошчванне і падрыхтоўку кадраў,** у першую чаргу з мясцовых людзей, для прасоўвання іх на важнейшыя ўчасткі партыйнай, совецкай і культурнай работы. У працэсе праверкі партдакументаў вылучана на адказную партыйную і совецка-гаспадарчую работу да 2 тысяч комуністаў. Гэта—толькі пачатак. Яшчэ больш і глыбей вывучаць кожнага комуніста і лепшых з іх вылучаць на кіруючую работу—абавязак кожнай партарганізацыі Беларусі.

Адна з нашых сур'ёзнейшых задач—выкаваць кадры людзей, узброеных рэволюцыйным вучэннем Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна. Урокі праверкі паказалі, што без ведання гісторыі ВКП(б), без ведання гісторыі Беларускай партарганізацыі, без дэталёвага вывучэння рэволюцыйнай барацьбы ў Беларусі, асабліва перыяду грамадзянскай вайны, нельга ўзняць на сапраўдную вышыню большэвіцкую пільнасць.

Трэба заўсёды памятаць неаднаразовыя ўказанні таварыша **Сталіна,** што вывучэнне гісторыі нашай партыі, вывучэнне гісторыі барацьбы партыі з усякага роду антыпартыйнымі групоўкамі з'яўляецца адною з важнейшых умоў загартоўкі комуністаў, павышэння большэвіцкай пільнасці. Таму ЦК КП(б)Б асаблівую ўвагу ўдзяляе арганізацыі справы прапаганды марксізма-ленінізма. Амаль кожны прапагандыст раённай партарганізацыі правяраўся і зацвярджаўся на бюро ЦК КП(б)Б. Адабраных на курсы прапагандыстаў, аспірантаў Інстытута гісторыі партыі, а ў Менску кожнага паасобнага прапагандыста ЦК КП(б)Б праверыў усебакова, устанавіўшы сістэматычную дапамогу і кантроль іх работы.

Граніца абавязвае нас усямерна ўзмацніць нашу ўвагу к справе **абароны.** Клопатамі, любоўю мы акружаем і яшчэ больш павінны акружыць нашу **Чырвоную армію** і нашых геройскіх **пагранічнікаў:** яны з'яўляюцца зоркімі вартавымі нашых граніц, выконваючымі ў выключна цяжкіх умовах свой доўг перад вялікай радзімай.

Мы павінны так арганізаваць у сябе масавую абарончую работу



каб кожны калгаснік адчуваў сябе пагранічнікам, гатовым у любую мінуту даць сакрушальны адпор ворагу. Ужо зараз ёсць мноства фактаў, якія сведчаць аб пачуцці адказнасці і бязмежнай любві да соцыялістычнай радзімы беларускіх калгаснікаў, якія працуюць на граніцы.

Мы не гаворым ужо аб выключна выдатнай, геraічнай рабоце нашых пагранічнікаў.

Вось некаторыя яркія факты. У адным з пагранічных раёнаў калгаснік Казлоўскі Архіп, 66 год, увашоўшы ў гумно, выявіў там невядомага, які заявіў, што быў высланы ў Сібір і зараз прабіраецца да сваёй сям'і, на суседні хутар. Казлоўскі паведаміў аб сустрэчы з невядомым сваёй дачцэ Бараноўскай Наталі і паслаў яе сабраць калгаснікаў для затрымання невядомага. Сам Казлоўскі да прыходу калгаснікаў увесь час наглядаў за невядомым. Апошні, бачачы, што яго акружылі падаспеўшыя калгаснікі, адчыніў дзверы, зрабіў стрэл па калгасніках і кінуўся ўцякаць, ускочыўшы на каня, які знаходзіўся паблізку.

Калгаснікі тут-жа ўзялі з калгаса лепшых коней і пачалі праследванне. Старшыня калгаса «Чырвоны Окцябр» Алехна на шляху праследвання сустрэў грузавую машыну адной з МТС і паведаміў шоферу Клочка аб здарэнні. Шофер пасадзіў у машыну Алехна і калгасніка Корзуна Івана з паляўнічай стрэльбай. Праследванне прадаўжалася на машыне. У той-жа час калгаснік Сыцько Іван верхом на кані аб'язджаў усе навакольныя калгасы і вёскі і падымаў насельніцтва.

Настойліва праследуемы і акружаны калгаснікамі, невядомы быў урэшце схоплены. Пры вобыску ў яго былі ўзяты рэвольвер «наган» і шпіёнскі матар'ял. Ён аказаўся вядомым агентам замежнай разведкі.

Калгаснікі, прымаўшыя ўдзел у затрыманні дыверсанта—агента замежнай разведкі,—былі ўзнагароджаны каштоўнымі падарункамі і грашыма.

Або вось другі выпадак, які адбыўся на граніцы. У апошніх лічбах чэрвеня 1934 года на граніцу прабраўся дыверсант—агент замежнай контррэволюцыйнай разведкі. Каб арыентавацца і адпачыць, дыверсант зашоў у дом калгасніка Шчура.

Гаспадар дома калгаснік Шчур Сямён, ведаючы аб пошуках пагранічнікамі скрыўшагася дыверсанта, рашыў затрымаць невядомага і перадаць яго ў рукі пагранічнікаў. Шчур рашыў дзейнічаць наступным чынам. Сказаўшы невядомаму, што гэта не яго дом, што тут цесна і брудна, тав. Шчур запрасіў дыверсанта «да сябе». Дыверсант згадзіўся.. Тады Шчур з таго поваду прывёў дыверсанта да пагранічнай заставы, якая знаходзілася ў гэтай-жа вёсцы, і там здаў яго

ў рукі вартавому. Тав. Шчур прэміраваны каштоўным падарункам і грашовай узнагародай.

Вось яшчэ адзін эпізод, гераіняй якога аказалася 12-гадовая дачка калгасніка—Ванда. У ноч на 2 студзеня 1936 года, даведаўшыся аб прыездзе ў вёску начальніка заставы, Ванда па ўласнай ініцыятыве заявіла апошняму, што ў вёсцы доўгі час скрываецца ў доме сваёй жонкі кулак, які збег з месца высылкі. У выніку прынятых начальнікам заставы мер кулак быў выяўлен схаваўшымся ў доме пад падлогай і затрыманы. Ён аказаўся агентам замежнай контрразведкі. Выявілася, што незадоўга да гэтага выпадку Ванда бачыла гэтага кулака, які папярэдзіў яе, што калі яна раскажа аб ім каму-небудзь, дык будзе зарублена сякерай. Але Ванда, як гэта відаць, не спалохалася пагрозы кулака. За свой геройскі ўчынак яна прадстаўлена да ўзнагароды.

Аб чым сведчаць усе гэтыя факты? Яны гавораць аб тым, што нашы калгасы на граніцы ператвараюцца ў несакрушальныя совецкія крэпасці, якія дапамогуць нашай Чырвонай арміі даць жорсткі адпор ворагу, калі ён пасмее «сунуць сваё свіное рыла ў наш совецкі агарод».

Партыйнае і совецкае кіраўніцтва Беларускай рэспублікі правяло цэлы рад мерапрыемстваў, накіраваных на палепшанне ўсёй сістэмы партыйнай і совецкай работы ў прымежных раёнах. Перад КП(б)Б стаіць задача—і ў далейшым усямерна ўзмацняць сваю ўвагу к справе абароны Совецкага саюза на адным з адказнейшых яго ўчасткаў—на заходняй граніцы.

Ачышчаная ад ворагаў, ашуканча пранікшых у партыю, яшчэ мацней згуртаванай вакол Цэнтральнага камітэта партыі і вакол таварыша **Сталіна,** компартыя Беларусі рыхтуецца зараз **да абмену партыйных білетаў**. КП(б)Б улічвае важнейшае палітычнае значэнне гэтага большэвіцкага мерапрыемства, якое павінна замацаваць тое, што дала нам праверка партыйных дакументаў. Разам з тым нашы партарганізацыі рыхтуюцца да прыёму ў свае рады новых членаў партыі з ліку новых людзей, якія выраслі ў БССР за апошнія гады і паказалі ўзоры перадавітасці, свядомасці і адданасці партыі ў барацьбе за комунізм.

Праводзячы няўхільна ленінска-сталінскую нацыянальную палітыку, усямерна ўзнімаючы партыйную пільнасць, паляпшаючы работу на ўсіх участках социялістычнага будаўніцтва, любоўна вырошчваючы новыя кадры партыйных і непартыйных большэвікоў, партарганізацыя Беларусі яшчэ цясней згуртуе свае рады вакол сталінскага ЦК ВКП(б), вакол правадыра сусветнага пролетарыята таварыша **Сталіна** і ў барацьбе за ажыццяўленне вялікіх задач другой пяцігодкі будзе высока трымаць вялікі і непераможны сцяг **Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна.**

---

Л. Готфрыд

# Узначаліць стаханаўскі рух

У прамове таварыша Сталіна і рашэннях снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) перад партыйнымі, гаспадарчымі і прафесіянальнымі арганізацыямі прамысловасці з ўсёй чоткасцю была пастаўлена задача—узначаліць стаханаўскі рух і арганізаваць усю работу так, каб дапамагчы стаханаўцам ускрыць усе ўнутраныя рэсурсы, апракінуць яўна застарэлыя тэхнічныя нормы і нормы выпрацоўкі і, ліквідаваўшы вузкія месцы, узняць на яшчэ больш высокую ступень работу нашай соцыялістычнай прамысловасці.

Студзеньскі пленум ЦК КП(б)Б, на падставе рашэнняў снежаньскага пленума ЦК ВКП(б), даў зусім канкрэтную праграму разгортвання стаханаўскага руху ва ўсіх галінах прамысловасці БССР. У рэзалюцыі пленума ЦК КП(б)Б выразна акрэслівае кола задач для тарфянай, будаўнічай, металаапрацоўчай, лясной, шкляной, швейнай, скурабутковай, тэкстыльнай, трыкатажнай, харчовай і іншых галін прамысловасці.

У даным выпадку сканцэнтруем сваю ўвагу на тым, як выконвае рашэнні пленумаў мясцовая прамысловасць БССР. Гэта важна таму, што на даным адрэзку часу мясцовая прамысловасць адстае ў разгортванні стаханаўскага руху, хоць з кожным днём яна набывае ўсё большае і большае значэнне. Даволі сказаць, што ў 2-м квартале мясцовая прамысловасць СССР па суме выпускаемай прадукцыі будзе займаць другое месца пасля прамысловасці Наркамцяжпрома.

Мясцовая прамысловасць БССР, як і ўсяго Савецкага саюза, пераважна выпускае прадметы спажывання, г. зн. усё тое, што цесна звязана з непасрэдным задавальненнем бурна ўзросшых культурных і матар'яльных запатрабаванняў працоўных мас. Мясцовая прамысловасць вырашае таксама поспех будаўніцтва, у якое сёлета ўкладаецца да 33 мільярдаў рублёў. Будматар'ялы для гэтага грандыёзнага будаўніцтва (цэглу, вапну і інш.) дае мясцовая прамысловасць. Аднак на гэтым участку яна ў сучасны момант значна адстае.

Вытворчы апарат мясцовай прамысловасці найслабейшы з усіх апаратаў прамысловасці. Таму партыйны нагляд і кіраўніцтва ў гэтай галіне павінна быць асабліва ўважлівым і пільным.

Снежаньскі пленум ЦК ВКП(б) паставіў перад гаспадарчымі арганізацыямі задачу—узначаліць стаханаўскі рух. Наркамат прамысловасці БССР і яго трэсты, кожны на сваім участку, павінны былі

стаць штабам арганізацыйна-тэхнічнага кіраўніцтва стаханаўскім рухам, чаго, нажаль, яны яшчэ не дабіліся, як гэта канстатаваў промаддзел ЦК ВКП(б) на нарадзе, праведзенай тав. Андрэевым.

Дзе прычыны маруднасці ў разгортванні стаханаўскага руху на прадпрыемствах мясцовай прамысловасці, буйнейшых недахопаў у правядзенні стаханаўскіх дэкад і пяцідзенак, якія не заўсёды дасягаюць пастаўленай мэты і ў радзе выпадкаў даюць мізэрны эфект?

Прычыны—у наяўнасці за апошні час элементаў самасупакоенасці. Рад гаспадарнікаў, як відаць, лічыць, што стаханаўскі рух «прашоў» і цяпер можна «спакойна» працаваць. Такія апартуністычныя настроі прывялі к таму, што мясцовая прамысловасць у цэлым выканала промфінплан за люты толькі на 99,2%. Дасягненні перадавых прадпрыемстваў, перавыканаўшых промфінплан на 1.600 тыс. руб., з'елі адстаючыя, якія недавыканалі свой промфінплан на 1.870 тыс. руб. Са 176 прадпрыемстваў Наркаммясцпрома 65 не выканалі план.

Галоўнай прычынай прарыву ў лютым з'яўляецца тое, што рад гаспадарнікаў, прафесіянальных і партыйных кіраўнікоў забыў выключна вострыя ўказанні таварыша Сталіна аб недапушчальнасці арыентоўкі на так званыя сярэднія лічбы. Нас не можа задаволіць сярэдняя лічба. Мы не можам дапусціць, каб за шырокую спіну перадавых хаваліся адстаючыя, зрываючы станоўчыя вынікі работы большасці стаханаўцаў мясцовай прамысловасці. Сярэдняя лічба, як і ва ўсіх іншых выпадках, падвяла нас у лютым. Таму наша задача—зрабіць з гэтага ўсе неабходныя большэвіцкія вывады і дабіцца, каб у БССР не было ні аднаго адстаючага прадпрыемства.

Што прадстаўляе сабой мясцовая прамысловасць БССР і якія галіны зрываюць дасягненні перадавых яе прадпрыемстваў?

Уся прамысловасць Беларусі, разам з саматужнай і прамысловасцю РВК, дала ў 1935 годзе прадукцыі на паўтара мільярда рублёў. У бягучым годзе запланаваны рост, прыкладна, на 20%. Наркаммясцпром у 1936 годзе павінен даць прадукцыі на 430 мільёнаў рублёў, маючы 176 прадпрыемстваў з 42.603 рабочымі з агульнай колькасці 159 тыс. рабочых па БССР.

Калі-б нашы гаспадарчыя, кіруючыя арганізацыі, трэсты і наркаматы сапраўды з'яўляліся штабам арганізацыйна-тэхнічнага кіраўніцтва стаханаўскім рухам, калі-б партыйныя арганізацыі, райкомы, гаркомы і промаддзел ЦК хутка і аперацыйна ў лютым месяцы выяўлялі прычыны адставання, у БССР не было-б адстаючых прадпрыемстваў. Аднак, арыентоўка многіх нашых гаспадарнікаў, партыйных і прафесіянальных кіраўнікоў на сярэднюю лічбу прывяла к таму, што ў лютым выканалі свой промфінплан толькі 122 прадпрыемствы і не выканалі 65. Такім чынам, адстала трэцяя частка ўсіх прадпрыемстваў мясцовай прамысловасці БССР, і пры гэтым важнейшыя: будпрамысловасць, торфзаводы, швейпрамысловасць і т. д. І гэта пры ўмове вялікага росту стаханаўскага руху. У снежні мясцовая прамысловасць налічвала 4.715 стаханаўцаў, а на 1 сакавіка—ужо 10.899, г. зн. каля 25% усяго складу рабочых.

Адкуль-жа ідзе гэта адставанне?

Вельмі дрэнна працавала Белдрэс. Яе работнікі не выконвалі і да гэтага часу не выконваюць рашэння снежаньскага пленума ЦК ВКП(б)

аб стаханаўскім руху. Стаханаўскі рух у Віцебску, Оршы, Магілеве зрывае Белдрэс, якая забяспечвае гэтыя гарады электраэнергіяй.

Аднак, тав. Калабкоў—дырэктар буйнейшай фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі», якая ў лютым таксама не выканала промфінплан,—па-большэвіцку заявіў на галіннай канферэнцыі швейнай прамысловасці, што не толькі Белдрэс з'яўляецца прычынай зрыву промфінплана па фабрыцы. Выканала-ж свой промфінплан віцебская фабрыка «Профінтэрн», не гледзячы на тое, што ў яе былі прастоі па той-жа прычыне, як і на фабрыцы «Сцяг індустрыялізацыі».

Таму пры ўсім жаданні многіх таварышоў знайсці апраўданне ў аб'ектыўных прычынах, прыходзіцца сказаць, што гэта прычыны не рашаючыя. І сапраўды, хіба прамысловасць Менска, Барысава мае падставы спасылацца на работу Белдрэс, як на прычыну адставання ў лютым? Не, не мае. Белдрэс не абслугоўвае энергіяй Менск і Барысаў, аднак іх мясцовая прамысловасць таксама не выканала промфінплан у лютым.

Чаму-ж адсталі менскія прадпрыемствы? Яны адсталі ў асноўным па той-жа прычыне, як і прадпрыемствы Віцебска і іншых гарадоў, г. зн. у выніку самасупакоенасці і раўнання на сярэднія лічбы.

Асноўная задача, пастаўленая рашэннем снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) перад усімі гаспадарчымі, партыйнымі і прафесіянальнымі арганізацыямі—на працягу бліжэйшага перыяду цалкам рэалізаваць выяўленыя стаханаўскім рухам новыя тэхнічныя магутнасці, пераглядзець застарэлыя тэхнічныя нормы і нормы выпрацоўкі і рэалізаваць велізарныя вытворчыя рэсурсы для максімальнага ўмацавання і паскорання нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

ЦК КП(б)Б і СНК Беларусі праводзяць рад мерапрыемстваў па рэалізацыі дадатковых рэсурсаў, выяўленых стаханаўскім рухам у радзе важнейшых галін прамысловасці. Пасля студзеньскага пленума праведзены нарады стаханаўцаў і кіраўнікоў будаўнічай, швейнай, лясной, металаапрацоўчай, скурабутковай, харчовай і іншых галін прамысловасці. Нарады далі выключна важныя вынікі.

Пасля нарады па будаўніцтву пры ЦК ВКП(б) адбылася нарада стаханаўцаў прамысловасці будматар'ялаў БССР пры ЦК КП(б)Б і СНК. На аснове прапаноў стаханаўцаў гэтай нарады беларускія арганізацыі палічылі магчымым павялічыць план вытворчасці цэглы з 225 млн. штук у 1935 г. да 452 млн. штук у 1936 г. па плану і да 500 млн. штук па сустрэчных лічбах. Нарадай прынята прапанова арганізаваць штучную сушку сырца. У 1935 г. па БССР штучныя сушылкі выпусцілі 7685 тыс. шт. цэглы, а ў 1936 г., па плану, прынятаму нарадай, штучным спосабам павінна быць высушана 12 млн. шт. цэглы. Для гэтага ў месячны тэрмін павінны быць пабудаваны на цагельных заводах блокі: на менскім заводзе № 1—чатыры, на заводзе № 3—адзін, на заводзе № 8—адзін, на гомельскім заводзе № 6—адзін, на віцебскім № 13—два. Акрамя таго, па прамысловасці горсоветаў і райвыканкомаў пабудаваць па аднаму блоку: на заводах: №№ 5 і 6 (Менск), № 2 (Віцебск), № 5 (Гомель), № 1 (Полацк), № 4 (Магілеў).

**Для народна-гаспадарчага плана БССР праблема цэглы—адна з цэнтральных з пункту погляду ажыццяўлення ўсяго плана новага будаўніцтва. Вось чаму ЦК КП(б)Б у сваёй практычнай рабоце ўдзяляе ёй вялікую ўвагу.**

Задачу вытворчасці 500 млн. штук цэглы супроць 225 млн. шт. у 1935 г. дадуць магчымасць вырашыць дасягненні стаханаўцаў цагельных заводаў. Лепшыя стаханаўцы менскіх заводаў №№ 1 і 3 далі на прэсах, зробленых у БССР, да 50 тыс. шт. сырца за змену замест нормы ў 15—18 тыс. шт., выявіўшы такім чынам дадатковыя магутнасці прэсавай гаспадаркі. Яшчэ большыя рэзервы магутнасці выяўлены ў печах абжыгу.

Каб кожны цагельны завод Беларусі, і з новымі сушылкамі і без новых сушылак, падвоіў сваю праграму, трэба добра падрыхтаваць інтэрнаты, новую плошчу для сцеліва і інш. Гаспадарчыя, партыйныя і прафесіянальныя арганізацыі павінны штодня правяраць, як выконваюцца гэтыя заданні ЦК і СНК. Трэба сказаць прама, што справа пакуль што ідзе павольна. Відавочна, у прамысловасці будматар'ялаў ёсць людзі, якія не разумеюць усёй важнасці пастаўленых задач, разважаюць аб нявыгаднасці ўкладаць капіталы ў цагельную прамысловасць, бо гэта ёсць нібы чыстая страта для Беларусі.

ЦК КП(б)Б і СНК БССР ужо ўдарылі ў сваіх рашэннях па гэтай антыпартыйнай балбатні, аднак скрытае процідзеянне мерапрыемствам партыі па рэалізацыі рэзерваў, выяўленых у цагельнай прамысловасці БССР стаханаўскім рухам, усё яшчэ мае месца.

Мы лічым, што баявая задача Наркаммясцпрома, акрвыканкомаў, райвыканкомаў, горсоветаў, усіх райкомаў і гаркомаў, а таксама промаддзела ЦК КП(б)Б—наладзіць штодзенны кантроль за ходам выканання рашэнняў ЦК і СНК БССР па гэтаму пытанню. У пачатку красавіка намечана сабраць усебеларускую нараду стаханаўцаў цэглы і іншых галін прамысловасці будматар'ялаў. Тав. Гікало паставіў перад нарадай асноўны лозунг: за вытворчасць 500 млн. штук цэглы. На выкананне гэтага лозунга мы будзем арганізоўваць масу рабочых і інжынерна-тэхнічных работнікаў. Акрамя таго, для фарсіравання пабудовы сушыльнай гаспадаркі і выканання ўсіх мерапрыемстваў па рэалізацыі плана ЦК арганізаваў у газеце «Рабочий» спецыяльны аддзел: «За 500 млн. цэглы».

З вытворчасцю будматар'ялаў звязана і пытанне аб цэменце. У Крычаве працуе падначалены Галоўцэменту завод з праграмай ў 140 тыс. тон. цэменту ў год. З гэтай колькасці прадукцыі БССР для свайго будаўніцтва атрымлівае 10—12 тыс. тон. Крычаўскі цэмент вельмі высокай якасці і ідзе на пабудову маскоўскага метро.

Натуральна, што ў працэсе разгортвання стаханаўскага руху мы звярнулі сваю ўвагу на выяўленне дадатковых рэсурсаў. Нечаканай для нас аказалася, што камбінацыя саюзнай прамысловасці з мясцовай рэспубліканскай можа даць выключны эфект. Трэст будматар'ялаў Наркаммясцпрома мае ў сваім распараджэнні закінуты кар'ер трэпелаў на ст. Шэсцераўка, Клімавіцкага раёна, у 25 клм. ад Крычава і ў 7 клм. ад ст. Шэсцераўка. 15 тысяч тон трэпелаў ужо здабыта і ляжыць напаверсе. Кар'ер закінулі з-за непатрэбнасці. Маемасць (рэйкі, ваганеткі) раскрадвалася, памяшканне займалася кім папала. Калі дырэктар завода тав. Тімафееў правёў вопыт прымесі трэпелаў да цэменту, то атрымаў цэмент маркі 000. Па разліках выходзіць, што калі дадаць 44 тыс. тон трэпелаў да цэменту, то выйдзе звышпланавых 30 тыс. тон цэменту. Калі з гэтых 30 тыс. тон Беларусь атрымае 15 тыс. тон, а рэшту—саюзная прамысловасць, то гэта будзе і для Беларусі і для саюзнай прамысловасці каласальным дасягненнем.

Такім чынам, мы маем рэальную магчымасць атрымаць у бягучым годзе дадаткова не менш 20—30 тыс. тон цэменту. Трэба толькі арганізаваць падвозку трэпелаў да ст. Шэсцераўка, на што патрабуецца ўсяго 10 аўтамашын «ЗІС» і адзін эскалатар для здабычы і пагрузкі. Усе даныя праверааны вопытам, але з-за недапушчальнай халатнасці і няўважлівасці да важнейшых пытанняў вытворчасці будматар'ялаў справа не рэалізавана. Натуральна, што наш пярвейшы абавязак—пракантраляваць і выцягнуць гэту справу, паколькі яна пры стаханаўскіх метадах работы можа даць дадаткова агромную масу дэфіцытнейшых будматар'ялаў.

Так абстаіць справа ў прамысловасці будматар'ялаў. Няма ніякага сумнення, што калі тт. Бампій (трэст будматар'ялаў), Гапонаў (будсаюз промкааперацыі) і дырэктары прадпрыемстваў, падпарадкаваных горсовету, здолеюць стаць штабам стаханаўскага руху, узначаліць яго як належыць і па-большэвіцку пачнуць змагацца за выкананне баявых задач, пастаўленых перад намі партыяй і ўрадам, то прамысловасць будматар'ялаў дасць 500 млн. цэглы.

Велізарныя дадатковыя рэзервы выяўлены як у працэсе падрыхтоўкі, так і правядзення галінных канферэнцый, літаральна на ўсіх прадпрыемствах мясцовай прамысловасці. Устаноўлена, напрыклад, што скурпрамысловасць БССР у выніку стаханаўскага руху можа выканаць пяцігадовы план сіламі існуючых прадпрыемстваў, не будуючы новага скурзавода коштам у 10 млн. руб. Для абутковай прамысловасці таксама няма неабходнасці будаваць новую фабрыку, паколькі існуючыя могуць цалкам пакрыць і перакрыць запланаваную колькасць прадукцыі. Галінная канферэнцыя швейнай прамысловасці выявіла 35% дадатковай магутнасці. Драждовая павысіла норму выпрацоўкі на 44% і выявіла магчымасць даць тысячы тон дадатковай прадукцыі. Адным словам, якую-б галіну мясцовай прамысловасці ні закрануць, у любой з іх мы выкрываем агромныя дадатковыя магутнасці, якія могуць даць нам выключна многа ва ўсёй нашай практычнай рабоце.

Перыяд правядзення галінных канферэнцый мясцовай прамысловасці БССР—выключна адказны, паколькі ў гэты час рэалізуюцца важнейшыя вынікі стаханаўскага руху, якіх ён дасягнуў у працэсе выяўлення новых тэхнічных магутнасцей.

Усім галінам прамысловасці неабходна ўлічыць на сваіх канферэнцыях (а іх мяркуецца правесці звыш 30) вопыт передавікоў і наогул вопыт праведзеных ужо канферэнцый, каб па-сапраўднаму выканаць рашэнні снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) аб устанаўленні новых тэхнічных магутнасцей і норм выпрацоўкі.

Бюро ЦК КП(б)Б за апошні час многа займалася пытаннямі кіраўніцтва стаханаўскім рухам на розных прадпрыемствах Беларусі. Напрыклад, абгаворана пытанне аб зрыве стаханаўскага руху на фабрыцы «Дубровенская мануфактура», якая па віне тэкстыльнага кіраўніцтва Наркаммясцпрома, з-за блізарукасці, бюракратычнага раўнадушша, недастатковай пільнасці і настойлівасці кіраўніцтва фабрыкі (т. Пруднікаў), прастаяла ў лютым 19 дзён. Начальнік тэкстыльнага кіраўніцтва Наркаммясцпрома тав. Каплан папярэджан, што калі ён дапусціць у далейшым праявы падобнага бюракратызму, то будзе зняты з работы.

Рашэнне бюро ЦК КП(б)Б па пытанню аб тэкстыльным кіраўніцтве Наркаммясцпрома БССР—сур'ёзнае папярэджанне ўсім гаспадар-

чым кіраўнікам прадпрыемстваў і трэстаў Беларусі. ЦК КП(б)Б і ўрад Беларусі не пацерпяць ні малейшага парушэння пастаноў снежаньскага пленума ЦК ВКП(б), бюракратычных адносін да патрэб стаханаўцаў. Зрыў стаханаўскай работы ёсць грубейшае скажэнне генеральнай лініі партыі, і кожны, хто праявіць хоць-бы малейшую спробу апартуністычных адносін да выканання рашэнняў пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б аб стаханаўскім руху, будзе сурова пакараны.

ЦК КП(б)Б прыняў рашэнне аб зняцці з работы тав. Сямёнава—дырэктара фабрыкі імя Кагановіча ў Віцебску («Дзвіна»), у сувязі з тым, што ён не ўзначаліў стаханаўскі рух, не кіраваў ім і такім чынам сарваў выкананне рашэнняў снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) і студзеньскага пленума ЦК КП(б)Б па пытаннях стаханаўскага руху.

ЦК КП(б)Б перамясціў дырэктара чашніцкай фабрыкі «Чырвоная зорка» на пасаду нам. дырэктара, бо фабрыка, не выконваючы свайго планавага задання, зрывала стаханаўскі рух у мясцовай прамысловасці БССР.

Такім чынам рад прынцыповых рашэнняў ЦК КП(б)Б рэзка б'е па ўсіх, хто перашкаджае або тармозіць правядзенне ў жыццё рашэнняў партыі аб стаханаўскім руху.

Стаханаўскі рух у мясцовай прамысловасці БССР як след яшчэ не разгарнуўся. Стрыкатасць у стаханаўскім руху ёсць рэзультат адсутнасці кіраўніцтва, рэзультат самацёку. Чым, як не самацёкам, можна вытлумачыць такую з'яву, што ў нас, у БССР, усе, каму не лень, прызначаюць стаханаўскія дэкады і пяцідзенкі, а партыйныя арганізацыі ГК і РК канстатуюць толькі іх няўдачы, як быццам яны тут не пры чым.

Разгортваннем стаханаўскага руху неабходна штодзенна кіраваць, плануючы яго з выключнай добрасумленнасцю, уважлівымі чулымі большэвіцкімі адносінамі і ні ў якой меры не дапускаючы бюракратызацыі гэтай важнейшай справы.

Што значыць планаваць стаханаўскі рух? Гэта значыць дакладна ўлічыць стаханаўцаў, выходзячы з паказчыкаў якасці работы, эканоміі матар'ялу на прадпрыемствах, якія працуюць на недастатковай сыравіне, або з колькасных плюс якасных паказчыкаў на прадпрыемствах з недэфіцытнай сыравінай.

Гэта значыць не супакойвацца тым, што на прадпрыемствах 20% стаханаўцаў, а дапамагчы ўсім рабочым стаць стаханаўцамі. Гэта значыць прагледзець кожную аперацыю, даць кожнаму рабочаму кансультацыю, дакладна растлумачыць яму, якія дасягненні на гэтай аперацыі мы будзем лічыць стаханаўскімі (колькасныя ці якасныя, або **толькі** якасныя плюс эканомія сыравіны). Гэта значыць дапамагчы рабочаму дасягнуць стаханаўскіх паказчыкаў і перакрываць іх.

Планаваць работу неабходна разам са стаханаўцамі, на аснове іх вопыту, арганізуючы дапамогу рабочым, якія яшчэ не з'яўляюцца стаханаўцамі на данай аперацыі. Планаваць стаханаўскі рух, гэта значыць не толькі «вітаць», але і канкрэтна, аперацыйна дапамагаць стаханаўцам, прадугледжваць магчымыя затрымкі, хутка расшываць пробкі, рашуча ламаць усе і ўсялякія тармазы.

Кіраваць стаханаўскім рухам—значыць ісці на кожную аперацыю вытворчага канвеера і дапамагаць рабочым стаць стаханаўцамі.

Калі мы даб'емся такой работы ад нашых дырэктароў, інжынерна-тэхнічных работнікаў, партыйных і прафесіянальных арганізацый, тады справа ў нас бяспрэчна пойдзе выключна хутка і добра.

Рыхтуючыся да стаханаўскай дэкады або пяцідзенкі, трэба ўважліва прагледзець усе вытворчыя працэсы, каб забяспечыць максімальны эфект у выкананні промфінплана.

Горшай дыскрэдытацыяй стаханаўскага руху з'яўляюцца мізэрныя рэзультаты або выкананне промфінплана на 80—90% у стаханаўскую дэкаду. Мы мелі рад фактаў, калі прадпрыемства, з-за недастатковай падрыхтаванасці стаяла пасля стаханаўскай дэкады, бо ўся сыравіна была перапрацавана. Глыбока памыляюцца тыя гаспадарчыя, прафесіянальныя і партыйныя работнікі, якія лічаць, што такія «стаханаўскія» дэкады з'яўляюцца дасягненнем. Іменна выходзячы з гэтага, ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б устанавілі, што ні адна стаханаўская пяцідзенка, дэкада і т. п. не можа быць абвешчана без дазволу ЦК і Наркаммясцпрома, а на прадпрыемствах саюзнай прамысловасці—без дазволу ўпаўнаважаных адпаведных наркаматаў і промаддзела ЦК КП(б)Б.

Стаханаўскі рух ні ў якім разе не церпіць бюракратычных адносін і валакіты. Тым не менш за апошні час якраз наглядаюцца такія адносіны пры вырашэнні пастаўленых стаханаўскім рухам пытанняў.

Узорам выключнай валакіты трэба лічыць праходжанне пытання аб пабудове сушылак на цагельных заводах. Адпаведнае рашэнне ЦК КП(б)Б і СНК БССР не выконвалася два месяцы з-за бюракратычных фармальных перашкод. У наркаматах, трэстах і іншых гаспадарчых апаратах затрымліваўся рад пытанняў, ад якіх залежала далейшае разгортванне стаханаўскага руху. Таму ЦК КП(б)Б вымушан быў прыняць спецыяльнае рашэнне.

Перад усімі гаспадарчымі, партыйнымі і прафесіянальнымі кіраўнікамі стаіць задача—рашуча знішчыць падобныя факты, несумяшчальныя з генеральнай лініяй нашай партыі. Неабходна папярэдзіць, што пры выяўленні ў далейшым такога роду фактаў партыя і ўрад будуць выключна сурова караць вінаватага.

На нарадзе пры ЦК ВКП(б) тав. Андрэеў востра паставіў пытанне перад усімі наркаммясцпромамі, партыйнымі і прафесіянальнымі арганізацыямі, у прыватнасці Беларусі, аб тым, каб зараз-жа арганізаваць перавод большасці рабочых на прагрэсіўную аплату працы. У рашэннях снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) адзначана, што ліквідацыя адсталых форм зарплаты, максімальнае ўкараненне прагрэсіўкі ва ўсе галіны прамысловасці—адзін з важнейшых стымулаў далейшага разгортвання стаханаўскага руху.

Як-жа гэтыя ўказанні выконваюцца прамысловасцю БССР? Даволі сказаць, што на прагрэсіўную сістэму аплаты пераведзена не звыш 5 працантаў рабочых.

Перад усёй прамысловасцю БССР стаіць баявая задача—у самы хуткі тэрмін выканаць указанні пленума ЦК ВКП(б) і тав. Андрэева аб максімальным укараненні прагрэсіўнай сістэмы аплаты працы. Усе партыйныя арганізацыі БССР павінны ўзяць гэты ўчастак работы пад свой неаслабны кантроль.

Партыйныя і прафесіянальныя арганізацыі павінны рашуча змагацца з саматужніцтвам і blізарукасцю гаспадарнікаў у справе ўкаранення прагрэсіўнай аплаты працы. Некаторыя гаспадарнікі не хочуць нават падумаць над тым, што прагрэсіўная аплата працы вы-

гадна як для данага прадпрыемства, так і для ўсёй пролетарскай дзяржавы, што без прагрэсіўнай аплаты працы нам цяжка будзе правесці новыя тэхнічныя нормы.

Таксама вельмі дрэнна наладжана разгортванне тэхнічнай вучобы ў мясцовай прамысловасці Беларусі. Вінаваты ў гэтым як Наркаммясцпром, трэсты, так і партыйныя арганізацыі. А трэба сказаць, што ў мінулым годзе прамысловасць БССР (у асноўным мясцовая) па зотаўскаму руху заняла першае месца ў Совецкім саюзе. Значыць вопыт у нас ёсць, магчымасці агромны. У чым-жа справа? Выключна ў аслабленні ўвагі. Многія гаспадарчыя, партыйныя і прафесіянальныя кіраўнікі не зразумелі ўказання пленума ЦК ВКП(б) аб тым, што тэхвучоба з'яўляецца важнейшым элементам паспяховага разгортвання стаханаўскага руху.

Новыя тэхнічныя нормы патрабуюць глыбокага аўладання тэхнікай вытворчасці. У 1935 г. па Наркаммясцпрому здалі тэхмінімум першай ступені 21.337 рабочых, многія на выдатна, на значок «ЗОТ». Сярод гэтых выдатнікаў-зотаўцаў мясцовай прамысловасці Беларусі— 11 тысяч стаханаўцаў. У бягучым годзе намечана ахапіць тэхмінімумам першай ступені яшчэ 17.940 рабочых мясцовай прамысловасці. Акрамя таго, курсы павінны ахапіць 11.645 рабочых і 1.242 інжынерна-тэхнічных работнікаў, індывідуальная вучоба—580 чал., вялікую колькасць рабочых—агульнаадукацыйныя школы.

Але мала адпусціць грошы, каб лічыць задачу выкананай. Тэхвучоба патрабуе выключна ўважлівых адносін да падбору выкладчыкаў, выпрацоўкі праграм для кожнай галіны прамысловасці і інш. Многія гора-кіраўнікі гавораць: «няма падручнікаў, праграм, настаўнікаў». Усё гэта—неабгрунтаванае спасыланне на аб'ектыўныя прычыны. Амаль у кожным горадзе, на кожным прадпрыемстве ёсць вялікая колькасць інжынерна-тэхнічных работнікаў, якія могуць актыўна ўключыцца і ўзначаліць стаханаўскі рух, прыняўшы непасрэдны ўдзел у разгортванні тэхвучобы. У рабочых гуртках можна вывучыць і распрацаваць вопыт і практыку лепшых стаханаўцаў, што дасць каласальны рэзультат для ўздыму тэхнічнага ўзроўню рабочых мас. Мы павінны зноў, як і ў 1934-35 гг., паставіць тэхвучобу ў цэнтры ўвагі партыйных, прафесіянальных і гаспадарчых арганізацый гарадоў і раёнаў Беларусі. Калі мы гэтага даб'емся, то бясспрэчна поўнасцю выканаем рашэнні пленума ЦК ВКП(б) па гэтаму пытанню.

Трэба яшчэ раз падкрэсліць, што вытворчы апарат мясцовай прамысловасці Беларусі найбольш слабы ў параўнанні з апаратам іншых галін прамысловасці. Таму патрэбны асабліва востры і пільны партыйны нагляд і кіраўніцтва разгортваннем стаханаўскага руху ў мясцовай прамысловасці і асабліва ў прамысловасці горсоветаў і райвыканкомаў.

У прамысловасці БССР налічваецца 7083 комуністы, з якіх за станком працуе 3180. Аналізуючы матар'ялы па 60 прадпрыемствах (Гомеля, Віцебска, Бабруйска, Барысава, і двух раёнаў Менска—Кагановіцкага і Варашылаўскага), мы бачым, што на гэтых прадпрыемствах за станком працуе 1081 комуніст, з іх стаханаўцаў—853. Гэта значыць, што стаханаўцамі на гэтых прадпрыемствах з'яўляюцца, прыкладна, 80% усіх комуністаў. Такая лічба безумоўна ні ў якой меры не можа нас задаволіць, бо 20% комуністаў ад станка ўсё яшчэ не стаханаўцы. Галоўная прычына гэтаму—недастатковая дапамога комуністам у павышэнні кваліфікацыі, слабая партыйна-масавая ра-



бота, адсутнасць уважлівых бальшэвіцкіх адносін да ўцягнення іх у стаханаўскі рух.

Наша баявая задача—дабіцца, каб усе комуністы, якія працуюць на прадпрыемствах, у трэстах, наркаматах, былі стаханаўцамі, адчувалі ўсю адказнасць за чоткасць работы свайго ўчастка, садзейнічалі разгортванню стаханаўскага руху ў падпарадкаваных ім прадпрыемствах.

ЦК КП(б)Б правёў нарады з сакратарамі парткомаў па пытаннях партыйнай работы на прадпрыемствах у сувязі з разгортваннем стаханаўскага руху. Па ініцыятыве тав. Гікало ў Менску былі арганізаваны спецыяльныя месячныя курсы, якія скончылі 37 парторгаў-стаханаўцаў, абагуліўшы свой вопыт работы.

Пытанне аб вядучай ролі комуніста ў разгортванні стаханаўскага руху—важнейшае пытанне ўсёй нашай работы. У чарговым артыкуле прааналізуем, як абстаіць справа ў гэтай галіне па важнейшых партыйных арганізацыях БССР: Гомеля, Віцебска, Менска, Бабруйска, Барысава і іншых прамысловых цэнтраў. Нашым лозунгам тут павінна быць: «Усе комуністы, працуючыя на вытворчасці, павінны быць у авангардзе стаханаўскага руху і самі быць стаханаўцамі».

Ліст тав. Орджанікідзе, у якім прапануецца ўсёй цяжкай прамысловасці правесці ў красавіку праверку спаборніцтва на лепшую падрыхтаванасць для пераходу на сталую работу па-стаханаўску, на лепшую рэалізацыю рашэнняў галінных канферэнцый, уздым стаханаўскага руху на вышэйшую ступень і сустрэчу новымі вытворчымі дасягненнямі міжнароднага пролетарскага свята 1 Мая, знайшоў шырокі водгук і сярод рабочых прамысловых прадпрыемстваў БССР. Задача партыйных, профсаюзных арганізацый, кіраўніцтва трэстаў і гаспадарчых наркаматаў—уключыцца ў гэту справу і ўзначаліць яе ва ўсіх галінах нашай прамысловасці.

У гістарычнай прамове таварыша Сталіна на першай усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў, у рашэннях снежаньскага і студзеньскага пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б з выключнай чоткасцю і яснасцю пастаўлены задачы разгортвання стаханаўскага руху. Цяпер усё залежыць ад нас, ад гаспадарчых, прафесіянальных і партыйных кіраўнікоў раёнаў і цэнтра.

Тав. Гікало штодзенна вучыць нас, як востра і прынцыпова трэба адносіцца да кожнага парушэння генеральнай лініі партыі, змагацца з тымі, хто тармозіць стаханаўскі рух. Няўхільна ажыццяўляючы гэтыя ўказанні, мы дакажам яшчэ і яшчэ раз, што мы вырашым пастаўленыя перад намі задачы ў справе разгортвання стаханаўскага руху ўшыр і ўглыб.

Стаханаўскі рух як у мясцовай прамысловасці БССР, так і ў саюзнай, павінен быць узняты на яшчэ вышэйшую ступень. Наш баявы лозунг: Ні аднаго адстаючага прадпрыемства, цэха, агрэгата. Комуністы —на чале стаханаўскага руху. Ператворым прамысловасць БССР як мясцовую, так і саюзную, у стаханаўскую.

---

П. Кароўнікаў

# Веснавая сяўба і стаханаўскі рух на вёсцы

1936 год з'яўляецца першым годам практычнай рэалізацыі высунутага таварышом **Сталіным** задання аб павелічэнні штогадняй вытворчасці зярна і давядзенні яе ў бліжэйшыя гады да 7—8 мільярдаў пудоў. Ужо ў гэтым годзе валавы збор зярна па СССР па плану, зацверджанаму партыяй і ўрадам, павінен скласці 6.380 млн. пудоў, а па БССР—173,1 млн. пудоў супроць 120,1 млн. пудоў у 1935 г.

Гэта павелічэнне збору зернавых пойдзе перш за ўсё за лік рашучага павышэння ўраджайнасці. У адказ на заклік правадыра—таварыша **Сталіна**—у калгасах і соўгасах разгортваецца спаборніцтва калгаснікаў і рабочых соўгасаў за павышэнне ўраджайнасці, за ўзорнае правядзенне веснавой сяўбы. На чале гэтага руху ідуць выдатныя майстры высокіх ураджаяў, натхнёныя сустрэчай з правадыром, з кіраўнікамі партыі і ўрада, ордэнаносцы калгасаў і соўгасаў.

Задача нізавых партыйных арганізацый калгасаў, соўгасаў, сельсоветаў, палітаддзелаў соўгасаў і райкомаў КП(б)Б—узначаліць энтузіязм і актыўнасць калгасных мас і рабочых соўгасаў, усямерна папулярызаваць мерапрыемствы партыі і ўрада, накіраваныя на вырашэнне той велізарнай задачы, якая правадыром партыі пастаўлена перад сельскай гаспадаркай. Палітыка-масавая работа на вёсцы, у калгасах і соўгасах, сярод калгаснікаў і рабочых соўгасаў павінна быць насычана канкрэтнымі мерапрыемствамі, выходзячы з умоў кожнага калгаса і соўгаса, па мабілізацыі шырокіх мас на большэвіцкае правядзенне веснавой сяўбы. Комуністы і комсамольцы, якія працуюць у калгасах, соўгасах, МТС, павінны і абавязаны стаць авангардам беспартыйных мас у барацьбе за высокі ўраджай, за выкананне і перавыкананне дзяржаўнага плана развіцця і высокай прадукцыйнасці жывёлагадоўлі.

Комуністы і комсамольцы павінны стаць застрэльшчыкамі развіцця стаханаўскага руху ва ўсіх галінах соцыялістычнай сельскай гаспадаркі.

Абмен партыйных дакументаў павінен быць цесна ўвязаны з уздымам авангарднай ролі вясковых партыйных арганізацый і кожнага комуніста паасобку ў барацьбе за высокі ўраджай соцыялістычных палёў, за поўнае выкарыстанне механічнай сілы і высокай тэхнікі нашай сельскай гаспадаркі, за высокаякаснае правядзенне веснавой сяўбы і вырашэнне ўсіх задач, пастаўленых партыяй і ўрадам перад соцыялістычнай сельскай гаспадаркай. Комуністы і комсамольцы павінны арганізаваць і ўцягнуць у стаханаўскі рух шырокія масы калгаснікаў, рабочых соўгасаў і трактарыстаў, усямерна

папулярызуючы вопыт перадавых стаханаўцаў і ўдарнікаў соцыялістычных палёў, ведучы рашучую барацьбу з усімі тормазамі і перашкодамі на шляхах развіцця стаханаўскага руху ў сельскай гаспадарцы.

Партыйныя арганізацыі ў калгасах, соўгасах, МТС і райкомы КП(б)Б павінны памятаць, што класавыя ворагі і іх агентура будуць імкнуцца ўсімі мерамі процідзейнічаць і падрываць масавае разгортванне стаханаўскага руху ў сельскай гаспадарцы. Партыйныя арганізацыі і кожны комуніст, працуючы ў сельскай гаспадарцы і кіруючы ёю, павінны ўмець своечасова выявіць і выкрыць усякія манеўры класавага ворага, даць ім рашучы адпор і мабілізаваць шырокія масы калгаснікаў, рабочых соўгасаў, трактарыстаў і ўсіх агратэхнічных і зооветработнікаў на выкананне рашэнняў партыі і ўрада, на большэвіцкае правядзенне першай стаханаўскай вясны.

У ланцугу мерапрыемстваў, якія забяспечваюць сяўбу, першае і асноўнае гэта—насенне.

Насеннем мы ў асноўным забяспечаны. План засыпкі зернавых выканан на 112,1%. Насення лёну ў нас—106,3%, канапель—102%, бульбы—123%. Такім чынам, тут у нас, здавалася-б, усё ў парадку.

Аднак, было-б няправільным за агульнымі лічбамі, як быццам спрыяючымі, не бачыць рад адстаючых раёнаў, не здолеўшых пабольшэвіцку сустрэць вясну. Рад раёнаў, як Капаткевіцкі, Бягомельскі, Дрысенскі, не поўнасцю забяспечаны насеннем, не закончылі рамонт інвентара, не падрыхтавалі цягавую сілу. Гэта, у першую чаргу, з'яўляецца вынікам адсутнасці з боку райкомаў партыі, райвыканкомаў, райземаддзелаў і МТС большэвіцкага кіраўніцтва падрыхтоўкай да веснавой сяўбы,—з аднаго боку, і грубых парушэнняў статута сельскагаспадарчай арцелі,—з другога.

> У сваёй пастанове аб дзяржаўным плане веснавой сяўбы па БССР на 1936 год СНК БССР і ЦК КП(б)Б указваюць «савецкім і партыйным арганізацыям раёнаў на недапушчальнасць наяўнасці ў калгасах і соўгасах значнага проценту некандыцыйнага па чыстаце насення і папярэджваюць, што ачышчаным насеннем зернавых культур будзе лічыцца толькі насенне, прапушчанае праз трыер і даведзенае да ўстаноўленай кандыцыі па чыстаце».

Гэту важнейшую дырэктыву партыі і ўрада рад раёнаў выконвае з рук вон дрэнна. Ачыстка зернавых праз трыер ва ўсіх раёнах і калгасах яшчэ не закончана. У сярэднім па рэспубліцы ачышчана 98,8%. Апошняя дэкада па ачыстцы зернавых дала мізэрны процант—0,6%, а па ачыстцы насення лёну—1%. Яшчэ горшыя рэзультаты паказвае паўторная праверка насенных фондаў зернавых культур (пшаніцы, аўса, ячменю), і толькі некалькі раёнаў завяршылі паўторную праверку насення.

Рад раёнаў, нават пасля другой праверкі якасці насенных фондаў лёну, мае значны процант некандыцыйнага па чыстаце насення. Такое становішча мы маем у Віцебскім, Касцюковіцкім, Магілеўскім, Ушацкім, Хоцімскім і радзе іншых раёнаў. ЦК КП(б)Б спецыяльна папярэджваў аб гэтым кіраўніцтва Касцюковіцкага, Магілеўскага і Мсціслаўскага раёнаў, але тым не менш становішча ў гэтых раёнах не палепшылася.

Штогод мы губляем сотні тысяч пудоў хлеба толькі з-за таго, што праводзім сяўбу дрэнным, негатунковым насеннем.

Райкомы КП(б)Б, райвыканкомы і зямельныя арганізацыі адстаючых раёнаў абавязаны ў бліжэйшыя дні забяспечыць завяршэнне ачысткі і сартоўкі ўсяго насення, з тым каб сяўбу ў гэтым годзе правесці выключна высокагатунковым і добраякасным насеннем. Пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб праверцы якасці ачысткі і гатункаабмену насенфондаў у калгасах і соўгасах БССР павінна быць безагаворачна выканана.

У гэтым годзе ўстаноўлен дзяржаўны план гатунковых пасеваў. Сёлета павінна быць засеяна выдатным гатунковым насеннем 239,8 тыс. гектараў яравых зернавых, у тым ліку: яравой пшаніцы 78,2 тыс. га, аўса—60,6 тыс. га, ячменю—100 тыс. га і бабовых—1 тыс. га. Такія велізарныя масівы гатунковых пасеваў дазволяць нам у самы кароткі час абнавіць увесь пасеўны матар'ял, укараніць у калгасную вытворчасць самыя высокаўраджайныя гатункі, якія не баяцца неспрыяючых умоў надвор'я і ўстойлівы ад розных захворванняў.

Для абсемянення 239,8 тысяч гектараў патрабуецца 395,6 тыс. цэнтнераў гатунковага насення. З гэтай колькасці рэсурсамі Дзяржгатункафонда пакрываецца 90.100 цэнт., Заготзярна—23.000 цэнт., уласным насеннем пасеўшчыкаў калгасаў—119.000 цэнт. Астатнія 163.500 цэнт. павінны быць пакрыты міжкалгасным абменам, які далёка яшчэ не закончан, што пагражае зрывам плана выканання дзяржаўнага задання па гатунковаму пасеву, бо план міжкалгаснага абмену на 10 красавіка г. г. цалкам па БССР выканан толькі на 64 проц., а ў раёнах: Горацкім—толькі на 4 проц., Рэчыцкім—11 проц., Стара-Дарожскім—15 проц.

Партыйныя, савецкія і зямельныя арганізацыі абавязаны забяспечыць неадкладную ліквідацыю гэтых прарываў, і міжкалгасны абмен закончыць у бліжэйшыя дні па ўсіх раёнах і калгасах рэспублікі.

СНК і ЦК КП(б)Б абавязалі Наркамзем, акрвыканкомы, акругкомы, райвыканкомы і райкомы партыі, загадчыкаў зямельных аддзелаў, дырэктароў МТС і соўгасаў:

> «Забяспечыць абавязковае выдзяленне ў кожным соўгасе і калгасе насенных участкаў для пасеву зернавых гатунковым і палепшаным насеннем. Устанавіць, што размеры выдзяляемых на насенне ўчасткаў павінны складаць: па азімай пшаніцы і жыту 12%, па аўсу і ячменю 13%, па яравой пшаніцы 15% пасеўнай плошчы гэтых культур.
>
> Насенныя ўчасткі па кожнай культуры павінны быць забяспечаны лепшымі папярэднікамі і добра апрацаванай з восені глебай (ранняе зябліва)».

Гэта пастанова мае велізарнае значэнне ў справе павышэння ўраджаяў.

Для насенных участкаў трэба загадзя адабраць лепшыя плошчы, зусім свабодныя ад пустазелля. Пасеўнае зярно для абсемянення плошчаў насенных участкаў павінна быць абавязкова гатунковае або мясцовае палепшанае, зусім ачышчанае ад пустазелля, шчуплых зернят і абеззаражанае ад галаўні. Гэта насенне павінна быць 100% кандыцыі, бо ўраджаем з насенных участкаў на наступны год павінна быць забяспечана ўся пасеўная плошча па адпаведных культурах данага калгаса або соўгаса. Толькі такім шляхам мы па-большэвіцку выканаем указанне таварыша **Сталіна** аб 7—8 мільярдах пудоў хлеба.

Сёння перамога ў барацьбе за ўраджай вырашаецца тым, як мы выканаем даведзены кожнаму калгасу план вывазкі гною, торфу, мінеральных угнаенняў, ачысткі і пратручвання насення, як арганізуем выкарыстанне трактарнага парка і прыцэпнага інвентара, падрыхтоўку кадраў, разгортванне стаханаўскага руху і соцспаборніцтва ў барацьбе за высокую якасць веснавой сяўбы.

Нельга забываць, што ў той час як перадавыя раёны ў 2—3 разы перавыконваюць планы тарфавання, 36 раёнаў не закончылі сваіх планаў, у тым ліку: Брагінскі выканаў план на 12,4%, Свяціславіцкі—19,9%, Пухавіцкі—32%, Чачэрскі—33%, Кругляпскі—39%. План вывазкі гною выканан па рэспубліцы толькі на 73,2%.

Трэба рашуча пакончыць з такімі адносінамі да ўгнаення палёў, моцна ўдарыць па ўсякаму ігнараванню мінеральных угнаенняў. Для павышэння ўраджайнасці нашых палёў дзяржава адпускае больш 100.000 тон рознага роду каштоўных мінеральных угнаенняў, але ва многіх раёнах да іх адносяцца проста па-варварску. На станцыях Слуцк, Рэчыца, Урэчча, Менск, Барысаў, Смалявічы і іншых тыднямі праляжваюць дзесяткі вагонаў фасфарытнай мукі, сільвініта і іншых угнаенняў, мокнуць і псуюцца пад дажджом, а райза МТС і соўгасы не прымаюць неабходных мер да ліквідацыі гэтага злачынства.

Такое становішча ў далейшым не можа быць цярпіма!

Райкомы партыі і райвыканкомы павінны ўзяць гэтую справу пад свой кантроль, выявіць віноўнікаў неахайных адносін да выкарыстання адпускаемых дзяржавай мінеральных угнаенняў, забяспечыўшы неадкладную вывазку ў калгасы і соўгасы ўсіх мінеральных угнаенняў, якія знаходзяцца на чыгуначных станцыях, і ў далейшым не затрымліваць на станцыях новыя партыі ўгнаення, адразу забіраючы яго ў гаспадаркі, якім яно прызначана.

СНК СССР і ЦК ВКП(б) прынялі пастанову аб мерапрыемствах па павышэнню ўраджайнасці, кантрактацыі і загатоўках канюшыны, лёну і канапель. Справа ідзе аб тым, каб у самы кароткі тэрмін выправіць зусім нецярпімае становішча, якое стварылася ў нас, у БССР, з такой важнейшай культурай як канюшына, і рэзка ўзняць ураджайнасць лёну і канапель.

Канюшына з'яўляецца каштоўнай кармавой культурай для ўсіх відаў жывёлы. Але гэтым далёка не вычэрпваецца яе значэнне. Без канюшыны, якая ўзбагачвае глебу азотам, паляпшае яе структуру, нельга атрымаць высокі ўраджай лёну.

ЦК ВКП(б) і СНК СССР устанавілі для БССР план закладкі насенных рассаднікаў канюшыны на плошчы 6.000 гектараў і пакідання насеннікаў канюшыны на плошчы ў 35.000 гектараў. Зацверджан абавязковы план нарыхтовак канюшыны ўраджаю 1936 года па СССР у колькасці 107 тысяч цэнтнераў, у тым ліку па БССР: па калгасах 6000 цэнт. і па соўгасах 500 цэнт.

Аднак справа загатоўкі і засыпкі насення канюшыны, а таксама лубіну і іншых траў у радзе раёнаў (Камарынскім, Крычаўскім, Расонскім і іншых), як адзначана ў рашэнні ЦК КП(б)Б і СНК БССР, абстаіць вельмі дрэнна. ЦК і СНК БССР абавязалі РВК і дырэктароў МТС пад іх асабістую адказнасць:

> У 5-дзенны тэрмін поўнасцю забяспечыць рэалізацыю (продаж) калгасам насення канюшыны, лубіну, лугапасбішчных і іншых траў, што яшчэ знаходзяцца на складах».

Гэта рашэнне павінна быць безагаворачна выканана і прыняты меры к таму, каб усе калгасы былі забяспечаны неабходным насеннем у адпаведнасці з планам пасеву.

Новым і вельмі істотным момантам з'яўляецца тое, што зараз усе калгасы, якія сеюць канюшыну, абавязаны здаваць дзяржаве насенне па дагаварах аб контрактацыі, а соўгасы—у парадку дзяржаўнага плана. Такім чынам у руках дзяржавы будуць сканцэнтраваны значныя запасы насення канюшыны, якія дазволяць правільна арганізаваць канюшынасеянне.

Закон гаворыць:

> «Устанавіць наступную норму здачы насення канюшыны: для калгасаў—па дагаворах аб кантрактацыі—3 кгр. з кожнага гектара ўкоснай плошчы канюшыны; для соўгасаў—у парадку дзяржаўнага плана—5 кгр. з кожнага гектара ўкоснай плошчы канюшыны».

Па-новаму ставіцца таксама і пытанне аб павышэнні ураджайнасці лёну і канапель.

Трэба дабіцца павышэння ўраджайнасці лёну ў сярэднім не на дзве-тры дзесятых цэнтнера з гектара, як ішоў прырост ураджаю лёну за апошнія гады, а не менш як на цэнтнер, г. зн. атрымаць у сярэднім па рэспубліцы не менш 3,7 цэнт. валакна з гектара.

План ільназагатовак па БССР, у параўнанні з мінулым годам, таксама значна павялічан. Наша рэспубліка павінна будзе нарыхтаваць з ураджаю 1936 года па плану кантрактацыі 46.000 тон валакна і 27.000 тон ільнанасення. Заданне гэта рэальнае, і за яго ажыццяўленне трэба пачаць барацьбу ўжо сёння, рыхтуючыся да веснавой сяўбы.

За большэвіцкую работу, за ўзорную стаханаўскую барацьбу за лён урад узнагародзіў ордэнамі 24 лепшых майстроў лёну БССР. Справа цяпер у тым, каб распаўсюдзіць вопыт перадавікоў, узняць ўсю масу калгаснікаў і калгасніц на барацьбу за стаханаўскія ўраджаі.

Партыйныя, савецкія, зямельныя арганізацыі і дырэктары МТС абавязаны ўстанавіць строгі кантроль за пратручваннем насення ў кожным калгасе, соўгасе і ні ў якім разе не дапускаць пасеву непратручаным насеннем.

Рэспубліка поўнасцю забяспечана матар'яламі для пратручвання лёну. Задача цяпер у тым, каб непасрэдна на месцах дабіцца правільнага размеркавання гэтых матар'ялаў паміж калгасамі, каб не было лішкаў у адных і недахопаў у другіх.

Надзвычайна важнае значэнне пры ажыццяўленні плана веснавых работ мае своечасовае складанне ў калгасах вытворчых планаў на 1936 год і перазаключэнне дагавароў МТС з калгасамі. Трэба сказаць, што з гэтай справай мы празмерна адстаем. План заключэння дагавароў МТС з калгасамі выканан толькі на 80%. Цэлы рад трактарных брыгад яшчэ не ведае, у якіх калгасах і якую ім прыдзецца выконваць работу.

Чацвертая частка калгасаў яшчэ не мае вытворчых планаў. У Лёзненскім раёне толькі 24% калгасаў маюць вытворчыя планы, у Бялыніцкім—28,1%, у Клічаўскім—35,5%.

Гэта адставанне павінна быць зараз-жа ліквідавана.

Лепшыя трактарысты БССР тт. **Чубакоў** і **Баброў** спаборнічаюць з Пашай **Ангелінай,** каб узараць сваімі трактарамі не менш 1500 га; тт. **Чэчык** і **Кавалёў** спаборнічаюць за 1.200 гектараў; дзесяткі і сотні трактарыстаў, па-стаханаўску падрыхтаваліся выканаць узятыя на сябе па дагавору з Чэрнігаўскай і Кіеўскай абласцямі абавязацельствы—узараць кожным трактарам не менш 1000 гектараў.

Каб выканаць гэтыя абавязацельствы і заваяваць пяршынства ў спаборніцтве, трэба з першага дня выхаду ў поле ўстанавіць самую чоткую арганізацыю і распарадак працы ў трактарных і калгасных брыгадах. Не чакаць, пакуль падсохне ўсё поле, а выбарачным парадкам пачаць ворыва паасобных, ужо гатовых участкаў.

Ні адной мінуты прастою трактароў і сеялак з-за нераспарадку, араць толькі на выдатна!—вось баявая задача ўсіх дырэктароў МТС, брыгадзіраў і трактарыстаў. Толькі пры гэтых умовах мы сапраўды па-стаханаўску правядзем увесь цыкл веснавых палявых работ.

Дзесяткі трактарыстаў БССР перакрылі летась устаноўленыя нормы і даведзеныя планам заданні. Ужо цяпер мы можам прывесці паасобныя прыклады, якія гавораць аб высокай арганізаванасці трактарыстаў. 5 гектараў у дзень на трактар абавязаўся даць тав. **Папок** Іван з Нараўлянскай МТС, якая спаборнічае з Ельскай МТС, а даў ён у першы-ж дзень, на яшчэ не прасохлай глебе, 6 гектараў. Тав. **Казлоў** Пётра з той-жа МТС дае 5 з паловай гектараў у дзень.

У нас на веснавой сяўбе па МТС будуць працаваць у полі каля 5000 трактароў. 1000 гектараў на трактар!—вось лозунг усіх перадавых трактарыстаў БССР. Ад дырэктароў МТС, ад памочнікаў дырэктароў па палітчастцы залежыць правільнае забяспечанне і ўсебаковая дапамога трактарыстам пры выкананні імі пастаўленай задачы.

Паўднёвыя і сярэднія раёны БССР пачалі ўжо сяўбу. Засеяны першыя дзесяткі тысяч гектараў. Вопыт першых дзён сяўбы паказвае, што ў радзе раёнаў яшчэ не разгорнута сапраўдная бальшэвіцкая барацьба за высокі ўраджай, а месцамі, як гэта ўказана ў пастанове ЦК і СНК БССР, мае месца грубае парушэнне агратэхнічных правіл (Петрыкаўскі, Тураўскі раёны), не наладжан сталы кантроль за пратручваннем насення, за якасць работы на полі, за поўным выкарыстаннем трактароў і радковых сеялак. Устаноўлены план радковай сяўбы «з'яўляецца мінімальным і павінен быць безагаворачна выканан кожным калгасам і соўгасам». 190 тысяч гектараў мы павінны сёлета засеяць трактарнымі сеялкамі, 628 тысяч гектараў—коннымі сеялкамі. Гэта заданне мы можам не толькі выканаць, але і перавыканаць. Таму раённыя партыйныя, савецкія, зямельныя арганізацыі і дырэктары МТС павінны павесці самую рашучую барацьбу супроць антымеханізатарскіх тэндэнцый, устанавіць самы суровы кантроль за поўным выкарыстаннем сеялак «маючы на ўвазе, што адным з асноўных сродкаў у справе забяспечання высокага ўраджаю з'яўляецца радковая сяўба».

У пасеўную кампанію бягучага года павінна быць несуўмерна з мінулым узнята роля аграномаў, як сапраўдных майстроў калгаснай вытворчасці. Партыя і ўрад усклалі на аграномаў непасрэдную адказнасць за пратручванне насення, за кантроль агратэхнічных мерапрыемстваў. Месца аграномаў павінна быць у полі, у брыгадзе, у звяне. Неабходна стварыць усе ўмовы для таго, каб аграномы былі вызвалены ад канцэляршчыны і займаліся сваёй канкрэтнай вытворчай справай.

«СНК і ЦК КП(б)Б патрабуюць ад кожнага агранома і ўсіх спецыялістаў сельскай гаспадаркі сапраўды па-большэвіцку ўзначаліць і арганізаваць шырокія масы калгаснікаў і рабочых соўгаса на поўнае правядзенне ў жыццё ўсіх агратэхнічных правіл, забяспечваючых высокі ўраджай і на справе дапамагчы калгасам і соўгасам аўладаць высокай тэхнікай сельскагаспадарчай вытворчасці».

Стаханаўскі рух у сельскай гаспадарцы, вопыт перадавікоў высокіх ураджаяў вучыць нас таму, што агратэхніцы павінна быць удзелена асаблівая ўвага. Зараз нельга абмяжоўвацца агульнымі рэцэптамі апрацоўкі і ўгнаення палёў, трэба падыходзіць да кожнага калгаса, да кожнага ўчастка, да кожнага поля канкрэтна, па кожнаму калгасу і соўгасу павінны быць вызначаны канкрэтныя агратэхнічныя мерапрыемствы з улікам усіх канкрэтных умоў калгаса і соўгаса. У гэтым выключную ролю павінны адыграць хаты-лабараторыі. У нас вопытная работа хат-лабараторый разгорнута зусім недастаткова, або, гаворачы словамі тав. **Постышэва:** «Ёсць хаты, але няма лабараторый». Хата-лабараторыя павінна быць у кожным калгасе.

Навуковыя ўстановы і аграномы павінны памятаць, што на іх ляжыць адказнасць за сапраўдную навукова-даследчую работу хат-лабараторый. Нашым вучоным вопытнікам і аграномам пара нарэшце зразумець, што без апоры на хаты-лабараторыі іх работа будзе непоўнацэнна.

Партыйныя і зямельныя арганізацыі на месцах павінны зацікавіцца работай хат-лабараторый, аказаць ім канкрэтную дапамогу, дабіцца, каб у кожным калгасе была хата-лабараторыя—сапраўдны барацьбіт за высокі ўраджай. Для гэтага трэба ліквідаваць абязлічку ў кіраўніцтве агранамічнага персанала работай хат-лабараторый, прымацаваць да кожнага агранома пэўную колькасць хат-лабараторый, ускласці на яго адказнасць за арганізацыю і кіраўніцтва іх работай, устанавіць сістэматычны кантроль за выкананнем задач, ускладзеных на агратэхперсанал.

Па-новаму пастаўлена пытанне аб тэрмінах сяўбы. На нарадзе па ўраджайнасці з кіраўнікамі партыі і ўрада, пры ўдзеле таварыша **Сталіна,** усе выступаўшыя гаварылі аб тым, што якасць ураджаю ў калгасах і соўгасах залежыць таксама ад правядзення сяўбы ў кароткія тэрміны, якіх патрабуе агратэхніка, ад поўнага выкарыстання радковых сеялак.

Таму ЦК КП(б)Б і СНК БССР пастанавілі:

> «Сяўбу ранніх зернавых культур (пшаніцы, аўса, ячменю) правесці на працягу 10—12 рабочых дзён, лёну—5—7 рабочых дзён».

Гэтыя тэрміны сяўбы абавязковы для ўсіх раёнаў, калгасаў, соўгасаў і МТС. Партыйныя і савецкія арганізацыі раёнаў і акруг абавязаны забяспечыць, каб гэта рашэнне ЦК і СНК было выканана безагаворачна, маючы на ўвазе, што кароткія і сціслыя тэрміны заканчэння сяўбы—адно з асноўных мерапрыемстваў у барацьбе за высокі ўраджай.

Адначасова СНК і ЦК КП(б)Б звярнулі ўвагу акрвыканкомаў, райвыканкомаў, акругкомаў і райкомаў КП(б)Б на недапушчальнасць паўтарэння меўшай месца ў 1935 г. празмернай паспешнасці пры пасевах грэчкі і канапель у непрагрэтую глебу.

Чырвонай стужкаю ва ўсіх мерапрыемствах партыі і ўрада праходзіць барацьба за якасць усіх сельскагаспадарчых работ, за павышэнне ўраджайнасці. Работа кожнай партыйнай, совецкай і зямельнай арганізацыі, кожнага соўгаса, калгаса і калгаснікаў будзе ацэньвацца перш за ўсё па тых поспехах, якіх яны дасягнулі ў барацьбе за ўраджай.

Мы не выканаем сваіх задач, калі не прымем усе меры для максімальнага разгортвання стаханаўскага руху ва ўсіх соўгасах, калгасах і МТС, арганізацыі канкрэтнай штодзеннай дапамогі нашым перадавым стаханаўцам—ордэнаносцам сельскай гаспадаркі. Вопыт кожнага стаханаўца-ордэнаносца, на якім-бы ўчастку ён ні працаваў, неабходна ўсебакова ўлічыць і вывучыць, зрабіць яго набыткам усёй калгаснай масы. А хто пасмее тармазіць штодзенны рост стаханаўскага руху,—той павінен атрымаць самы бязлітасны адпор.

Стаханаўскі рух заклікан зрабіць цэлую рэволюцыю ў нашай сельскай гаспадарцы. Пры яго дапамозе мы павінны і можам рабіць сапраўдныя цуды і рухацца ўперад такімі тэмпамі, пра якія ў ранейшыя гады і марыць не маглі.

Аднак мы яшчэ як след не арганізавалі соцыялістычнае спаборніцтва калгаса з калгасам, раёна з раёнам, акругі з акругай, спаборніцтва ўнутры калгаса паміж брыгадамі і звеннямі. Трэба ўключыць у гэта спаборніцтва масы, дзесяткі і сотні тысяч калгаснікаў. Толькі пры гэтай умове мы сапраўды даб'емся пяршынства ў спаборніцтве.

У аснову соцспаборніцтва, як адзначана ў пастанове ЦК і СНК «Аб веснавой сяўбе», павінен быць пакладзен заключаны паміж БССР, Чэрнігаўскай і Кіеўскай абласцямі соцдагавор на пяршынства ў барацьбе за сталінскі ўраджай, за высокую якасць пасеўных работ, за кароткія тэрміны сяўбы.

Райкомы партыі, РВК, райземаддзелы, МТС і пярвічныя партарганізацыі калгасаў, соўгасаў і МТС абавязаны ўцягнуць у соцспаборніцтва ўсіх калгаснікаў, калгасніц, рабочых соўгасаў і МТС і ўзначаліць шырокі рух калгаснай масы і рабочых соўгасаў у барацьбе за сталінскія 7—8 мільярдаў пудоў зярна, арганізуючы штодзеннае канкрэтнае кіраўніцтва спаборніцтвам паміж калгасамі, соўгасамі і МТС, паміж брыгадамі і звеннямі ўнутры калгасаў і соўгасаў, акружаючы асабліваю ўвагай лепшых людзей вёскі.

Ужо зараз мы маем сотні людзей, вопыт якіх заслугоўвае самай пільнай увагі. Напрыклад, старшыня калгаса імя Дзержынскага, Менскага раёна, Пётр Паўлавіч **Камінскі**, які атрымаў у 1935 годзе да 200 пудоў зернавых з гектара, або Сергей **Шастлёнак** з калгаса «Пяцігодка», Крычаўскага раёна, які дабіўся 2500 пудоў бульбы з гектара, або брыгадзір калгаса «8 сакавіка», Капыльскага раёна, Нікалай Александравіч **Алексін**, які атрымаў звыш 7 цэнт. ільнавалакна з гектара. А хіба не заслугоўвае самага ўважлівага вывучэння вопыт нашых перадавых трактарыстаў—тт. **Рачок, Ячмянёва, Чубакова**, братоў **Калініных**, якія выпрацавалі ў 1936 годзе па 700 га на трактар і прынялі на сябе абавязацельства даць у 1936 годзе 1 100 га на трактар, або вопыт малацільшчыкаў **Свірыдава** і **Худаўца**, якія абавязаліся даць 1200 тон на малатарню «МК 1100» і 850 тон на «БДО 34».

Вось чаму мы падкрэсліваем усю важнасць і настойлівую неабходнасць вывучаць і папулярызаваць вопыт стаханаўцаў-ордэна-

носцаў—перадавікоў ураджайнасці і соцыялістычнай жывёлагадоўлі, арганізуючы ім штодзенную практычную дапамогу.

Да сяўбы ў першую стаханаўскую вясну мы прыступаем, узброеныя канкрэтнымі ўказаннямі таварыша **Сталіна.** Гэтыя ўказанні з'яўляюцца баявою праграмай у барацьбе за высокі ўраджай і за пяршынство ў спаборніцтве, заключаным нашай ордэнаноснай рэспублікай з Кіеўскай і Чэрнігаўскай абласцямі. Калгаснікі, рабочыя соўгасаў, трактарысты, партыйныя і зямельныя арганізацыі БССР узялі на сябе па гэтаму дагавору канкрэтныя абавязацельствы. Мы спаборнічаем з абласцямі, якія ў значнай частцы сваіх раёнаў ужо разгарнулі масавую сяўбу. Заваяваць для нашай ордэнаноснай рэспублікі пяршынства ў гэтым спаборніцтве мы можам пры ўмове стаханаўскіх метадаў работы.

Па БССР, як і па ўсяму вялікаму Совецкаму саюзу, разгарнулася магутнае спаборніцтва за выкананне ўказанняў таварыша **Сталіна.** Калгасная маса правільна зразумела, што заданне па ўраджайнасці, зацверджанае партыяй і ўрадам, з'яўляецца мінімальным. Цяпер усё залежыць ад саміх калгасных мас, ад партыйных і совецкіх арганізацый, ад нашай мабілізаванасці, энергіі і ініцыятывы. Не сёння—заўтра ў БССР разгорнецца масавая сяўба. Большасць раёнаў прыступіла ўжо да палявых работ. Калгасная вёска вышла ў поле на чале з атрадам ордэнаносцаў-стаханаўцаў сельскай гаспадаркі. Гэты атрад хутка памножыцца ва многа раз. Новыя, яшчэ больш слаўныя перамогі заваююць нашы калгасы.

Шырока разгортваючы ў калгасах, МТС і соўгасах стаханаўскі рух, высоўваючы ўсё новыя і новыя кадры перадавікоў соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, пад кіраўніцтвам КП(б)Б, на чале з тав. **Гікало,** наша ордэнаносная рэспубліка ў барацьбе за выкананне ўказанняў вялікага правадыра народаў—таварыша **Сталіна,** у спаборніцтве з Кіеўскай і Чэрнігаўскай абласцямі можа і павінна заваяваць першае месца.

---

**С. Каменштэйн**

Сакратар слуцкага АК КП(б)Б

# Да абмену партыйных дакументаў

З 10 сакавіка партарганізацыя слуцкай пагранічнай акругі прыступіла да абмену партыйных дакументаў. Абмен пачаўся ў галаўной арганізацыі акругі—слуцкай.

У сувязі з абменам партдакументаў перад партыйнымі арганізацыямі Слуцкай акругі, як і перад усімі нашымі пагранічнымі акругамі, стаяць надзвычай сур'ёзныя задачы.

Рад раёнаў і сельсоветаў нашай акругі непасрэдна сутыкаюцца з фашысцкаю Польшчай. Да рэвалюцыі тэрыторыя сучаснай Слуцкай акругі была пераважна хлебаробчай, прычым Слуцкі, Капыльскі, Грэскі, Чырвонаслабодскі раёны і частка Старобінскага мелі значную праслойку кулацкіх гаспадарак, не гаворачы ўжо аб памешчыцкіх і поўпамешчыцкіх гаспадарках са значнай колькасцю прывілеяванай прыдворнай чэлядзі—эканомаў, аб'ездчыкаў, ляснічых, кухароў і іншых панскіх халуёў, якія здзекваліся над працоўным народам. У царскі час у раёнах і сельскіх цэнтрах (Слуцк, Старобін, Капыль, Семежава, Пагост, Любань, Цімкавічы і інш.) было вельмі многа гандляроў, чыноўнікаў, папоў, манахаў, псаломшчыкаў, афіцар'я. З 1917 па 1920 год сучасная тэрыторыя акругі некалькі раз акупавалася немцамі, белапалякамі.

У час праверкі партдакументаў усе нашы партарганізацыі на дзесятках прыкладаў маглі пераканацца ў тым, што белагвардзейскія акупацыі з асаблівою сілай цягнулі за сабой стварэнне контррэвалюцыйных гнёздаў. Гэта-ж факт, што банды Балаховіча, «Слуцкая беларуская рада», «Капыльская эсэраўская арганізацыя», розныя бандыцкія групы і нацдэмаўскія гнёзды знаходзілі ўдзячную глебу сярод кулакоў, памешчыцкіх служак і іншых антысавецкіх элементаў, што паследкі іх маглі не толькі існаваць, але дабрацца і да партбілета.

Факты праверкі таксама паказалі, што на тэрыторыі Слуцкай акругі з мэтай шпіянажу, дыверсіі і шкодніцтва аселі ў розны час перабежчыкі з фашысцкай Польшчы пад выглядам так званых «палітэмігрантаў» або прастадушных «сялян-хлебаробаў» і здолелі пранікнуць у савецкі, гаспадарчы і нават партыйны апарат. Сярод

ўсіх гэтых Шпакоўскіх, Царыкаў, Агульнікавых, Краўчэняў, Усвалікаў, Астрэйкаў, Вераб'ёў, Гурло, Крываносавых, Эскіных, Трацэўскіх, Шастаковых было выяўлена нямала прамых ворагаў партыі і савецкай улады—белых афіцэраў, эсэраў, нацдэмаў, шпіёнаў, бундаўцаў, трацкістаў і т. п.

Было-б злачынствам перад партыяй, калі-б пасля гэтых фактаў якая-небудзь з нашых партарганізацый самасупакоілася.

Ужо зараз, толькі ў пачатку разгортвання работы па абмену партбілетаў, у партарганізацыях выяўляюцца і паасобныя скрытыя трацкісты, і бундаўцы, і іншыя варожыя элементы, не да канца расшыфраваныя ў мінулым (Слуцк, Старобін, Любань).

Гэтыя пакуль што паасобныя факты абавязваюць нас глыбока зразумець ролю абмену, як фактару далейшага ўмацавання радоў партыі. Правесці абмен партбілетаў у пагранічным раёне—значыць даць катэгарычную гарантыю ў тым, што ўвесь склад партарганізацыі пасля абмену будзе прадстаўляць сабою абсалютна згуртаваны атрад, да канца адданы справе большэвіцкай партыі. Наша задача—дабіцца, каб пагранічныя партарганізацыі з большэвіцкім сумленнем маглі насіць высокае званне аванпоста партыі на рубяжы з капіталістычным светам.

Праверка партдакументаў у партарганізацыях Слуцкай акругі выявіла таксама далёка няўцешны малюнак у пастаноўцы арганізацыйна-партыйнай і палітвыхаваўчай работы. У рашэнні ЦК КП(б)Б па чырвонаслабодскай партарганізацыі адзначана, што ў выніку выключна слабога кіраўніцтва бюро райкома і сакратара тав. Бурдзілава камуністамі і пярвічнымі арганізацыямі, у выніку адсутнасці сур'ёзнай выхаваўчай работы чырвонаслабодская партарганізацыя не з'яўляецца яшчэ баявым калектывам.

Па старобінскай партарганізацыі ЦК асабліва падкрэсліў, што «партработа знаходзіцца на выключна нізкім узроўні, і райком зусім не кіруе партработай і пытаннямі прапаганды».

Па слуцкай партарганізацыі ЦК указвае на тое, што сярод камуністаў недастаткова вядзецца выхаваўчая работа, што выяўленая засмечанасць партыйных радоў і савецкага апарата ў раёне сведчыць аб нездавальняючым падборы, вывучэнні і вырошчванні кадраў.

Такім чынам рэзультаты праверкі паказалі, што цэлыя партарганізацыі і паасобныя камуністы не праяўлялі неабходнай большэвіцкай пільнасці; партработа стаяла на нізкім ўзроўні; парушэнне статута партыі насіла масавы характар; выхаваўчая работа праводзілася яўна нездавальняюча; пытанні работы з актывам, яго вывучэнне, выхаванне, вылучэнне і ідэйная дапамога займалі нязначнае месца ў рабоце раённых камітэтаў партыі.

Указанні Цэнтральнага Камітэта і асабіста тав. Гікало ляглі ў аснову ўсёй работы па замацаванню вынікаў праверкі ў кожнай партыйнай арганізацыі і падрыхтоўцы да абмену партдакументаў. Пачалася глыбокая перабудова партыйна-арганізацыйнай і палітыкавыхаваўчай работы ў адпаведнасці з патрабаваннямі партыі. У цэнтры ўвагі партыйных арганізацый стаў камуніст, выхаванне яго і, галоўнае,—строгае, непахіснае выкананне статута партыі.

Не прыходзіцца многа гаварыць аб тым, што праверка партдакументаў дала выключна многа для вопыту работы сакратара парт-

камітэта, кіраўніка партарганізацыі. Сапраўды большэвіцкае вывучэнне чалавека не ў канцэлярыі, а непасрэдна на вытворчасці і ў быце дапамагала члену партыі ў яго практычнай рабоце, узнімала званне члена партыі, памнажала энергію кожнага комуніста і яго адданасць партыі.

Іменна на аснове ўрокаў праверкі партыйных дакументаў і выканання большэвіцкіх указанняў ЦК КП(б)Б аб выніках праверкі нашы раённыя партарганізацыі дабіліся значнага палепшання ўсёй партыйна-арганізацыйнай і палітыка-выхаваўчай работы, росту ідэйна-палітычнай узброенасці, павышэння пільнасці і авангарднай ролі комуніста на вытворчасці.

Не будзе пераўвелічэннем сказаць, што амаль уся партарганізацыя акругі зараз вучыцца. Комуністы ўяснілі сабе ўсю глыбіню і сур'ёзнасць патрабаванняў статута партыі, «нястомна працаваць над павышэннем сваёй ідэйнай узброенасці, над засваеннем асноў марксізма-ленінізма, важнейшых палітычных і арганізацыйных рашэнняў партыі і растлумачваць іх беспартыйным масам». Партыйныя арганізацыі і комуністы зразумелі, што на выкананні гэтага пункта статута грунтуецца і павышэнне большэвіцкай пільнасці, бо веданне гісторыі партыі з'яўляецца важнейшым сродкам, які забяспечвае сапраўды большэвіцкую пільнасць комуніста і ўзмацненне яго авангарднай ролі на вытворчасці, як важака беспартыйных мас.

Вось чаму зараз ліквідавана сезоннасць у партыйнай вучобе, палепшылася наведванне партшкол і якасць вучобы. Агульны лік комуністаў, ахопленых партыйнай вучобай, значна павысіўся і дасягае 94—96%.

Асноўны змест праграмы—вывучэнне гісторыі ВКП(б). Так, па слуцкай партарганізацыі з 348 слухачоў партшкол 276 займаецца ў школах па вывучэнню гісторыі партыі, па чырвонаслабодскай—са 114 слухачоў партшкол 96 вывучаюць гісторыю партыі, па капыльскай—з 226 слухачоў гісторыю партыі вывучаюць 212.

Вялікая работа праводзіцца па арганізацыі дапамогі адстаючым ў вучобе комуністам. Да іх прымацоўваюцца больш падрыхтаваныя члены партыі, арганізуюцца дадатковыя заняткі. Капыльская і чырвонаслабодская партарганізацыі штомесяц выклікаюць комуністаў у парткабінет на 2—4 дні для дадатковай прапрацоўкі з імі праграмнага матар'ялу, пытанняў бягучай палітыкі і агульнаадукацыйных прадметаў.

У большасці партшкол, дзе слухачы мелі нізкі агульнаадукацыйны ўзровень, уведзена выкладанне беларускай мовы, матэматыкі і геаграфіі. Слуцкі райком партыі арганізаваў для 38 малаграматных комуністаў спецыяльныя школы, якія працуюць 9 раз у месяц па 4 гадзіны. З агульнай колькасці вучэбных гадзін 24 адведзена на агульнаадукацыйныя прадметы. Частка малаграматных комуністаў займаецца ў вячэрніх школах для дарослых, да некаторых персанальна прымацаваны настаўнікі.

Палепшыліся парадак і дысцыпліна. Наведванне партзаняткаў у большасці школ дасягае 92—96%. Створаны адпаведныя ўмовы для работы школ (абсталяваны памяшканні, набыты вучэбныя дапаможнікі і т. п.).

Асабліва важнае значэнне для палепшання партыйнай прапаганды мае прыцягненне да непасрэднай прапагандысцкай работы кіруючых партыйных работнікаў і лепшых таварышоў з партыйнага актыва. Па слуцкай партарганізацыі прапагандысцкую работу вядуць 6 членаў бюро РК і 13 членаў РК, у тым ліку сакратары райкома— тт. Кіштымаў і Смірноў, культпроп райкома і інструктары. Па капыльскай партарганізацыі кіруюць партыйнымі школамі сакратары райкома—тт. Штэйнгард і Нанейшвілі і ўсе інструктары.

Значна палепшылася работа з прапагандыстамі. Пры партгабінетах у Слуцку, Капылі, Чырвонай Слабадзе арганізаваны пропсемінары. Заняткі адбываюцца 2—3 дні ў месяц з адрывам ад вытворчасці. Таксама наладжана рэгулярная кансультацыя прапагандыстаў па асобных тэмах.

Райкомы партыі на сваіх паседжаннях рэгулярна заслухоўваюць у прысутнасці слухачоў даклады аб рабоце партшкол, знаёмяцца з тым, як комуністы засвойваюць гісторыю партыі, абгаварваюць канспекты прапагандыстаў і правяраюць, як яны рыхтуюцца да заняткаў, як слухачы засвойваюць тыя ці іншыя тэмы па праграме.

Рыхтуючыся да абмену партдакументаў, партарганізацыі прапрацавалі статут з усімі членамі і кандыдатамі партыі. Сакратары райкомаў асабіста правялі 2-дзённыя семінары прапагандыстаў і прапагандысцкага актыва, якія потым кіравалі прапрацоўкай статута ў пярвічных партарганізацыях.

Значна змяніўся стыль і змест работы. Райкомы партыі і пярвічныя партарганізацыі займаюцца ў асноўным пытаннямі ўнутрыпартыйнай работы, накіроўваючы цэнтр увагі на жывога чалавека, ідэйна-палітычнае выхаванне комуністаў, вырошчванне большэвіцкіх кадраў.

Возьмем к прыкладу абвестку дня аднаго з паседжанняў бюро капыльскага РК. З разгледжаных на бюро 5 пытанняў, 3 прысвечаны былі ўнутрыпартыйнай рабоце: аб рабоце партшколы МТС, абгаварэнне канспектаў двух прапагандыстаў, індывідуальная справаздача комуніста аб павышэнні свайго палітычнага ўзроўню і масавай рабоце сярод беспартыйных.

Усе пытанні былі добра падрыхтаваны, з папярэднім абследваннем, таму на паседжанні бюро абгаварваліся глыбока і актыўна.

Такія абвесткі дня не адзінкавы. Яны з'яўляюцца асноўным зместам работы райкомаў партыі.

Для кіраўніцтва пярвічнымі партарганізацыямі райкомы за апошні час вылучылі новых 14 інструктароў, поўнасцю ўкамплектаваўшы інструктарскі апарат. Інструктары рэгулярна бываюць у пярвічных партарганізацыях і ў комуністаў-адзіночак, дапамагаюць ім прапрацоўваць і ажыццяўляць рашэнні партыі, кіруюць партшколамі і правяраюць на месцы, як выконваюцца дырэктывы РК і ЦК.

Вялікае значэнне мае рэгулярнае заслухоўванне дакладаў пярвічных партарганізацый і паасобных комуністаў на паседжаннях бюро райкома.

Партыйныя арганізацыі знаходзяць усё новыя дзейсныя формы павышэння якасці ўнутрыпартыйнай работы сярод комуністаў.

Прывядзем адзін з прыкладаў. У Чырвонаслабодскім раёне рыхтаваўся партыйны сход па прапрацоўцы рашэнняў студзеньскага

пленума ЦК КП(б)Б. Сакратар райкома тав. Бурдзілаў сабраў інструктароў і разам з імі распрацаваў план падрыхтоўкі да сходу. Інструктар райкома тав. Брун па свайму кусту атрымаў заданне пабываць ва ўсіх пярвічных арганізацыях і ў комуністаў-адзіночак і прапрацаваць з імі да сходу рэзалюцыі снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) і студзеньскага пленума ЦК КП(б)Б. У рэзультаце сход прашоў з вялікім уздымам.

Сур'ёзная і глыбокая прапрацоўка рашэнняў снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) і студзеньскага пленума ЦК КП(б)Б была праведзена не толькі на агульна-раённых сходах, але і ў кожнай пярвічнай арганізацыі. Прычым усюды яна суправаджалася дзелавой партыйна-арганізацыйнай і выхаваўчай работай па падрыхтоўцы да абмену партдакументаў. Акрамя таго, праведзены нарады парторгаў, на якіх глыбока прадуманы задачы абмену партдакументаў з улікам асаблівасцей і ўмоў пагранічнасці. Большасць нізавых арганізацый прапрацавала перадавы артыкул часопіса «Партийное строительство» № 3.

Ва ўсёй падрыхтоўчай рабоце акругком і райкомы партыі сканцэнтравалі сваю ўвагу на тым, каб даць кожнаму комуністу глыбока зразумець і адчуць неабходнасць самай сур'ёзнай большэвіцкай падрыхтоўкі да абмену партдакументаў, самага пільнага вывучэння жыццёвага шляху і дзейнасці кожнага члена партыі, добра ўсвядоміць усю адказнасць, якую партыя ўскладае на комуніста пагранічнай паласы. У кожнага члена партыі выхоўвалася ўсведамленне таго што сваім актыўным удзелам у правядзенні абмену партдакументаў, у далейшым умацаванні радоў партыі і ачыстцы іх ад усякага баласту, ад усяго варожага і чуждага, усёй сваёй большэвіцкай работай і няўхільным выкананнем статута партыі ён павінен яшчэ раз пацвердзіць сваю здольнасць быць сапраўды перадавым байцом, вартым вялікага звання члена партыі Леніна-Сталіна.

З выключнай увагай мы падышлі да правільнага ажыццяўлення наступнага ўказання снежаньскага пленума ЦК ВКП(б):

> «Абмен партыйных білетаў, кандыдацкіх картак і ўліковых картак праводзіць у строга індывідуальным парадку з тым, каб у рэзультаце абмену ўзорна паставіць усю справу ўліку і вывучэння комуністаў. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што пры абмене партыйных білетаў партыйныя арганізацыі могуць і не выдаваць партыйны білет сяму-таму з членаў партыі, хоць-бы і прашоўшых праверку партыйных дакументаў, калі гэтыя члены партыі не апраўдваюць высокага звання членаў партыі. Калі пры праверцы партыйных дакументаў асноўную ўвагу партыйныя арганізацыі сканцэнтроўвалі на тым, каб выкрыць ашуканчым шляхам пранікшых у ВКП(б) ворагаў партыі, усякага роду прахадзімцаў і жулікаў, то пры абмене асноўную ўвагу неабходна звярнуць на тое, каб вызваліцца ад пасіўных людзей, якія не апраўдваюць высокага звання члена партыі, якія выпадкова папалі ў рады ВКП(б))».

Партыя самым рашучым чынам папярэджвае супроць механічнага падыходу пры вызначэнні пасіўнасці. І мы ўважліва сочым за тым, каб пры выяўленні пасіўных былі захаваны самы чулы, строга інды-

відуальны падыход. Нельга звальваць у адну кучу людзей, якія згубілі твар комуніста, парушаюць партыйную, дзяржаўную і працоўную дысцыпліну, і такіх таварышоў, якія па сутнасці з'яўляюцца нядрэннымі партыйцамі, выконваюць часам непрыметную, але крапатлівую і каштоўную для партыі работу і толькі па віне самой партарганізацыі, якая не здолела прыцягнуць іх да больш актыўнага партыйнага жыцця, з'яўляюцца пасіўнымі. І калі ад першых партыя безумоўна павінна ачысціцца, як ад баласту, то да другіх павінна чула, па-таварыску падыйсці, дапамагчы павучыцца, акружыць яшчэ большымі клопатамі і увагай, узняць палітычны ўзровень і ўдзельную вагу ў палітычным жыцці партыі і краіны.

І трэба сказаць, што рабоце па ліквідацыі, так сказаць, пасіўнасці сярод членаў і кандыдатаў партыі, райкомы ў апошні час адвялі вялікае месца ва ўсёй сваёй практычнай дзейнасці. Уважліва і чула вывучаюць яны сутнасць і прычыны пасіўнасці, акружаючы клопатамі і ўвагай адданых справе партыі таварышоў, ствараючы ім лепшыя ўмовы для вучобы, для росту. Як правіла, на бюро райкома заслухоўваюцца і абгаварваюцца амаль усе пасіўныя таварышы. Таксама заслухоўваюцца даклады парторгаў аб рабоце з адстаючымі.

У слуцкай партарганізацыі да адстаючых райком прымацаваў старых комуністаў. І зараз ёсць ужо не мала прыкладаў, калі раней пасіўныя члены і кандыдаты партыі становяцца актыўнымі. Так члены партыі слуцкай партарганізацыі Вілько, Звейко, Джальсон, Малюжыц, кандыдаты Бруй, Співак, Ваданосаў, Усойко належалі да пасіўных, неакуратна наведвалі партвучобу, ніколі не выступалі на партсходах і ў той-жа час з работай на вытворчасці спраўляліся нядрэнна. Цяпер яны акуратна наведваюць партвучобу і партсходы, актыўна ўдзельнічаюць у партыйным жыцці, адчуваюць адказнасць за сваю партыйную прыналежнасць.

Член партыі Галоўчанка з чырвонаслабодскай партарганізацыі, у недалёкім мінулым адстаючы, зрабіў добры даклад на бюро аб 2 з'ездзе нашай партыі.

Аднак, гаворачы аб станоўчых баках падрыхтоўкі да абмену, было-б зусім няправільным і шкодным замаўчаць аб яе істотных недахопах. Недапушчальна слаба пастаўлена ў партарганізацыях акругі работа са спачуваючымі. Далей уцягнення іх у партыйную вучобу, дый то не ўсюды, пярвічныя партарганізацыі не ідуць. Райкомы абмяжоўваюцца тым, што склікаюць спачуваючых на адзін-два дні ў раён для прапрацоўкі статута, праграмы партыі. Пярвічныя партарганізацыі не прыцягваюць спачуваючых да актыўнага ўдзелу ў рабоце, не даюць ім нагрузак. Гэта адзін з вялікіх прабелаў у нашай рабоце, які неабходна ў самым хуткім часе запоўніць.

Слаба праводзіцца палітмасавая работа з беспартыйнымі масамі і актывам. Чырвонаслабодская арганізацыя практыкуе, напрыклад, у калгасах вечары пытанняў і адказаў. Гэтыя вечары прыцягваюць масу калгаснікаў. Звычайна на вечары задаюць па 150—200 пытанняў, што пацвярджае вялікую цягу калгасных мас да ведаў, да культуры, да палітычнага выхавання. Нажаль, такія вечары яшчэ не ўвайшлі глыбока ў сістэму работы нашых партарганізацый.

Альбо ўзяць такое пытанне як агратэхвучоба, якая цесна звязана з разгортваннем стаханаўскага руху ў калгасах. На паперы—гурткоў шмат, але на справе працуюць яны нерэгулярна, са зрывамі.

Пярвічныя партарганізацыі і нават паасобныя райкомы самаўхіліліся ад гэтай справы, перадаверыўшы яе зямельным арганізацыям.

Слабасць палітмасавай работы сярод беспартыйных адбіваецца і на разгортванні соцспаборніцтва ў падрыхтоўцы да сяўбы і на разгортванні стаханаўскага руху ў калгасах.

Не мала калгасаў, нават узначаленых комуністамі, дрэнна рыхтуюцца да сяўбы, аб стаханаўскім руху там толькі гавораць, але мала робяць.

У пачатку падрыхтоўкі да абмену акругком указаў слуцкаму райкому партыі на слабасць у паасобных арганізацыях выкрываўчай работы і праверкі таго, як комуніст выконвае свае абавязкі, вызначаныя ў статуце партыі.

Вузкіх месц у рабоце пярвічных партарганізацый і райкомаў яшчэ не мала. І якасць вучобы, і ахоп комуністаў, і пасляховасць іх, і ўся наша партыйна-выхаваўчая работа патрабуе далейшага палепшання.

Абмен партдакументаў, якім завяршаецца праведзеная партыяй велізарная работа—праверка партдакументаў, дасць безумоўна неацанімыя рэзультаты для далейшага палепшання ўсёй партыйнай работы.

* * *

Ва ўсёй рабоце па абмену слуцкая акруговая партарганізацыя строга кіруецца рашэннямі снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) і студзеньскага пленума ЦК КП(б), якія цалкам зыходзяць з вучэння арганізатараў і правадыроў нашай партыі, вялікіх настаўнікаў рабочага класа—Леніна і Сталіна. Іх нястомная барацьба за чыстату большэвіцкіх радоў, за ўзорны парадак у нашай партыйнай гаспадарцы, за строгае захаванне статута нашай партыі ёсць аснова асноў сапраўды рэволюцыйнай партыі рабочага класа, здольнай давесці вялікую справу пабудовы комунізма да пераможнага канца.

Мы цвёрда памятаем, што толькі неадступна выконваючы рашэнні снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) пры абмене партдакументаў «партарганізацыі змогуць да канца выкарчаваць карэнні апартуністычнага дабрадушша, заастрыць большэвіцкую пільнасць членаў партыі, выхаваць партыйны апарат у духу большэвіцкай астраты і непрымірымасці і дабіцца таго, што статут партыі стане сапраўды непарушнай асновай яе ўнутрыпартыйнага жыцця».

Што паказваюць першыя дні абмену партыйных дакументаў?

Перш за ўсё тое, што абсалютная большасць комуністаў глыбока ўсвядоміла палітычную важнасць абмену партдакументаў, зразумела, што новы партыйны білет павінен быць на руках у члена партыі, сапраўды праверанага, да канца адданага, ауладаўшага марксісцка-ленінскай тэорыяй, здольнага самаафярна змагацца за канчатковую перамогу комунізма ва ўсім свеце.

У гутарках пры абмене партдакументаў ясна адчуваецца, што кожны член і кандыдат партыі разумее абмен, як выключна важны момант свайго жыцця і дзейнасці, з выключнай выразнасцю відаць непахісную адданасць нашаму вялікаму правадыру таварышу Сталіну, гатоўнасць самаадданна змагацца за перамогу комунізма.

Атрымліваючы новы партыйны білет ці кандыдацкую картку, члены і кандыдаты партыі шчыра і ўсхвалявана гавораць аб сваёй далейшай рабоце. Тав. Золатаў, член партыі з 1919 года, сказаў: «За сваё 33-гадовае жыццё я праходжу чацверты абмен партыйнага білета, але ніколі раней не адчуваў на сябе столькі адказнасці. Я буду змагацца за справу Леніна—Сталіна беззаветна, бо мяне выхавала партыя, партыя дала мне жыццё».

Пытанні работы, вучобы, быту, настрояў комуніста знаходзяць самае цёплае абгаварэнне. Член партыі выходзіць задаволеным адказамі на ўсе хвалюючыя яго пытанні.

Усебаковае вывучэнне комуніста пры абмене партдакументаў дапамагае нам выяўляць новыя рэзервы для вылучэння. Тт. Разран, Разумова, Сцефаненка і іншыя значна выраслі ў параўнанні з тым узроўнем, які яны мелі ў час праверкі партдакументаў, і падрыхтаваны для вылучэння на больш адказную работу.

Сур'ёзнейшую ўвагу мы ўдзяляем арганізацыйнай тэхніцы абмену, захоўваючы строгасць, дакладнасць і акуратнасць пры запаўненні новых партдакументаў. Усе таварышы, дапушчаныя да выканання гэтай работы, глыбока разумеюць яе выключную важнасць і адказнасць за даручаную справу.

За першыя 7 дзён абмену выдана 86 новых партбілетаў і 15 кандыдацкіх картак. Затрыман абмен партдакументаў 6 чалавекам у сувязі з неабходнасцю больш дэталёвай праверкі іх мінулага і сучаснай дзейнасці.

Трэба адзначыць, што калі ў першыя два дні мы абменьвалі партдакументы 5—6 чалавекам, то зараз паспяваем выдаваць новыя партдакументы 20 чалавекам.

Слуцкі райком партыі стварыў усе неабходныя ўмовы для таго, каб таварышы, прыходзячы на абмен партдакументаў, адчувалі клопаты і ўвагу да сябе. У пакоі для чакання ўтульна, ёсць газеты, кнігі, кветкі, арганізован буфет.

У першыя дні абмену выявіўся рад арганізацыйных непаладак. Не зусім падрабязна і ясна быў растлумачан членам і кандыдатам партыі парадак і значэнне дакладнасці пры запаўненні рэгістрацыйнага бланка. Часам прыходзілася перапісваць рэгістрацыйныя бланкі, што ў значнай меры парушала чоткасць работы і план абмену.

Партыйныя арганізатары ў некаторых партарганізацыях (РВК, НКВД) праявілі недастатковае разуменне сваёй ролі пры абмене партдакументаў. Пры гутарках у час абмену яны не дапамагалі нам выявіць усе недахопы і ценявыя бакі ў жыцці і дзейнасці комуніста, у выкананні ім статута партыі. Недастаткова папрацавалі яны над тым, каб дэталёва вывучыць і праверыць мінулае і сучаснае комуніста і дапамагчы гэтым акругкому і райкому пры выяўленні недастойных насіць высокае званне члена партыі.

У працэсе абмену таксама стала ясна, што з інструктарамі райкома трэба сур'ёзна папрацаваць, каб яны маглі добра арганізаваць дапамогу нізавым партыйным арганізатарам у падрыхтоўцы абмену.

Улічваючы ўрокі першых дзён абмену, акругком паслаў усіх сваіх інструктароў у раённыя арганізацыі для канкрэтнай дапамогі.

Асабліва трэба адзначыць аперацыйнае і канкрэтнае кіраўніцтва ЦК КП(б)Б нашай работай. Па тры-чатыры разы ў дзень АКПО звязваецца з намі, правярае ход абмену, дае ясныя і вычарпальныя

ўказанні. Гэта дае нам магчымасць правесці абмен узорна, на вышыні задач пагранічнай партарганізацыі, з поўным выкананнем усіх указанняў снежаньскага пленума ЦК ВКП(б), студзеньскага пленума ЦК КП(б)Б і асабіста таварыша Гікало.

Мабілізаваўшы ўсю партарганізацыю акругі на большэвіцкае ўпарадкаванне ўсёй сваёй партыйнай гаспадаркі, ачыстку сваіх радоў ад усяго варожага, чуждага і наноснага, даб'емся на справе таго, што атрад большэвікоў на граніцы будзе пасля абмену маналітным, узброеным адзінай воляй змагацца і перамагчы пад сцягам партыі Леніна—Сталіна.

---

**А. Ананьеў**

**Сакратар мазырскага АК КП(б)Б**

# Падрыхтоўка і першыя ўрокі абмену партыйных дакументаў

Абмен партыйных дакументаў павінен забяспечыць далейшае ўмацаванне радоў партыі, далейшую ачыстку яе ад людзей, недастойных насіць высокае званне комуніста, ліквідацыю арганізацыйнай распушчанасці ў паасобных партарганізацыях, навядзенне поўнага парадку ва ўласным партыйным доме, уздым арганізацыйнай работы да ўзроўню палітычных задач партыі.

«Абмен партыйных білетаў і ўвядзенне новых уліковых картак з'яўляецца сур'ёзнейшым партыйна-арганізацыйным мерапрыемствам, якое павінна замацаваць рэзультаты праверкі партыйных дакументаў і спрыяць далейшаму ўмацаванню радоў ВКП(б)» (з пастановы снежаньскага пленума ЦК ВКП(б))».

«Пленум абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі забяспечыць такое правядзенне абмену партыйных білетаў, каб гэта мерапрыемства яшчэ больш умацавала і згуртавала партыйную арганізацыю, узмацніла-б актыўны ўдзел комуніста ў палітычным жыцці партыі і краіны, умацавала-б арганізацыйныя прынцыпы большэвізма» (з пастановы студзеньскага пленума ЦК КП(б)Б).

Гэтыя ўказанні пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б былі пакладзены ў аснову ўсёй работы партарганізацыі Мазырскай акругі. Партарганізацыя яшчэ раз праверыла пастаноўку ўсёй арганізацыйна-партыйна-масавай работы ў раёнах акругі: як захоўваюцца партдакументы, як наладжана партыйная вучоба і інш. У выніку аказалася, што яшчэ не ўсе партарганізацыі акругі зразумелі пастаўленыя перад імі партыяй задачы, не ўсе зрабілі належныя вывады з праведзенай праверкі партдакументаў. Выяўленне адмоўных бакоў у рабоце паасобных партарганізацый дало магчымасць своечасова завастрыць на іх увагу і выправіць.

Рыхтуючыся да абмену партыйных білетаў, партарганізацыя акругі склікала па ўсіх раёнах партыйныя сходы для прапрацоўкі вынікаў снежаньскага і студзеньскага пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б. З дакладамі на гэтых сходах выступалі выключна сакратары райкомаў, а ў некаторых раёнах (Мазырскім, Капаткевіцкім, Даманавіцкім)—сакратары акруткома. Пасля партсходаў пры райкомах былі

арганізаваны кароткатэрміновыя курсы-семінары для сакратароў парткомаў, парторгаў, інструктароў і членаў бюро РК. Мэта семінараў—падрыхтаваць таварышоў для правядзення адзінага партдня ў пярвічных партарганізацыях. Семінарамі кіравалі асабіста сакратары райкома. У пярвічных партарганізацыях адзіныя партдні праведзены былі інструктарамі і членамі бюро райкома. З комуністамі, якія не маглі з'явіцца на партыйныя сходы, сакратар райкома асабіста праводзіў гутарку аб задачах партарганізацыі і кожнага члена партыі ў справе падрыхтоўкі да абмену партдакументаў.

Добрая падрыхтоўка партыйных дзён забяспечыла зацікаўленасць і вялікую актыўнасць комуністаў. На сходы з'явілася 97—98% усяго складу партарганізацыі. Астатнія таварышы не маглі наведаць сходы па прычыне хваробы ці камандыровак. У абгаварэнні задач абмену партдакументаў у некаторых партарганізацыях прынялі ўдзел да 100% прысутных, а ў сярэднім па акрузе—больш 60%. Так, у мазырскай партарганізацыі з 430 прысутных у першы дзень выказалася 179, у другі—259 чалавек.

Распрацоўка рашэнняў пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б прашла пад знакам крытыкі і самакрытыкі недахопаў работы як пярвічных партарганізацый, так і паасобных членаў партыі. Значна ўзрасла свядомасць комуністаў і большэвіцкая непрымірымасць у барацьбе за чыстату радоў партыі. На 1 сакавіка ў райкомы паступіла больш 200 заяў на пасіўных, адарваўшыхся ад партыйнага жыцця, разлажыўшыхся элементаў, якія сваімі паводзінамі ганьбяць аўтарытэт партыі. Па заявах зараз праводзіцца тэрміновае расследванне. Палепшылася справа пастаноўкі ўліку комуністаў, захавання партыйных дакументаў, падрыхтоўкі і правядзення партыйнага дня. Узрасла зацікаўленасць работай над павышэннем ідэйна-палітычнага ўзроўню, аўладаннем асновамі марксісцка-ленінскай тэорыі, узнялася дысцыпліна і адказнасць кожнага комуніста за даручаны ўчастак работы. Статут ВКП(б) становіцца законам жыцця кожнай партыйнай арганізацыі, кожнага комуніста. Асабліва добра пастаўлена справа падрыхтоўкі і правядзення партыйных дзён у мазырскай і ельскай партарганізацыях. Па пытанню падрыхтоўкі да абмену партдакументаў яны правялі па 3 партыйныя дні. Таксама добра наладзілі работу з беспартыйным актывам.

Аднак не ўсе партарганізацыі акругі як след улічылі палітычную важнасць абмену партдакументаў.

Жыткавіцкая партарганізацыя, распрацоўваючы на куставых сходах у студзені вынікі снежаньскага пленума ЦК ВКП(б), ні словам не абмовілася аб абмене партыйных білетаў і задачах партарганізацыі ў падрыхтоўцы да гэтай важнейшай арганізацыйна-палітычнай справы. Хаванне партыйных дакументаў усё яшчэ не наладжана не толькі ў пярвічных партарганізацыях, але і ў самым райкоме. Партарганізацыя і да гэтага часу мала зрабіла для падрыхтоўкі абмену партдакументаў, спадзеючыся на тое, што часу хопіць. Даманавіцкая партарганізацыя не ведае, колькі ў яе комуністаў, бо ўліковыя карткі параскіданы, хаванне партдакументаў не наладжана ні ў райкоме, ні ў пярвічных партарганізацыях, пратакол партсходу, на якім абгаварваліся вынікі праверкі партдакументаў, згублены. Дрэнна таксама з партдысцыплінай. Агульнараённы партсход па пытанню падрыхтоўкі да абмену партыйных дакументаў збіраўся на працягу 7 гадзін і распачаў сваю работу пры наяўнасці толькі 70% членаў партаргані-

зацыі. Партыйная вучоба пастаўлена з рук вон дрэнна. Партыйныя школы наведваюць толькі 54% комуністаў, астатнія нідзе не вучацца.

У партарганізацыі станцыі Калінкавічы сямейнасць і кругавая парука звілі сабе цёплае гняздо. На партсходы збіраецца толькі палова комуністаў. Палітаддзел дарогі, не зважаючы на рашэнні пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б, па-ранейшаму практыкуе папяровае кіраўніцтва. Так, за 1935 год партарганізацыі ст. Калінкавічы атрымалі ад палітаддзела дарогі 382 тэлеграмы па 150—270 слоў кожная, а за студзень—люты гэтага года паступіла ўжо 113 тэлеграм. За 1½ гады толькі раз, і то на адну гадзіну, заглянуў сюды інструктар палітаддзела тав. Ліўшыц.

Раённы друк слаба асвятляе ход падрыхтоўкі да абмену партдакументаў, а такія газеты, як «Калгаснік Петрыкаўшчыны», «Калгаснік на варце».—Лельчыцкага раёна, «Прымежны комунар»—Жыткавіцкага раёна па гэтаму пытанню яшчэ не напісалі ніводнага радка.

Не ўсе партарганізацыі выконваюць пастанову ЦК ВКП(б) аб парадку зняцця з уліку і перасылцы партдакументаў пры пераездзе комуністаў з раёна ў раён. Райкомы вымушаны на кожнага прыбываючага комуніста рабіць запрос аб прысылцы адпаведных дакументаў. Менскі гарком і магілеўскі райком на прыехаўшых у мазырскую партарганізацыю комуністаў прыслалі выпіскі аб праверцы партдакументаў за подпісам аднаго толькі загадчыка ўлікам.

У галіне работы з беспартыйным актывам і спачуваючымі перад усімі партарганізацыямі пастаўлена задача:

> «Пленум ЦК КП(б)Б, падкрэсліваючы важнейшае значэнне пастаноўкі работы са спачуваючымі для справы выхавання рэзерву для папаўнення радоў партыі, абавязвае АК, РК, ГК і пярвічныя партарганізацыі на падставе рашэння пленума ЦК ВКП(б) распрацаваць рад практычных мерапрыемстваў, забяспечваючых як уцягненне лепшых, правераных людзей з беспартыйнага актыва ў групу спачуваючых, так і арганізацыю работы па палітычнаму выхаванню спачуваючых, «выкоўваючы ў іх навыкі большэвіцкай арганізаванасці і дысцыпліны».

Гэта ўказанне пленума знайшло праламленне ў практычным жыцці нашых партарганізацый толькі ў тым, што яны больш высока ўзнялі справу палітычнага выхавання спачуваючых і ўцягнення іх у практычную работу. Што-ж датычыць уцягнення ў групу спачуваючых новых людзей з беспартыйнага актыва, то гэта частка пастановы пленума засталася не выкананай. Групы спачуваючых у большасці складаюцца з пераведзеных у час партыйнай чысткі 1933 года. Так, у даманавіцкай партарганізацыі з 24 спачуваючых 20 пераведзена па партыйнай чыстцы ў 1933 годзе і толькі 4 прыняты з беспартыйнага актыва.

Партарганізацыя акругі ўжо шчыльна падышла да абмену партыйных білетаў і ўвядзення новых уліковых картак. Перад пачаткам гэтай работы ў пярвічных партыйных арганізацыях яшчэ раз былі праведзены раённыя партыйныя сходы і адзіныя партдні па пытаннях распрацоўкі статута ВКП(б) і запаўнення рэгістрацыйных бланкаў. Па пытаннях тэхнікі запаўнення новых партдакументаў праведзены 5-дзенныя курсы рэгістратараў, адабраных з лепшых комуністаў акругі. Запасныя рэгістрацыйныя бланкі былі разданы комуністам на рукі для дэталёвага азнаямлення і папярэдняга запаўнення

ўсіх пытанняў, каб з большым поспехам можна было правесці рэгістрацыю.

Абмен партыйных дакументаў у г. Мазыры пачаўся 7 сакавіка. Пры райкоме арганізаваны пакой для чакання і буфет. Кожны комуніст праходзіць спачатку рэгістрацыю. Пасля запаўнення рэгістрацыйнага бланка з кожным комуністам праводзіць гутарку сакратар райкома тав. Левін і з сваім заключэннем накіроўвае да сакратара акругкома. Сакратар акругкома, азнаёміўшыся з комуністам, дае ўказанне аб яго недахопах і іх выпраўленні, і ўжо потым, пры паўторнай зверцы правільнасці запісаў,—праводзіцца выдача партыйнага білета на рукі комуністу пад распіску на адпаведных бланках і актах.

Першыя дні выдачы партыйных білетаў паказалі, што паасобныя пярвічныя партарганізацыі часам няправільна залічваюць комуністаў у пасіўныя, бо дэталёва іх не вывучаюць. Так, партарганізацыя НКВД характарызавала тав. Гарлова як пасіўнага і палітняграматнага, тым часам ён даў правільны і талковы адказ на цэлы рад пытанняў палітычнага парадку і, як выявілася, прымае актыўны ўдзел у партжыцці. Партарганізацыі недастаткова працуюць над развіццём слаба развітых малаграматных комуністаў, не дапамагалі як след разабрацца ў пытаннях запаўнення рэгістрацыйных бланкаў, а ў выніку паасобныя комуністы не даюць чоткага адказу аб пройдзеным жыццёвым шляху.

Усе недахопы, выяўленыя ў працэсе абмену партыйных білетаў выпраўляюцца на-хаду.

Абмен партыйных білетаў толькі распачаўся. Партарганізацыям, якія яшчэ не пачалі абмену, трэба дасканала праверыць усю сваю работу, яшчэ раз распрацаваць рашэнні пленумаў ЦК. Асаблівую ўвагу неабходна звярнуць на партыйную вучобу, прапрацоўку статута ВКП(б), зрабіўшы яго непарушным законам партыйнага жыцця, далейшага ўздыму партыйнай дысцыпліны і навядзення большэвіцкага парадку ва ўласным партыйным доме. Больш рашуча ажывіць работу з беспартыйным актывам па прыкладу мазырскай і ельскай партарганізацый і лепшых людзей уцягнуць у групы спачуваючых, палепшыць справу выхавання спачуваючых, выкоўваючы ў іх навыкі большэвіцкай арганізаванасці і дысцыпліны.

**Р. Соскін**

**Сакратар оршанскага РК КП(б)Б**

# Аб ходзе абмену партдакументаў

Абмен партыйных дакументаў у оршанскай партыйнай арганізацыі пачаўся 11 сакавіка.

За перыяд з 11 па 29 сакавіка ўключна абмен партдакументаў праведзен у партыйных арганізацыях Ільнакамбіната, механічнага завода «Чырвоны змагар», НКВД, МТС, горсовета, рэдакцыі, РВК, завода «Спартак» і Якаўлеўскай фабрыкі. Усяго за гэты час абменена 78 партбілетаў і 27 кандыдацкіх картак, прычым сапсавана 4 партбілеты і 1 кандыдацкая картка.

У адзначаных 9-ці партыйных арганізацыях не прашлі абмену 8 членаў і кандыдатаў партыі па розных прычынах (хвароба, адсутнасць актаў праверкі з іншых партарганізацый, праверка узятых пад сумненне).

Работу па абмену партдакументаў раённы камітэт арганізаваў наступным чынам:

Над запаўненнем рэгістрацыйных бланкаў працуюць вылучаныя і зацверджаныя бюро райкома 6 членаў партыі з кіруючага раённага партыйнага актыва, двое з іх з'яўляюцца членамі бюро РК і двое членамі пленума РК. Над запаўненнем партдакументаў працуюць 6 членаў партыі.

Для выкліканых членаў і кандыдатаў партыі адведзена ў райкоме спецыяльнае памяшканне, дзе арганізавана чытальня і сталая кансультацыя па пытаннях абмену і гутарак па статуту і праграме партыі, аб арганізацыйных прынцыпах большэвізма і бягучай палітыцы.

У адпаведнасці з падрыхтаванасцю данай партарганізацыі і кожнага яе члена (запаўнення чарнавіка рэгістрацыйнага бланка, наяўнасці добраякасных фотакартак) устанаўляецца парадак і чарговасць абмену. Райком прыпыніў абмен партдакументаў у партарганізацыі Белдрэс, бо члены і кандыдаты партыі прадставілі недобраякасныя фотакарткі, хоць па ўсіх іншых даных партарганізацыя была падрыхтавана.

У гутарках з членамі і кандыдатамі партыі пры абмене асаблівая ўвага звараачаецца на іх ідэйна-палітычны ўзровень, засваенне статута партыі, рашэнняў снежаньскага пленума ЦК ВКП(б), пытанняў па гісторыі партыі і бягучай палітыцы. Тут-жа даюцца канкрэтныя заданні як самому члену ці кандыдату партыі, так і прысутным пры абмене сакратару парткома і парторгу, аб далейшых метадах палітычнага выхавання данага таварыша, вызначаюцца асноўныя мера-

прыемствы палепшання арганізацыйна-партыйнай і выхаваўчай работы.

У час абмену выявілася, што члены партыі тт. **Жолудзеў** (НКВД), **Лібер** (горсовет), **Карпіцкі** (Ільнакамбінат) палітычна слаба падрыхтаваны, што ім патрэбен пэўны час для павышэння ідэйна-палітычнага ўзроўню. Для такіх членаў партыі абмен адкладзен, каб даць ім магчымасць лепш падрыхтавацца.

Вопыт першых дзён паказвае, што абмен партдакументаў дае агромны штуршок палітычнаму росту комуніста, яго рабоце над сабой.

Добра падрыхтаваліся да абмену партыйныя арганізацыі Ільнакамбіната, зав. «Чырвоны змагар», горсовета. Партарганізацыя Ільнакамбіната правяла вялікую падрыхтоўчую работу з кожным членам і кандыдатам партыі па засваенню арганізацыйных прынцыпаў большэвізма, статута і праграмы партыі і апошніх рашэнняў пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б аб выніках праверкі партдакументаў.

Узяць, напрыклад, члена партыі тав. **Фрумкіна,** якога раней лічылі пасіўным. За перыяд праверкі тав. Фрумкін значна павысіў сваю актыўнасць у рабоце партарганізацыі і зараз з'яўляецца лепшым парторгам свайго цэха, праяўляе ініцыятыву ў палепшанні пастаноўкі партыйна-масавай работы, рэгулярна прапрацоўвае рашэнні партыі сярод рабочых, наладзіў выпуск насценнай газеты, арганізаваў тэхнічную вучобу стаханаўцаў.

Тав. **Шалыгіна**—кандыдат партыі. Узначаліла стаханаўскі рух у сваёй брыгадзе, добра займаецца ў партыйным гуртку, засвоіла і разбіраецца ў пытаннях гісторыі партыі, праграме і статуце ВКП(б), бягучай палітыцы. Пры абмене т. Шалыгіна вызначана ў рэзерв на вылучэнне.

Тав. **Сласцёнак**—член партыі. У перыяд праверкі партком атрымаў заданне ўзняць яе ідэйна-палітычны ўзровень. Да абмену тав. Сласцёнак прышла падрыхтаванай. Яна не толькі рэгулярна, але і выдатна займаецца ў партыйным гуртку, чытае мастацкую літаратуру.

Тав. **Маркелаў**—член партыі. Прымае актыўны ўдзел у партыйным жыцці. Стаханавец, майстар змены, у якой працуе 66 рабочых, з іх—44 стаханаўцы.

Пры абмене партдакументаў у партарганізацыі Ільнакамбіната 5 комуністаў прызначаны ў рэзерв на вылучэнне.

У партарганізацыі Белдрэс пачатак абмену партдакументаў першых 7 членаў і кандыдатаў партыі паказаў значнае павышэнне ідэйна-палітычнага ўзроўню, авангарднай ролі комуністаў на вытворчасці і якраз тых, якія выраслі за перыяд праверкі і падрыхтоўкі да абмену. Лепшым прыкладам такога росту могуць служыць наступныя члены і кандыдаты партыі:

Тав. **Бычкоў**—член партыі з 23-гадовым вытворчым стажам, стаханавец, у мінулым батрак. У перыяд пасля праверкі партдакументаў вылучан з качагараў у начальнікі зольнага цэха. З большэвіцкай настойлівасцю ўзнімае сваю агульную і палітычную адукацыю. За зімовы перыяд скончыў вячэрнюю школу за 5 груп (т. Бычкову 53 гады). На заняткі партыйнай школы прыходзіць найлепш падрыхтаваным, з канспектамі, бо заўсёды наведвае парткабінет для кансультацыі па тэме, якая праходзіцца ў школе. Прымае актыўны ўдзел у абароннай рабоце на Белдрэс і ў падшэфным калгасе.

Тав. **Кузнецоў**—кандыдат партыі. У мінулым беспрытульны, выхаванец дзіцячага дому. Выключаўся з партыі за п'янку, адарванасць ад партыйнага жыцця. Цяпер чалавека не пазнаць. Па водзывах партыйнай арганізацыі і пры абмене выяўлена, што тав. Кузнецоў актыўна ўдзельнічае ў партыйным жыцці, добра займаецца ў партыйным гуртку, стаханавец на вытворчасці, арганізатар стаханаўскага руху і стаханаўскіх метадаў падачы торфу ў бункеры.

Тав. **Драчоў**—член партыі, арганізатар стаханаўскага руху на Белдрэс, лепшы агітатар і чытчык ў сваім цэху, сістэматычна ўпарта працуе над сабой, вызначан у рэзерв на вылучэнне.

Члены партыі тт. Дзмітраковіч, Невіданаў, Разумовіч таксама значна выраслі ідэйна-палітычна і прымаюць актыўны ўдзел у партыйным жыцці.

Абмен партыйных дакументаў узняў усю арганізацыйна-партыйную і выхаваўчую работу ў партыйнай арганізацыі.

Ва ўсіх партарганізацыях шырока практыкуюцца індывідуальныя справаздачы комуністаў на партыйных днях, паседжаннях парткомаў. Добра падрыхтаваныя самасправаздачы, як гэта паказаў вопыт, з'яўляюцца лепшым метадам уцягнення комуністаў у актыўнае партыйнае жыццё.

За перыяд падрыхтоўкі да абмену і ў час абмену бюро райкома заслухала 10 самасправаздач комуністаў аб тым, як выконваюцца заданні па праверцы членаў і кандыдатаў партыі, павышэнню ідэйна-палітычнага ўзроўню і актыўнага ўдзелу ў партыйным жыцці.

У партыйных арганізацыях гваздзільнага завода «Чырвоны Окцябр» і Ільнакамбіната практыкуюцца адначасовыя самасправаздачы двух комуністаў: найбольш і найменш актыўнага ў партыйным жыцці.

На сходах партарганізацый Ільнакамбіната, Белдрэс, завода «Чырвоны Окцябр» практыкуюцца даклады на партыйна-палітычныя тэмы недастаткова падрыхтаваных таварышоў з судакладамі найбольш падрыхтаваных.

У партарганізацыі завода «Чырвоны Окцябр» найбольш падрыхтаваныя таварышы прымацоўваюцца да адстаючых. Так, член партыі тав. Нірман, прымацаваны да кандыдата партыі тав. Васілевіцкай, якая па сямейнаму становішчу не можа рэгулярна наведваць школу (хварэе дзіця), займаецца з ёю на даму па праграме партыйнай школы.

У партарганізацыі Мясакамбіната член партыі тав. Ракін займаецца індывідуальна з членам партыі Адзярыха. Комуністы тт. Тішкін і Брадэвіч сумесна рыхтуюцца да заняткаў.

Партком Осінторфа вылучыў брыгады, якія праверылі, як члены і кандыдаты партыі выкарыстоўваюць свой вольны час, як працуюць над сабой дома, якую хатнюю бібліятэку маюць, што чытаюць. Пасля гэтай праверкі партыйная арганізацыя занялася ўпарадкваннем дня работы кожнага комуніста.

Партарганізацыя Белдрэс даручае радавым комуністам праверыць і інфармаваць аб рэалізацыі рашэнняў, прынятых на сходах партгруп і парткома. Аднак нельга не адзначыць, што яшчэ не ўсе партыйныя арганізацыі прымаюць на сваіх сходах канкрэтныя рашэнні, што не ўсе паставілі праверку выканання так, каб яна была фактарам дысцыплінаванасці, актыўнасці і адказнасці кожнага члена і кандыдата партыі.

Па ўсіх партарганізацыях раёна прапрацаваны рашэнні III пленума Камісіі Партыйнага Кантроля пры ЦК ВКП(б).

У паасобных партарганізацыях выяўлены выпадкі яўнага скажэння дырэктывы аб вынясенні партыйных спагнанняў. Так, партком Белдрэс без абгаварэння на партыйным сходзе выключыў з партыі тав. Правальскага за дапушчаную ім выпіўку перад ад'ездам на курсы парторгаў у Менск. У соўгасе «Забалоцце» кандыдат партыі тав. Круцікаў, актыўны ў партыйным жыцці і на рабоце, патрабаваў матар'яльнай дапамогі для палепшання свайго бытавога становішча, інакш не хацеў працаваць у калгасе. Замест таго, каб уздзейнічаць на тав. Круцікава мерамі партыйна-выхаваўчага парадку і сапраўды глыбей унікнуць у яго бытавыя ўмовы, партарганізацыя выключыла яго з партыі.

Такія скажэнні статута партыі з'яўляюцца вынікам неразумення рашэнняў ЦК ВКП(б) аб праверцы і абмене партдакументаў. Раённы камітэт у прысутнасці выключаных таварышоў абгаварыў на бюро гэтыя факты і выключэнне адмяніў.

У сувязі з абменам партдакументаў бюро райкома разгледзела і зняла партыйныя спагнанні з 65 членаў і кандыдатаў партыі, якія праявілі сябе на рабоце і ў партыйным жыцці дысцыплінаванымі і актыўнымі. Заявы комуністаў аб зняцці партыйных спагнанняў, да разгляду на бюро райкома, абгаварваліся на партыйным сходзе кожнай нізавой партарганізацыяй, што садзейнічала выхаванню комуністаў, росту іх партыйнай свядомасці і дысцыплінаванасці.

**Е. Сосінаў**

**Сакратар бярэзінскага РК КП(б)Б**

# Аб падрыхтоўцы і правядзенні абмену партыйных дакументаў

Ажыццяўляючы дырэктывы снежаньскага і студзеньскага пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б, інструкцыі ЦК ВКП(б) аб парадку і тэхніцы абмену партыйных дакументаў, дырэктывы ЦК КП(б)Б, бярэзінскі райком партыі правёў значную падрыхтоўчую партыйна-масавую і арганізацыйную работу да абмену партыйных дакументаў. Уся ўвага накіравана была галоўным чынам на тое, каб давесці да свядомасці кожнага комуніста палітычнае значэнне замацавання вынікаў праверкі, падрыхтоўкі да абмену партыйных дакументаў, узлыму ўсёй унутрыпартыйнай арганізацыйнай і выхаваўчай работы да ўзроўню задач, пастаўленых партыяй.

Рашэнні снежаньскага і студзеньскага пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б своечасова былі абгавораны на сходзе раённага партыйнага актыва і ва ўсіх пярвічных партарганізацыях.

На працягу студзеня райком перабудаваў структуру партыйнай арганізацыі. Амаль усе комуністы-адзіночкі аб'яднаны ў пярвічныя партарганізацыі, за выключэннем 17 адзіночак, якія працуюць на далёкай адлегласці ад тэрытарыяльных партарганізацый. У выніку створаны 14 пярвічных партарганізацый і 8 кандыдацкіх груп.

Для ўсіх парторгаў новаарганізаваных пярвічных партарганізацый і кандыдацкіх груп створаны пяцідзенныя курсы. У лютым праведзена нарада, на якой абгаворана пытанне аб задачах парторгаў у сувязі з абменам партыйных дакументаў і аб парадку запаўнення рэгістрацыйных бланкаў.

У пярвічных партарганізацыях 10 і 20 лютага праведзены адзіныя партыйныя дні для прапрацоўкі статута і праграмы партыі ў сувязі з абменам.

25 лютага адбыўся раённы партыйны сход з дакладам сакратара райкома аб задачах партыйнай арганізацыі ў падрыхтоўцы да абмену партыйных дакументаў.

27 лютага праведзен адзіны партыйны дзень ва ўсіх пярвічных партарганізацыях па пытанню падрыхтаванасці іх да абмену, а таксама па пытанню запаўнення рэгістрацыйных бланкаў. Партдзень праводзілі члены бюро, работнікі апарата райкома і больш падрыхтаваныя таварышы з раённага партыйнага актыва. Па гэтаму пытанню ў пачатку сакавіка сакратар райкома склікаў інструкцыйную нараду комуністаў-адзіночак, а таксама вылучаных рэгістратараў. На прак-

тычных прыкладах рэгістратарам былі ўказаны дапушчаныя імі памылкі і дэфекты пры запаўненні бланкаў.

17 сакавіка адбылася нарада партарганізатараў і кіраўнікоў кандыдацкіх груп з дакладамі аб праведзенай імі падрыхтоўчай рабоце да абмену.

У выніку мы маем некаторы ўздым усёй унутрыпартыйнай, арганізацыйна-выхаваўчай работы.

Такія пярвічныя партарганізацыі як РВК, Спіртазавода, якія сістэматычна зрывалі партыйныя дні, працавалі без плана, сталі цяпер у рады перадавых.

У складанні плана работы партарганізацыі РВК прымалі ўдзел усе 12 членаў партыі. Аб часе і змесце партыйных сходаў комуністы паведамляюцца за 3—4 дні позвамі, што забяспечвае своечасовую і поўную яўку.

За студзень-сакавік партарганізацыя правяла 7 партыйных сходаў, на якіх прапрацаваны: рашэнні снежаньскага і студзеньскага пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б, статут і паграма партыі, пытанне падрыхтоўкі да абмену, ход справаздачнай кампаніі сельсоветаў, гутарка таварыша **Сталіна** з амерыканскім журналістам Рой-Говардам і пастанова II пленума Камісіі Партыйнага Кантроля пры ЦК ВКП(б). Характэрна, што сур'ёзныя палітычныя даклады даручаюцца радавым комуністам, а не штатным дакладчыкам.

На партыйных сходах практыкуюцца індывідуальныя справаздачы комуністаў. Так, тт. Вавэрняк і Свержынская дакладвалі партсходу аб рабоце над павышэннем свайго палітычнага і культурнага ўзроўню, па дакладах выступалі тт. Навасёлаў і Дзятко, правяраўшыя іх работу. Высвятлілася, што тав. Свержынская зусім не чытае мастацкай літаратуры, тав. Вавэрняк не канспектуе матар'ялаў, якія праходзяцца ў партыйнай школе. Партыйны сход абавязаў тав. Свержынскую прачытваць не менш аднаго мастацкага твору ў месяц, а тав. Вавэрняк—лепш прапрацоўваць заданні партыйнай школы і ў дапамогу прымацаваў да яе тав. Навасёлава. Парторга тав. Юдкіна сход абавязаў два разы ў месяц правяраць, як выконваецца гэта пастанова. Паколькі тав. Вавэрняк скардзілася на дрэнныя жыллёвыя ўмовы, партарганізатар дапамог ёй у адшуканні добрай кватэры. Усе комуністы вучацца ў партгуртку пры РВК і ў семінары партактыва.

Партарганізацыя НКВД за студзень-сакавік правяла 4 партыйныя сходы, на якіх прапрацаваны рашэнні снежаньскага і студзеньскага пленумаў ЦК, статут і праграма партыі, інструкцыя аб абмене партыйных дакументаў, пытанні запаўнення рэгістрацыйнага бланка. Партарганізацыя ў сваёй рабоце строга кіруецца планам. Усе комуністы ахоплены партыйнай вучобай, маюць нагрузкі і аб выкананні іх дакладваюць на партыйных сходах.

Партарганізацыя Спіртазавода налічвае 5 членаў і кандыдатаў партыі. На партыйных сходах прапрацаваны рашэнні снежаньскага пленума ЦК ВКП(б), праграма і статут партыі, аб падрыхтоўцы да абмену партыйных дакументаў. Усе комуністы маюць партыйныя нагрузкі. У партыйнай школе пры заводзе займаюцца ўсе комуністы і спачуваючыя. Рэалізуючы рашэнні снежаньскага і студзеньскага пленумаў ЦК, партыйная арганізацыя дабілася шырокага разгортвання стаханаўскага руху на заводзе, датэрміновага і добраякаснага выканання промфінплана за першы квартал.

Партарганізацыя Высокагорскага сельсовета за два месяцы існа-

вання правяла 6 партыйных сходаў, звязаных пераважна з падрыхтоўкай да абмену партыйных дакументаў. Работа праводзіцца строга па плану. Усе комуністы маюць партыйныя абавязкі і ахоплены вучобай. Значна палепшылася і работа сельсовета, які ў мінулым годзе адставаў па ўсіх паказчыках, а зараз мае добрыя паказчыкі ў важнейшых галінах работы: падрыхтоўка да сяўбы, выкананне фінплана, вывазка і нарыхтоўка лесу, пастаўка мяса.

Ва ўсіх пярвічных партарганізацыях перагледжаны партыйныя абавязкі з улікам здольнасці і падрыхтаванасці кожнага комуніста. Аднак, нагрузкі не заўсёды даюцца паводле здольнасці і жадання комуніста. Так, партарганізацыя камітэта загатовак даручыла тав. Маю адказнасць за работу рэдкалегій усіх насценгазет пры камітэце. Партарганізацыя Леспрамгаса таксама дае агульныя, неканкрэтныя партыйныя нагрузкі, не правярае і не дапамагае ў іх выкананні.

Як правіла, усе пярвічныя партарганізацыі маюць зараз планы работ, завялі папкі для спраў, дырэктыў райкома і пратаколаў партыйных сходаў. Копіі пратаколаў высылаюцца ў райком, які захоўвае іх у асоба заведзеных справах.

Значна палепшылася падрыхтоўка і правядзенне партыйных дзён. Парторгі рэдакцыі райгазеты, РВК, Ягодскага механізаванага лесапункта і іншых партарганізацый забяспечылі своечасовую яўку, добрую падрыхтаванасць і актыўны ўдзел комуністаў у абгаварэнні пытанняў партыйнага сходу.

У апошні час райком пачаў практыкаваць падагульненне вопыту партыйных дзён лепшых пярвічных партарганізацый для перадачы адстаючым.

* * *

Прапагандыстамі партыйных школ і гурткоў працуюць падрыхтаваныя таварышы, сярод іх пяць членаў і кандыдатаў бюро і адзін член райкома. На пропсемінары 3 разы ў месяц праводзіцца кансультацыя па тэмах школ і гурткоў, а таксама праверка канспектаў, і адзін раз—заняткі па ленінізму, на якіх кожны прапагандыст абавязан зрабіць грунтоўны даклад на пэўную тэму. Кіруе семінарам сакратар райкома.

У выніку добрай падрыхтоўкі прапагандыстаў павысілася якасць выкладання гісторыі партыі, узнялася зацікаўленасць комуністаў вучобай.

За час падрыхтоўкі да абмену партыйных дакументаў прапрацаваны праграма і статут партыі, гутарка тав. **Сталіна** з амерыканскім журналістам Рой-Говардам. У сувязі з ростам зацікаўленасці пытаннямі міжнароднага становішча 24 сакавіка праведзен на гэту тэму спецыяльны даклад для райпартактыва.

Пярвічныя партарганізацыі дапамагаюць комуністам у іх палітычным росце.

Раней пасіўныя члены партыі—тт. **Буры**, партстаж з 1926 г., **Старобінец**, партстаж з 1930 г. (рэдакцыя), **Несцеровіч**, партстаж з 1919 г. (леспрамгас), **Капытко**, партстаж з 1930 г. (калгас «Молат»), **Бачароў**, партстаж з 1923 г. («ОРС»), кандыдаты партыі тт. **Крупкін**, кандыдацкі стаж з 1931 г., **Ясько**, стаж з 1928 г. (Вінзавод) маюць нагрузкі, выступаюць на партыйных сходах, сталі цікавіцца палітыч-

ымі пытаннямі, чытаюць газеты. На бюро райкома і партыйных сходах былі заслуханы іх самасправаздачы.

Аднак у нас ёсць яшчэ паасобныя комуністы, якія не ўдзельнічаюць у партыйным жыцці і сваімі паводзінамі кампраметуюць аўтарытэт партыі (тт. Хіхіч, Лескавец М., Леўгофт, Гулякевіч, Кужаль і Гайдук).

За час падрыхтоўкі да абмену значны палітычны рост і актыўнасць у партыйнай рабоце праявілі парторгі тт. **Лескавец** (райгазета), **Юдкін** (РВК), **Карповіч** (НКВД), **Карасік** (Высокагорскі сельсовет), **Іскольскі** (парттурток пры РВК).

У працэсе праверкі партыйных дакументаў былі вылучаны на кіруючую работу тт. **Сацук** (заг. райАНА), **Гарэлік** (старшынёй вучкома учдора 718), **Альшэўскі** (старшынёй сельпо), **Цыпін** (сакратаром РВК). Усе вылучэнцы паказалі сябе здольнымі да работы, палітычна выраслі.

За апошні час значна палепшылася работа са спачуваючымі. Пры райкоме для іх былі скліканы трохдзенныя курсы, на якіх прапрацаваны: статут і праграма партыі, прамовы таварыша **Сталіна** аб стаханаўскім руху. Аднак групы спачуваючых растуць усё яшчэ слаба. Часам комуністы, ведаючы таварышоў, дастойных быць спачуваючымі, не рэкамендуюць іх, баючыся адказнасці. Такая нездаровая з'ява наглядаецца, напрыклад, на Вінзаводзе.

* * *

Абмен партыйных дакументаў праведзен ужо ў партарганізацыях Учдора, Вінзавода і часткова НКВД. Для абмену падрыхтавана памяшканне, чакаючыя культурна праводзяць свой час за газетамі, шашкамі, даміно, слухаюць патэфон. Трое добра падрыхтаваных кансультантаў праводзяць гутаркі на партыйныя тэмы, соцбудаўніцтва, міжнароднага становішча, па пытаннях абмену партдакументаў і правільнасці запаўнення рэгістрацыйнага бланка.

Бярэзінская партарганізацыя за першыя тры дні абмяняла і выдала 9 партбілетаў і 3 кандыдацкія карткі.

Першым атрымаў партбілет тав. **Самцоў** Еўгені Зіноўевіч—член партыі з 1927 года. Жыццёвы шлях тав. Самцова невялікі, але цікавы. Выхадзец з пролетарскай сям'і, выхаванец партыі і комсамола, ён працуе начальнікам комсамольскага дарожнага ўчастка 718. На рабоце паказаў сябе лепшым большэвіком і арганізатарам. Яго ўчасток з'яўляецца ўзорным у БССР. За ўмелую пастаноўку работы на сваім участку тав. Самцоў у дзень 15-годдзя вызвалення Беларусі ад белапалякаў узнагароджан ганаровай граматай ЦВК і СНК БССР. Атрымліваючы новы партбілет, тав. Самцоў даў абяцанне яшчэ з большай сілай і энергіяй працаваць на карысць пабудовы бяскласавага грамадства.

Другім атрымаў партбілет тав. **Таўкач** Алексей Фёдаравіч—член партыі з 1932 г., выхадзец з беднай сялянскай сям'і. Працуе цяпер загадчыкам сектара механізацыі учдора 718. За час праверкі партдакументаў як на рабоце, так і ў партыйным жыцці, тав. Таўкач значна вырас, з'яўляецца парторгам сваёй партарганізацыі і завочнікам партвучобы. Пры атрыманні партбілета тав. Таўкач абяцаў яшчэ лепш працаваць над павышэннем свайго палітычнага і тэарэ-

тычнага ўзроўню, каб апраўдаць высокае званне члена ленінска-сталінскай партыі.

Наступным новы партбілет атрымаў тав. Ясько з партарганізацыі Вінзавода, дзе працуе слесарам. Раней зусім адсталы, тав. Ясько значна вырас за час праверкі партдакументаў, добра разбіраецца ў пытаннях бягучай палітыкі партыі.

Першыя дні абмену партыйных дакументаў паказалі нам, што яшчэ далёка не ўсе пярвічныя партарганізацыі ўдзяляюць належную ўвагу рабоце і палітычнаму росту членаў і кандыдатаў партыі, не ўлічваюць своечасова іх запатрабаванняў.

Задача райкома і ўсіх пярвічных партарганізацый—правесці абмен на такім палітычным узроўні, каб, выправіўшы ўсе недахопы ўнутрыпартыйнай і палітвыхаваўчай работы, забяспечыць яшчэ большую згуртаванасць і боездольнасць сваіх радоў.

---

І. Каждан

Сакратар лепельскаго АК КП(б)Б

# Партыйны сход—школа ідэйна-палітычнага выхавання комуністаў

Яшчэ красавіковы пленум ЦК КП(б)Б у 1935 годзе ў рэзалюцыі аб задачах партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы ў КП(б)Б указаў усім партыйным арганізацыям, што да склікання партыйнага сходу «партыйнае кіраўніцтва павінна аднесціся, як да важнейшай справы ў жыцці арганізацыі, адсюль—падрыхтоўка і правядзенне партсходу павінны быць пастаўлены такім чынам, каб кожны партыйны сход узнімаў яго ўдзельнікаў на пэўную ступень». І гэта зусім зразумела. Партыйныя сходы ў нашай партыі заўсёды былі і ёсць важнейшай школай ідэйна-палітычнага выхавання комуніста.

Іншая справа, што ў радзе пярвічных партыйных арганізацый скрозь і ўсюды несур'ёзна адносяцца да склікання і правядзення сходу, як аднаго з важнейшых сродкаў выхавання комуніста.

Праверка партыйных дакументаў з усёй паўнатою ўскрыла гэты недахоп. У ходзе праверкі, адначасова з агульным уздымам партыйна-масавай і палітыка-выхаваўчай работы, значна ўзнялася і роля партыйных сходаў. З часу заканчэння праверкі прашло ўжо поўгода. Зараз уся партыя праводзіць другое, не менш важнае, арганізацыйна-палітычнае мерапрыемства, накіраванае на замацаванне рэзультатаў праверкі, на яшчэ большае ўмацаванне радоў ВКП(б)—гэта абмен партыйных дакументаў. Лепельская акруговая партарганізацыя ўжо заканчвае абмен у адным раёне.

У гэтай сувязі паўстае зусім законнае пытанне: што-ж мы маем цяпер, як мы замацавалі рэзультаты праверкі на гэтым участку партыйна-масавай і палітыка-выхаваўчай работы?

На 1 студзеня 1936 г. у партарганізацыі акругі было 38% комуністаў-адзіночак. У чашніцкай партыйнай арганізацыі комуністы-адзіночкі складалі 50% усёй партарганізацыі. Такая вялікая колькасць комуністаў-адзіночак, іх раскіданасць па сельсоветах і калгасах тармазіла, да некаторай ступені, шырокае разгортванне і ўздым на вышэйшую ступень работы партыйнага сходу, уцягненне ўсёй масы комуністаў у актыўнае партыйнае жыццё. У радзе месц адчувалася адарванасць комуніста-адзіночкі ад партыйнага жыцця. У лютым і пачатку сакавіка па раёнах была праведзена некаторая перабудова сеткі пярвічных партарганізацый. Мы паставілі сваёй задачай—комуністаў-адзіночак, якія працуюць каля існуючых пярвічных партарганізацый, аб'яднаць у пярвічнай партарганізацыі.

У рэзультаце праведзенай перабудовы комуністаў-адзіночак засталося 6% усёй партарганізацыі акругі.

Перабудова сеткі пярвічных партарганізацый, шырока разгорнутая падрыхтоўка да абмену партыйных дакументаў значна ажывілі работу партыйных сходаў, узнялі актыўнасць комуністаў, узмацнілі партыйную дысцыпліну, унеслі арганізаванасць.

У асноўным мы ўжо пакончылі з такою з'явай, калі партыйны сход збіраўся па першаму жаданню парторга, без належнай падрыхтоўкі, калі комуніст нярэдка аб скліканні партсходу даведваўся за гадзіну-дзве да яго адкрыцця, а пра абвестку дня—толькі на сходзе. Цяпер, як правіла, большасць партыйных арганізацый да партсходу рыхтуецца самым уважлівым, самым сур'ёзным чынам, а таму і самыя сходы праходзяць ужо больш арганізавана.

Вось партыйны сход комуністаў кааперацыйна-нарыхтоўчай арганізацыі м. Ушачы.

Аб часе склікання партыйнага сходу, абвестцы дня і памяшканні, дзе будзе адбывацца сход, было абвешчана кожнаму комуністу яшчэ за 3—5 дзён. На сходзе стаяла адно пытанне: аб падрыхтоўцы да абмену партдакументаў. З 8 комуністаў роўна ў вызначаны час з'явілася 7 чалавек, адзін не з'явіўся па ўважлівых прычынах. Пасля невялікага, але вельмі змястоўнага дакладу аб задачах абмену партдакументаў адкрыліся спрэчкі. Выступалі ў спрэчках усе 7 прысутных на сходзе комуністаў.

Змест спрэчак быў выключна дзелавым, канкрэтным. Рашучай крытыцы была падвергнута дзейнасць члена партыі Рудзянка, які, з'яўляючыся сынам валаснога старасты, скрыў гэта ад партыі, і кандыдата партыі Сокалава, які мае сувязь з двума братамі, асуджанымі за контррэволюцыйную работу. Акрамя таго, у спрэчках з выключнай вострасцю былі адзначаны ўсе недахопы ў рабоце пярвічнай партарганізацыі, у палітвучобе і т. д.

У Бягомельскім раёне на адзіны партдзень па пытаннях падрыхтоўкі да абмену партдакументаў не з'явілася па ўсіх пярвічных партарганізацыях 11 чалавек, прычым без уважлівых прычын—усяго 2 чалавекі. У спрэчках выступіла 70% прысутных. У выніку ўзрослай актыўнасці комуністаў па акрузе паступіла кампраметуючых матэр'ялаў на 113 чалавек і выкрываўчых на 15 чалавек.

Цікавы па свайму зместу партдзень правяла ў пачатку студзеня каменская тэрытарыяльная партарганізацыя (Лепель). Партдзень быў прысвечан распрацоўцы пастановы СНК СССР і ЦК ВКП(б) аб умацаванні калгасаў нечарназемнай паласы. Шырока абгаварыўшы гэту пастанову, сход у сваім рашэнні намеціў рад практычных мерапрыемстваў для яе выканання. На партдні 28 студзеня абгаварвалася ўжо тое, што зрабіў кожны комуніст для рэалізацыі гэтага рашэння ў калгасах.

Наогул трэба адзначыць, што праверка выканання становіцца неад'емнаю часткай усёй работы пярвічных партарганізацый. На сходах раду партарганізацый парторг дакладвае аб тым, што зроблена для выканання рашэнняў папярэдняга сходу.

У нашай далейшай практыцы разгортвання партыйна-масавай работы найбольшую каштоўнасць мае апошні адзіны партдзень, праведзены па ўсёй акруговай партарганізацыі 22—25 сакавіка з пастаноўкай самасправаздач комуністаў. Справа ў тым, што не толькі раённыя камітэты партыі, але скрозь і ўсюды нават пярвічныя партарганізацыі яшчэ слаба ведаюць, як комуніст вучыцца, як працуе, як жыве і т. п. З другога боку, самасправаздачы—адна з тых форм

і метадаў, якія цалкам і поўнасцю накіраваны на выхаванне комуніста, павышэнне яго ідэйна-палітычнага ўзроўню, умацаванне большэвіцкай дысцыпліны. Да гэтага часу самасправаздачы практываліся вельмі рэдка.

Акруговы камітэт партыі правёў адзіны партдзень па 59 пярвічных партарганізацыях. Павінна было прысутнічаць 490 членаў і кандыдатаў партыі, прысутнічала 423 чалавекі або 86%. Заслуханы самасправаздачы 126 комуністаў. Выступіла ў спрэчках 307 чалавек або 72% прысутных.

Не гледзячы на рад упушчэнняў і недахопаў, аб якіх мы скажам ніжэй, адзіны партдзень прашоў на высокім палітычным узроўні, і самасправаздачы адыгралі вялікую станоўчую ролю ў выхаванні комуністаў.

Вось некалькі фактаў.

Са справаздачы дырэктара ўшацкага леспрамгаса тав. **Неплоха** выявілася, што над павышэннем свайго ідэйна-палітычнага ўзроўню ён працуе больш-менш здавальняюча, рэгулярна чытае газеты «Правда», «Звязда», мастацкую літаратуру, добра займаецца ў партыйнай школе па гісторыі партыі, але не працуе над павышэннем сваёй вытворча-дзелавой кваліфікацыі, адстае ў культурным росце, зусім не ходзіць у кіно. Сход прапанаваў тав. Неплоху чытаць часопіс «Техника лесного хозяйства», параіў хадзіць да 2—3 раз у месяц у кіно. **Акрамя таго, улічваючы, што тав. Неплох можа больш** працаваць над павышэннем свайго ідэйна-палітычнага ўзроўню, сход прапанаваў яму ўзяцца за самастойную праппрацоўку паасобных твораў Леніна—Сталіна і ў бліжэйшы час праппрацаваць «Асновы ленінізма».

Са самасправаздачы комуніста **Іоффе** (Ушачы) выявілася, што ён ніякай увагі не ўдзяляе сваім дзецям: яны распушчаны, дрэнна вучацца, ходзяць абадранымі. У сваім рашэнні сход рашуча ўказаў тав. Іоффе на недапушчальнасць такіх адносін да выхавання дзяцей.

Зрабіўшы дзейнасць комуніста прадметам шырокага абгаварэння, партарганізацыя дасягае таго, што дае яму канкрэтныя ўказанні ў далейшай рабоце і таварыскую дапамогу ў ідэйна-палітычным росце, а, з другога боку,—на канкрэтных прыкладах дзейнасці паасобнага комуніста выхоўвае ўсіх астатніх.

У правядзенні гэтага партдня рад партарганізацый дапусціў істотныя недахопы; па самасправаздачах часта выносіліся агульныя, фармальныя і нават несур'ёзныя рашэнні.

У калгасе «Чырвоны Окцябр» (Ушачы) па самасправаздачы члена партыі тав. Свідзінскага, якога калгаснікі за 5—6 дзён да партсходу п'янага насілі па вуліцы, вынесена рашэнне: «Тав. Свідзінскаму трымаць сябе і ў далейшым так, як трымае сябе ў сучасны момант наконт выпіўкі!» Такое рашэнне таварышы тлумачаць тым, што Свідзінскі за пяць дзён да сходу перастаў піць. Паўстае пытанне: што дала самасправаздача Свідзінскаму?

Фармальнае рашэнне вынесена па самасправаздачы комуніста Кундэля (Чашнікі). Тав. Кундэль малаграматны, палітычна слаба развіты, амаль не ўладае беларускай мовай, а ў рашэнні сказана: «Выпісаць і чытаць газеты «Звязда», акруговую газету «Калгасная праўда» і райгазету. Прачытаць кніжкі: «Як гартавалася сталь» Остроўскага, «Чапаеў» Фурманава, працаваць над гісторыяй партыі, а для таго каб добра засвойваць матар'ял, хадзіць на кансультацыі».

Рашэнне само па сабе добрае, але да тав. Кундэля не падыходзіць. Яму правільней было-б прапанаваць выпісаць газету «Окцябр» на яўрэйскай мове, прымацаваць настаўніка па агульна-адукацыйных прадметах, прачытаць на першы раз хоць-бы адзін мастацкі твор і дапамагчы разабрацца ў ім, нарэшце, замест агульнай прапановы «вывучаць гісторыю партыі і хадзіць на кансультацыі», прымацаваць моцнага таварыша для вывучэння гісторыі партыі. Такое рашэнне хутчэй дасягнула-б мэты: тав. Кундэль атрымаў-бы сапраўды дзелавое настаўленне і дапамогу.

Вось яшчэ прыклад агульнага рашэння. Пярвічная партарганізацыя Акрспажыўсаюза па самасправаздачы комуніста Фроленкава пастанавіла: «Пярвічная партарганізацыя лічыць, што за час прабывання тав. Фроленкава ў радах ВКП(б) ён праявіў сябе, як вытрыманы, дысцыплінаваны таварыш. Лічыць неабходным стварыць тав. Фроленкаву лепшыя ўмовы для работы і дапамогу. Прапанаваць тав. Фроленкаву працаваць больш над сабой па павышэнню ідэйна-палітычнага ўзроўню». Ясна, што такое рашэнне абсалютна нічога не дае.

З усяго гэтага вывад адзін: рашэнні па самасправаздачах павінны быць выключна канкрэтнымі, са строгім улікам усіх індывідуальных якасцей і здольнасцей комуніста. Каштоўным будзе толькі такое рашэнне, якое ўкажа комуністу не толькі, скажам, на неабходнасць працаваць над сабой, але і дасць канкрэтнае ўказанне: як працаваць, што чытаць і т. п.

Другім недахопам партыйнага дня было тое, што самасправаздачы ў радзе выпадкаў ператварыліся ў даклады правініўшыхся комуністаў, тым часам як самасправаздача—не праверка, а адзін з метадаў выхавання комуніста. Вось чаму трэба ставіць самасправаздачы і добрага, прыкладнага комуніста, каб на яго прыкладзе выхоўваць астатніх.

Нарэшце, нельга слухаць адразу самасправаздачы многіх комуністаў. Вопыт партдня паказаў, што на сходзе можна слухаць самасправаздачы самае большае двух-трох комуністаў і то пры ўмове, калі ў абвестцы стаіць адно гэта пытанне, калі-ж ёсць і іншыя, то больш адной самасправаздачы слухаць нельга.

Цяпер паўстае пытанне аб тым, як быць у далейшым, як слухаць самасправаздачы комуністаў, скажам, другі раз. Зусім зразумела, што ў аснову наступнай самасправаздачы павінна быць пакладзена праверка таго, як даны таварыш выканаў указанні, як вырас за гэты перыяд.

У заключэнне некалькі слоў аб раённых партсходах. Значнае палепшанне дасягнута ўжо і ў гэтых адносінах. Даволі ўказаць хоць-бы на апошні сход лепельскай раённай партарганізацыі, які адбыўся 22 лютага. Па-першае, акуратная яўка (з адчыненнем раённага сходу спазніліся ўсяго на 20 мінут). На сход з'явілася членаў партыі 92%, кандыдатаў 85%. У спрэчках запісалася 50 чалавек, выказалася 20.

У радзе партарганізацый ёсць яшчэ безумоўна многа недахопаў у правядзенні партсходаў, але галоўная мэта ўсё-ж дасягнута: партыйныя сходы становяцца ўсё больш і больш асноўнай формай выхавання комуністаў.

І. Кіслік

Сакратар парткома Віцебскай акулярнай фабрыкі

# Партыйны сход—школа большэвізма

Тав. Кагановіч на XVII з'ездзе партыі, гаворачы аб ідэйным узбраенні комуністаў, асаблівую ўвагу ўдзяліў ролі і значэнню партыйных сходаў. Ён сказаў: «Член партыі навучаецца і павінен навучацца на партыйных сходах большэвізму не менш, калі не больш, чым у партыйнай школе».

Нашы партыйныя сходы будуць пераўтвораны ў школы большэвізма толькі тады, калі нізавыя партыйныя звенні па-большэвіцку возьмуцца за падрыхтоўку да сходу кожнага члена сваёй партгрупы, загадзя абгаварваючы абвестку дня і ўстанавіўшы неаслабны кантроль за выкананнем рашэнняў партсходаў і парткамітэта. Гэта пацвярджаецца і вопытам падрыхтоўкі партыйных сходаў на Акулярнай фабрыцы.

Узяць к прыкладу партыйны сход, праведзены намі па пытанню работы са спачуваючымі. Пытанне гэта перш за ўсё абмеркавалі на паседжанні парткома, які вынес канкрэтныя прапановы для забяспечання поспеху партдня. Потым кожная партгрупа абмеркавала рашэнне парткома, вылучыла членаў партыі для дэталёвага абследвання спачуваючых на даму і падрыхтоўкі кожнага да самасправаздачы. Акрамя таго, партком даручыў паасобным членам партыі, якія рэдка выступаюць на агульных сходах (Садоўскі, Касарэўскі) праверыць пастаноўку ўсёй работы са спачуваючымі (вучоба, работа ў цэху, дапамога партгрупы, работа над сабой і т. п.). У гэтым-жа разрэзе кожная партгрупа падрыхтавала мала актыўных членаў партыі для ўдзелу ў абгаварэнні становішча работы са спачуваючымі.

Партком арганізаваў прапрацоўку сярод спачуваючых рашэнняў пленума ЦК ВКП(б) аб праверцы партдакументаў. Пытанне гэта прапрацавалі і на занятках палітгуртка, загадзя падрыхтаваўшы дыяграмы (ахоп рознымі відамі вучобы, паспяховасць, роля спачуваючага на вытворчасці), вітрыну літаратуры, якая рэкамендуецца да партдня.

У перыяд падрыхтоўкі партсходу партком заслухаў на даму ў спачуваючага тав. Валайціс самасправаздачы паасобных спачуваючых аб тым, як яны рыхтуюцца да сходу. Пасля гутаркі наладзілі калектыўны паход у Белдзяржтэатр для прагляду п'есы «Байцы».

Каб лепш падрыхтаваць спачуваючых да заняткаў у палітгуртку, правялі на кватэры ў адной спачуваючай папярэднюю прапрацоўку чарговай тэмы. Лепшым ударнікам вучобы была раздана на дом роз-

ная літаратура: брашуры Леніна, «Пытанні ленінізма» І. Сталіна, матар'ялы нарады стаханаўцаў.

Партарганізацыя займалася вывучэннем бытавых умоў спачуваючых. Абследванне на даму паказала, што некаторыя спачуваючыя жанчыны не могуць прыняць актыўнага ўдзелу ў грамадскім жыцці, бо сустракаюць перашкоды з боку сваіх мужоў.

Сход прашоў вельмі ажыўлена. Прысутныя з цікавасцю заслухалі даклад аб рабоце са спачуваючымі, які ілюстраваўся дыяграмамі аб удзеле спачуваючых у рабоце і грамадскім жыцці фабрыкі. Пасля дакладу выступіў рад таварышоў. Асабліва многа гаварылі яны аб росце спачуваючых. Спачуваючы тав. **Канапелька** (шліфавальны цэх) з'яўляецца лепшым слухачом гуртка па вывучэнню гісторыі партыі, чытае мастацкую літаратуру, стахановец. Або ўзяць брыгадзіра штампавальнай брыгады тав. **Самцову.** Яна добра вучыцца ў групе спачуваючых, пачала чытаць мастацкую літаратуру. Прачытала ўжо «Маці» Горкага. Але ёсць спачуваючыя, якія яшчэ не праяўляюць актыўнасці ў рабоце. Напрыклад, тав. **Вашанка** прапускае заняткі, вучыцца слаба, недастаткова працуе, як праформ. Адзначана была таксама слабасць работы са спачуваючымі партыйных груп і парткома. Усяго выступіла 15 чалавек.

Сход вынес пастанову правесці спецыяльныя гутаркі па бягучай палітыцы, па пытаннях міжнароднага становішча. Зараз такія гутаркі ўжо праводзяцца. Таксама зацікавіць спачуваючых чыткай мастацкай літаратуры. Спачуваючыя тт. **Лазарава, Іванова, Гудава** і інш., якія раней нічога не чыталі, цяпер акуратна наведваюць бібліятэку.

Нядаўна правялі разбор твору Астроўскага «Як гартавалася сталь». На даму арганізавалі слуханне оперы «Ціхі дон», якая перадавалася па радыё з Ленінграда.

Партгрупы і партком пачалі даваць спачуваючым паасобныя даручэнні, з якімі яны нядрэнна спраўляюцца. Лепшыя чытчыкі газет на фабрыцы—тт. **Фейтэльсон, Старажылец, Амроміна.** Тав. Канапелька добра кіруе фабрычнай арганізацыяй МОПР.

Аднак партгрупы не заўсёды сістэматычна правяраюць, як выконваюцца рашэнні партыйных сходаў, ці своечасова на іх рэагуецца.

Задача парткома і ўсёй партарганізацыі фабрыкі—па-большэвіцку змагацца за выкананне ўказанняў снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) і студзеньскага пленума ЦК КП(б)Б аб усямерным палепшанні работы са спачуваючымі. Яны павінны ўцягнуць у групу спачуваючых перадавых людзей фабрыкі—стаханаўцаў, як адзін з асноўных рэзерваў для новага папаўнення радоў партыі, і так паставіць сярод іх палітычна-выхаваўчую работу, каб выкаваць у іх свядомасць і навыкі большэвіцкай арганізаванасці і дысцыпліны.

* * *

Вялікую ўвагу партком удзяляе таксама добрай падрыхтоўцы самасправаздач. Гэты метад дае магчымасць усёй партыйнай арганізацыі, партгрупе, кожнаму комуністу зрабіць неабходныя вывады для сваёй далейшай работы.

Узяць, напрыклад, члена партыі тав. **Садоўскага.** Пасіўны ў цэху і на сходах, ён не стаў у авангардзе стаханаўскага руху. Калі стахановец тав. **Цал** прапанаваў Садоўскаму пераняць метад яго работы, то ён адмовіўся.

Партгрупа зацікавілася Садоўскім, заслухала яго самасправаздачу і дала канкрэтныя ўказанні. Пасля індывідуальнай гутаркі партком даручыў яму праверыць і падрыхтаваць выступленне на парткоме аднаго комуніста. Праз некаторы час Садоўскі пачаў добра працаваць, стаў стаханаўцам, выконвае партыйныя даручэнні. Добра справіўся з праверкай вучобы спачуваючых і выступіў па гэтаму пытанню на агульным партсходзе.

Па-новаму пачаў працаваць над сабой пасля самасправаздачы кандыдат партыі тав. **Гуцін.** Займаецца вельмі добра. Глыбока працуе над першакрыніцамі па гісторыі партыі Леніна—Сталіна.

Было-б зусім няверна сцвярджаць, што трэба заслухоўваць самасправаздачы толькі тых членаў партыі, якія працуюць за станком, а кіруючы актыў абыходзіць.

Нядаўна партком заслухаў самасправаздачу начальніка цэха—комуніста тав. **Юдовіна,** які добра спраўляецца са сваёй работай, карыстаецца аўтарытэтам (цэх увесь час трымае пераходны сцяг), але не працуе над сабой, не выконвае свайго абавязку як прымацаваны палітбяседчык.

Пасля рашэння парткома тав. Юдовін выправіў свае недахопы. Акуратна наведвае комвуз, займаецца на «добра»; як палітбяседчык, пачаў працаваць з прымацаванымі, склаўшы план работы з імі. З мастацкай літаратуры чытае зараз «Як гартавалася сталь» Астроўскага. Актыўна дапамагае парттрупе ва ўсёй партыйна-масавай рабоце.

Побач са самасправаздачай добрыя вынікі дае і асабістая гутарка з комуністам сакратара парткома і парторга.

Аднак ёсць яшчэ на фабрыцы комуністы, якія не хочуць улічваць указанняў партыйнай групы. Член партыі з 1924 г. тав. **Фертаў** мае сярэднюю адукацыю, працуе намеснікам начальніка механічнага цэха. Здавалася-б, што пасля ўказанняў партыйнай групы па яго самасправаздачы, ён павінен змяніць свае адносіны да партыйнага жыцця. Аднак у дні вучобы ён абавязкова ходзіць у кіно, ніякай работы ў цэху не праводзіць, на сходах ніколі не выступае, стаіць у баку ад усяго жыцця фабрыкі. Гэта значыць, што ён не засвоіў вынікаў праверкі партдакументаў і рашэння снежаньскага пленума ЦК ВКП(б).

Зараз партарганізацыя рыхтуецца да партдня, прысвечанага самасправаздачам комуністаў аб выкананні статута партыі. Партыйныя групы прапрацоўваюць раздзел «Партыя» з «Пытанняў ленінізма», матар'ялы, змешчаныя ў газеце «Правда», статут і праграму. Уся падрыхтоўка павінна забяспечыць, каб на сходзе кожны комуніст не толькі абгаварваў самасправаздачы сваіх таварышоў, але і канкрэтна ўказаў, як ён асабіста падрыхтаваны да абмену партдакументаў.

---

**Н. Сігналаў**

# За большэвіцкае кіраўніцтва партвучобай

Партыйная арганізацыя фабрыкі штучнага валакна з'яўляецца буйнейшай у Магілеве. Партыйнае кіраўніцтва фабрыкі паказала ядрэнныя ўзоры работы на радзе ўчасткаў, асабліва ў галіне развіцця стаханаўскага руху, арганізацыі вытворчасці, тэхвучобы. Аднак яно не ўлічыла ўсёй важнасці партыйнай прапаганды, не ўдзяліла ёй належнай увагі, і ў выніку гэта справа з'яўляецца самым слабым участкам у сістэме партыйнай работы на фабрыцы.

Сакратар ЦК ВКП(б) тав. Андрэеў на адкрыцці Вышэйшай школы прапагандыстаў імя Свердлова гаварыў:

> «Уся прапагандысцкая работа і кожны прапагандыст павінны знаходзіцца пад сталым кіраўніцтвам партыйнай арганізацыі. Усякі самацёк у гэтай рабоце павінен быць ліквідаваны».

Як-жа пастаўлена прапагандысцкая работа на шоўкавай фабрыцы?

Возьмем такое канкрэтнае пытанне, як кіраўніцтва школамі і гурткамі. Яшчэ не так даўно некаторыя таварышы лічылі, што даволі рассадзіць членаў і кандыдатаў партыі па школах і гуртках, забяспечыць падручнікамі, прымацаваць прапагандыстаў, і справа пойдзе сама сабою. Так зрабіў і партком шоўкавай фабрыкі. Ён стварыў школьную сетку, вылучыў прапагандыстаў і на гэтым сваю місію лічыў скончанай, забываючы аб неабходнасці штодзеннага кіраўніцтва школамі і гурткамі па сутнасці.

На нарадзе загадчыкаў аддзеламі партпрапаганды і агітацыі краёў і абласцей тав. Стэцкі гаварыў:

> «Трэба вам **увязацца ва ўсе дэталі,** грунтоўней унікнуць у работу школы, гуртка, паглядзець сутнасць і метады работы, паглядзець, як вядзе работу прапагандыст, як ён растлумачвае, якія ён робіць памылкі і т. д.» *).

Гэтага ўказання не зразумеў парткамітэт шоўкавай фабрыкі, што выклікала рад буйных недахопаў у рабоце школ і гурткоў.

На працягу доўгага часу партком не заслухаў ні адной справаздачы школы, прапагандыста, слухача.

У працэсе азнаямлення з работай школ і гурткоў выявілася, што нам. сакратара парткома тав. Лацапнёў зусім не ў курсе іх работы.

Прывядзем адзін характэрны факт.

Прапагандыстка тав. Чолах расказвае, як яна прышла да тав. Лацапнёва з пытаннем, па якому падручніку працаваць у гуртку са спачуваючымі і атрымала адказ: «Вывучайце статут партыі». Скончыла

*) „В помощь партийной учебе“ № 36 за 1935 г.

статут і прыходзіць зноў, пытаючыся, што рабіць далей? Задумаўся нам. сакратара. Але на дапамогу прышла сама Чолах. «У мяне,— гаворыць яна,—ёсць падручнік Яраслаўскага па гісторыі партыі. Можа яго выкарыстаць?» «Вось, вось,—схапіўся Лацапнёў,—вывучайце Яраслаўскага». І пачала тав. Чолах вывучаць з малаграматнымі спачуваючымі народніцтва па падручніку Яраслаўскага. Не дзіўна, што слухачы яе гуртка гавораць: «Чыталі пра народнікаў, але, прызнацца па праўдзе, не можам нічога пераказаць, бо незразумела».

Партком не рэагаваў на такія факты, калі заняткі школ прызначаліся на 7 гадзіну раніцы пасля начной змены, калі на заняткі з ранішняй зменай, як гэта было 2 лютага, з'явілася два выкладчыкі на 1 слухача. Партком быў безудзельным сведкай і тады, калі камуністы Снобаў, Канавалаў і іншыя яўна ігнаравалі вучобу. Партком не зразумеў, што ў справе партпрапаганды патрэбна штодзеннае дыферэнцыяванае кіраўніцтва кожнай школай, гуртком, прапагандыстам, канкрэтнае веданне сутнасці іх работы. Самацёк у кіраўніцтве, няведанне справы—характэрная рыса работы парткома шоўкавай фабрыкі.

У сістэме партыйнай асветы на шоўкавай фабрыцы недаацэньваецца падручнік, часта ўся партвучоба зводзіцца да вывучэння пытанняў бягучай палітыкі.

Кандыдацкая школа, якою кіруе тав. Машкоўскі, з верасня месяца прапрацоўвала статут і праграму партыі, матар'ялы кангрэса, газетныя матар'ялы, але да падручніка палітграматы яшчэ не прыступала. У гуртку спачуваючых, якім кіруе тав. Лютаў, дашлі па падручніку Воліна і Інгулава да III главы «Усесаюзная комуністычная партыя (большэвікоў)» і з лістапада пераключыліся на пытанні бягучай палітыкі, закінуўшы асноўную праграму. Нават і ў гуртках па ленінізму, дзе займаюцца найбольш кваліфікаваныя таварышы, пытанням бягучай палітыкі адводзіцца пераважнае месца. 2 лютага на гэта была адведзена цэлая гадзіна.

Такім чынам рашэнне ЦК ВКП(б) аб правядзенні са слухачамі гутарак на тэмы палітыкі партыі і міжнароднага становішча ў працэсе заняткаў партком шоўкавай фабрыкі зразумеў няправільна, пераключыўшы рад школ і гурткоў толькі на вывучэнне бягучай палітыкі, ігнаруючы асноўную праграму, якая павінна праходзіцца па падручніку.

У цеснай сувязі з гэтым стаіць пытанне аб тэрмінах і планах работы школ і гурткоў. Рашэнне ЦК ВКП(б) аб немэтазгоднасці ўстанаўляць стандартныя тэрміны сканчэння работы школ партарганізацыя фабрыкі зразумела як адмаўленне ад тэрмінаў заканчэння работы кожнай школы паасобку. Гэта памылковае разуменне. Слухач павінен ведаць, колькі часу ён будзе праходзіць кожную тэму, калі прыблізна школа закончыць заняткі. Тэрмін і план дадуць слухачу перспектыву і прывучаць прапагандыста лепш арганізоўваць працэс вучобы.

Зусім зразумела, што нельга пераходзіць да наступнай тэмы, калі не засвоена папярэдняя. Але ясна таксама і тое, што засваенне пэўнага кола пытанняў павінна быць загадзя акрэслена якім-небудзь тэрмінам, інакш у рабоце партыйнай сеткі будзе размагнічанасць і расхлябанасць.

За арыентовачныя тэрміны сканчэння работы кожнай школы, за план заняткаў, зацверджаны парткомам, трэба змагацца. Гэта дыс-

цыпліную палітвучобу, дасць ёй мэтанакіраванасць, узніме адказнасць прапагандыста і слухача.

Няўважлівасць да прапагандыстаў, самацёк у кіраўніцтве вучобай моцна сказаліся на яе якасці.

Нам прыходзілася гутарыць са слухачамі вячэрняй соўпартшколы пасля таго, як яны праслухалі двухгадзінную лекцыю тав. Підарэнка на тэму: «Партыя ў гады імперыялістычнай вайны». Тав. Підарэнка, зусім не ведаючы сваёй аудыторыі, бо праводзіў з ёю першыя заняткі, тым не менш насыціў сваю лекцыю «мудрымі» словамі, не думаючы аб тым, ці разумеюць яго слухачы. Пасля лекцыі, на вялікае здзіўленне прапагандыста, слухачы не маглі адказаць ні на адно пытанне па праслуханай тэме. Многія нічога не зразумелі з гэтай мешаніны цытат і высокапарных выслоўяў. Тав. Підарэнка пераканаўся, што яго двухгадзінная праца прашла дарэмна.

Пачалі гутарыць па раней пройдзеных тэмах: «Партыя ў рэвалюцыю 1905 года», «Партыя ў гады рэакцыі». Але, не гледзячы на наводзячыя пытанні, трудна было дабіцца звязнага адказу. Урэшце аказалася, што слухачы тт. Шлейчонак, Клімовіч, Флеер, Азёрная чытаюць слібізуючы і вельмі дрэнна пішуць. Астатнія рэдка заглядаюць дома ў кнігу, не рыхтуюцца, на занятках амаль усе сядзяць у паліто, бо ў пакоі холадна, ніхто не раскрывае сшыткаў, каб хоць што-небудзь запісаць. Ствараецца ўражанне, што яны выконваюць нейкую цяжкую павіннасць.

Цяпер у рабоце школы адбыўся значны пералом. У вучобу ўцягнута большасць комуністаў—рабочых фабрыкі. Зменены метады выкладання. Заняткі праходзяць ажыўлена.

Як пастаўлена на фабрыцы работа з прапагандыстамі—гэтым асноўным звяном, якое вырашае ў канчатковым выніку якасць партасветы?

Склад прапагандыстаў падабраны нядрэнна. Гурткамі па вывучэнню гісторыі партыі кіруюць комуністы з вышэйшай тэхнічнай адукацыяй: інжынеры тт. Лісоўскі, Мішур—прапагандысцкі стаж 7 год, Лютаў—прапагандысцкі стаж 7 год, Цыперман—член партыі з 1924 г., тэхнік Машкоўскі. Усе яны ўцягнуліся ў прапагандысцкую работу, любяць яе, але гісторыю партыі самі добра не вывучалі, таму яна даецца ім з вялікай цяжкасцю. Партком гэтага не ўлічыў і не арганізаваў ім неабходнай дапамогі. Семінар у горадзе яны не могуць наведваць з-за перагружанасці работай і вялікай адлегласці, а загадчык партыйным габінетам абсалютна нічога не зрабіў для кансультацыі і дапамогі прапагандыстам. Зусім зразумела, што на заняткі яны прыходзілі непадрыхтаванымі і ўсю вучобу звялі да бягучай палітыкі.

Пэўная доля віны ў гэтым ляжыць, вядома, і на культпропе раённага камітэта партыі, які павінен быў такой буйнай партарганізацыі ўдзяліць больш увагі, чым усім астатнім. Аднак палітвучобай на фабрыцы райком заняўся толькі пасля таго, як па гэтаму пытанню было вынесена спецыяльнае рашэнне ЦК КП(б)Б. Толькі пасля гэтага райком зацікавіўся пастаноўкай партасветы на фабрыцы, але і тут ён абмежаваўся тым, што вынес сваё рашэнне. Недарма большасць комуністаў заявіла, што прадстаўнікі райкома—рэдкія госці, а загадчыка культпропам тав. Гутмана яны бачылі ў сябе толькі адзін раз.

Было-б няверна, калі-б мы не адзначылі і станоўчых фактаў палітычнага росту комуністаў і спачуваючых на фабрыцы.

Член партыі тав. **Андрэеў** у мінулым годзе не шкавіўся вучобай, а сёлета добра вучыцца ў комвузе. Кандыдат партыі тав. **Хамельянскі** нядрэнна вучыцца, добра разбіраецца ў складаным лабірынце міжнароднай палітыкі, у пытаннях італа-абісінскай вайны, у правакацыях на япона-манчжурскай граніцы і т. п. Спачуваючы тав. **Бараноўскі**—цыган, не так даўно качаваў у цыганскім табары, зараз з'яўляецца прыкладным рабочым, акуратна наведвае гурток спачуваючых, вывучае статут партыі, працуе над сабой. Значна палітычна выраслі тт. Белякоў, Ніскіна, Рабкіна, Варанчук і інш.

Добра пастаўлена на фабрыцы вучоба завочнікаў, з якімі тры разы ў месяц рэгулярна працуюць два прапагандысты з райкома партыі. Усіх завочнікаў-комуністаў каля 30. Сярод іх ёсць таварышы, якія добра паспяваюць, палітычна растуць.

З нездавальняючага становішча партыйнай прапаганды на шоўкавай фабрыцы выцякае рад практычных задач.

Неабходна часткова пераглядзець склад слухачоў і вызначыць кожнаму гурток ці школу ў адпаведнасці з узроўнем ведаў і развіцця.

Ужо ў бягучым годзе рашуча пакончыць з няграматнасцю і малаграматнасцю комуністаў, стварыўшы для іх спецыяльныя школы з лепшымі выкладчыкамі і прапагандыстамі.

Улічваючы распыленасць партыйнай сеткі, узбуйніць гурткі, дзе навучаецца па 3—5 чалавек, уліўшы ў іх лепшых перадавікоў вытворчасці, памятаючы пры тэтым указанне ЦК КП(б)Б аб уцягненні ў палітвучобу ўсіх стаханаўцаў.

Увесці ў штодзенную практыку абагуленне вопыту работы прапагандыстаў. Часцей ставіць справаздачы слухачоў, прапагандыстаў, парторгаў аб ходзе заняткаў, аб якасці вучобы, аб засваяемасці, унікаючы ва ўсе дэталі, г. зн. пачаць кіраваць партасветай па сутнасці.

Прадумаць пытанне аб арганізацыі семінара прапагандыстаў, высокакваліфікаванай кансультацыі, прымусіць партыйны габінет дапамагаць прапагандыстам у падрыхтоўцы да заняткаў.

Рашуча спыніць практыку найменшага супраціўлення, калі заняткі падмяняюцца бягучай палітыкай і абгаварэннем газетнага матар'ялу, і пакласці ў аснову работы гуртка і школы цвёрдую праграму, увязваючы яе ў працэсе заняткаў з вывучэннем бягучага газетнага матар'ялу і штодзеннай барацьбы нашай партыі ў справе соцыялістычнага будаўніцтва.

Павесці барацьбу з самацёчнымі настроямі, устанавіўшы для кожнай школы і гуртка тэрмін сканчэння іх работы і змагаючыся за высокую якасць партыйнай вучобы.

Ажыццяўленне гэтых практычных мерапрыемстваў узніме ідэйную згуртаванасць партыйнай арганізацыі, яе тэарэтычны ўзровень.

Новае партыйнае кіраўніцтва шоўкавай фабрыкі, як відаць з яго першых крокаў, прынялося за партасвету даволі энергічна. Асабліва адчувалася гэта на нарадзе аб выніках абследвання.

Партыйная арганізацыя шоўкавай фабрыкі павінна ў бліжэйшы час выправіць буйныя недахопы ў пастаноўцы партыйнай прапаганды, узняць ідэйную ўзброенасць комуністаў.

Указанне тав. Андрэева аб неабходнасці «зразумець усю важнасць партыйнай прапаганды і пакончыць з недаацэнкай, з няправільнымі адносінамі да прапагандысцкай работы» павінны моцна засвоіць партыйныя камітэты і ў першую чаргу партыйны камітэт шоўкавай фабрыкі.

А. Шыманоўскі

Сакратар парткома завода „Большэвік“

# Комуністы—у авангардзе стаханаўскага руху

Ініцыятарамі стаханаўскага руху на заводзе «Большэвік» з'явіліся парторг 2-га хромавага цэха тав. Запольскі, тт. Баданэс Ш., Шамэс Б., Хвашчэўскі і рад іншых членаў і кандыдатаў партыі. Цяпер усе комуністы, рабочыя ад станка,—стаханаўцы.

Парторг 1 цэха тав. Мілікоўскі паставіў усесаюзны рэкорд, астрыгшы за змену 315 свіных скур, замест нормы 278. Тав. Штэйнгарт—парторг участка, які сістэматычна выконвае план на 280—300%. Тав. Баданэс, а таксама члены партыі тт. Зархін, Кудышын і рад іншых ідуць у першых радах стаханаўскага руху.

Трэба сказаць, што ў пачатку разгортвання стаханаўскага руху некаторыя комуністы не ўзначалілі яго. Такі факт меў месца ў брыгадзе стругалёў 1 цэха, дзе працуе 8 рабочых, з якіх 5 комуністаў: парторг цэха тав. Мілікоўскі, парторг участка тав. Штэйнгарт і іншыя.

У паасобных комуністаў склалася думка, што на стрыжцы свіных скур цяжкай вагі нельга дабіцца высокай прадукцыйнасці. Гэтыя настроі адмоўна адбіваліся на разгортванні стаханаўскага руху па ўсяму цэху. 23 кастрычніка партком заслухаў даклад парторга цэха тав. Мілікоўскага, які ўрэшце зразумеў сваю памылку і стаў стаханаўцам не толькі сам, але і астатнія члены партгрупы.

Партком практыкуе заслухоўванне індывідуальных справаздач комуністаў аб іх авангарднай ролі на вытворчасці. Такія справаздачы зрабілі тт. Максімава, Берфатэр, Данішэўскі, Гурвіч, Крахмальнікаў, Штэйнгарт, Барыбін, Перавозкін. Майстры-комуністы тт. Аропкер, Каплеровіч, Наточын зрабілі самасправаздачы аб тым, як яны дапамагаюць стаханаўцам. Такая форма работы дала вельмі многае.

Узяць, напрыклад, майстра аддзелачнага аддзялення тав. Ароцкера. Ён цяпер унікае ва ўсе дробязі свайго вытворчага ўчастка, практычна дапамагае стаханаўцам: арганізаваў падноску сыравіны да станкоў, правёў частку машын на павялічаныя абароты, рэагуе на кожную заяву стаханаўца. Майстар зольнага аддзялення 2 цэха кандыдат партыі тав. Наточын таксама штодзенна дапамагае стаханаўцам у рабоце, не дапускае прастояў машын, своечасова выпраўляе недахопы.

Партком праводзіў спецыяльныя партдні па пытанню аб авангарднай ролі комуністаў у стаханаўскім руху. Папярэдне былі праведзены сходы партгруп і арганізавана праверка, як комуністы працуюць самі па-стаханаўску і як дапамагаюць беспартыйным рабочым.

Партарганізацыя вялікую ўвагу ўдзяляе далейшаму разгортванню стаханаўскага руху. Вопыт перадавых перадаецца адстаючым. Так, у

брыгадзе стругалёў 1 цэха тав. Мілікоўскі перадаў свой вопыт беспартыйнаму рабочаму тав. Шамэсу, член партыі тав. Запольскі— тав. Мірскаму і т. д.

Рад брыгад на заводзе—суцэльна стаханаўскія: брыгады стругалёў і рыкоўшчыкаў 1 і 2 хромавых цэхаў, разбіўшчыкі 1 цэха і т. д.

Усе рабочыя гэтых брыгад ахоплены тэхнічнай вучобай. Стаханаўцам аказваецца практычная канкрэтная дапамога ў павышэнні кваліфікацыі. Так, калі стаханаўца тав. Мірскага перавялі на высокакваліфікаваны працэс стружкі, то прымацавалі да яго члена партыі тав. Запольскага і комсамольца тав. Левіна, якія навучылі працаваць на стругальнай машыне. Зараз тав. Мірскі працуе самастойна і выконвае план на 150—160%.

На заводзе працуюць вытворча-тэхнічныя курсы майстроў і брыгадзіраў. Мэта курсаў—узняць кваліфікацыю майстроў і некаторых стаханаўцаў (Левіна, Хвашчэўскага і Запольскага), залічаных у завочны інстытут гаспадарнікаў. 18 стаханаўцаў займаюцца ў стаханаўскім універсітэце.

Розныя формы і метады прымяняюцца і ў палітмасавай рабоце сярод беспартыйных. На занятках тэхнічных гурткоў практыкуюцца лекцыі аб рабоце стаханаўцаў. Стаханаўцы тт. Левін, Фрыд, Хвашчэўскі і Фельдман прачыталі лекцыі аб метадах сваёй работы. Па пытаннях стаханаўскага руху праводзяцца адкрытыя сходы партгруп з удзелам беспартыйных рабочых. Агітатары ў час абедзенных перапынкаў прапрацоўваюць матар'ялы ўсесаюзнай нарады стаханаўцаў, выступленні Стаханава, Бусыгіна і раду іншых таварышоў.

Зараз праводзіцца другі тур тэхвучобы. Усяго на заводзе працуе дзевяць тэхнічных гурткоў. Ёсць спецыяльныя гурткі для выдатнікаў, для здаўшых на добра, для новых рабочых. Праграма пабудавана ў залежнасці ад узроўню ведаў слухачоў. У гуртках выдатнікаў вывучаюць хімію, паглыбляюць вывучэнне тэхналагічных працэсаў вытворчасці. Кіруюць гурткамі інжынеры і тэхнікі завода. Кожны гурток мае сваё памяшканне. Зараз заканчваецца абсталяванне тэхнічнага габінета.

У аснову далейшага разгортвання стаханаўскага руху партарганізацыя палажыла ўказанні студзеньскага пленума ЦК КП(б)Б аб палепшанні якасці прадукцыі. Добраякасная апрацоўка скур ва ўсіх працэсах з'яўляецца цэнтральнай задачай партыйнай арганізацыі, заводакіраўніцтва, інжынерна-тэхнічных работнікаў і ўсіх рабочых нашага завода.

Мерапрыемствы парткома і ўсёй заводскай партарганізацыі па ажыццяўленню рашэнняў снежаньскага і студзеньскага пленумаў ЦК забяспечылі значны пералом у справе ўцягнення рабочых у стаханаўскі рух. Зараз на заводзе налічваецца 230 стаханаўцаў, якія сістэматычна перавыконваюць план ад 150 да 300 і больш процантаў. Колькасць стаханаўцаў расце з кожным днём. Але значная частка рабочых яшчэ не ўцягнута ў стаханаўскі рух. Таму кіраўніцтва разгортваннем стаханаўскага руху на заводзе павінна быць яшчэ больш узмоцнена.

Замацоўваючы дасягненні, укараняючы вопыт лепшых стаханаўцаў і папулярызуючы яго сярод усёй масы рабочых і інжынерна-тэхнічных работнікаў, партарганізацыя завода абавязана змагацца за далейшыя перамогі ў разгортванні стаханаўскага руху, каб дабіцца хутчэйшага ператварэння завода ў суцэльна стаханаўскі.

# РАШЭННІ III ПЛЕНУМА КАМІСІІ ПАРТКАНТРОЛЯ ПРЫ ЦК ВКП(б)

**Зацверджана ЦК ВКП(б)**

## Аб рабоце ўпаўнаважаных КПК

### Пастанова III пленума Камісіі Партыйнага Кантроля пры ЦК ВКП(б)

Пленум КПК адзначае, што створаны пастановай XVII з'езда ВКП(б) інстытут упаўнаважаных КПК, незалежных ад мясцовых партыйных арганізацый, у поўнай меры апраўдаў сваё назначэнне, адыграў станоўчую ролю ў справе палепшання ўсёй пастаноўкі праверкі выкачання пастаноў з'ездаў партыі і ЦК ВКП(б) і тым самым спрыяў павышэнню якасці арганізацыйна-практычнага кіраўніцтва ў рабоце абкомаў, крайкомаў, ЦК нацкомпартый і мясцовых совецкіх і гаспадарчых органаў.

Ажыццяўляючы сістэматычны кантроль за выкананнем дырэктыў партыі, упаўнаважаныя КПК у радзе партарганізацый ускрылі буйнейшыя недахопы работы і своечасова сігналізавалі аб іх ЦК ВКП(б) (аб памылках Саратаўскага крайкома, аб скажэннях у рабоце Новачэркаскага горсовета, аб несвоечасовай выдачы зарплаты настаўнікам і інш.).

Разам з тым мясцовыя партыйныя арганізацыі, апіраючыся на работу ўпаўнаважаных КПК і скарыстоўваючы матар'ялы іх праверкі, значна больш паспяхова і своечасова знішчалі ўскрытыя ўпаўнаважанымі буйнейшыя недахопы ў рабоце партыйных, совецкіх і гаспадарчых органаў, забяспечваючы тым самым ажыццяўленне лепшага і хутчэйшага выканання важнейшых пастаноў ЦК ВКП(б).

Усё гэта, разам узятае, павысіла патрабавальнасць кіраўнікоў партыйных, совецкіх і гаспадарчых арганізацый у абласцях, краях і рэспубліках да сваёй работы і да выканання сваіх уласных рашэнняў.

Аднак, не гледзячы на гэтыя станоўчыя рэзультаты, работа ўпаўнаважаных КПК мае цэлы рад істотных недахопаў, тым больш нецярпімых, што партыя ўвесь час павышае патрабавальнасць да сістэматычнага кантролю выканання.

Недахопам работы ўпаўнаважаных з'яўляецца тое, што яны не здолелі яшчэ аддзяліць у сваёй рабоце галоўнае ад другараднага, не канцэнтруюць сваёй увагі на праверцы рашаючых пытанняў і часта раскідваюцца па дробязях. Замест таго, каб браць пад сістэматычны кантроль кожную важнейшую пастанову ЦК ВКП(б) неадкладна пасля яе з'яўлення, упаўнаважаныя складаюць свае ўласныя (часта адцягненыя) планы, у якія ўключаюць пытанні, не маючыя

актуальнага значэння, і бяруць на сябе разгляд такіх спраў, якія з поспехам могуць быць вырашаны мясцовымі арганізацыямі.

Недахопам работы ўпаўнаважаных КПК пленум лічыць тое, што яны часта збіваюцца з праверкі выканання на інспектаванне. У выніку гэтага некаторыя ўпаўнаважаныя выносяць доўгія універсальныя пастановы, якія мала каго да чаго-небудзь абавязваюць і якія самі па сабе патрабуюць арганізацыі спецыяльнай праверкі выканання. Такія агульныя пастановы, паколькі яны выходзяць не з праверкі пэўнага рашэння ЦК і СНК СССР і не маюць на ўвазе канкрэтную арганізацыю і канкрэтных асоб, якія адказваюць за яго выканание, здольны толькі ўзаконіць адцяжку выканання і фактычна даюць магчымасць укрывацца за пастановай упаўнаважанага якраз тым, хто злосна сабатуе дырэктывы ЦК ВКП(б).

Недахопам работы ўпаўнаважаных КПК пленум лічыць тое, што яны амаль не займаліся праверкай выканання рашэнняў ЦК ВКП(б) па пытаннях партыйнага будаўніцтва. Некаторыя ўпаўнаважаныя няправільна разумеюць свае абавязкі, лічачы, што кантроль за выкананнем рашэнняў ЦК па пытаннях партыйнага будаўніцтва павінен ажыццяўляцца толькі адпаведнымі аддзеламі ЦК ВКП(б).

Недахопам работы ўпаўнаважаных КПК на месцах пленум лічыць таксама ўсё яшчэ слабую сувязь з кантрольнай работай профсаюзаў, советаў, друку, комсамола і яго «лёгкай кавалерыі». Некаторыя ўпаўнаважаныя КПК не зразумелі, што, апіраючыся ў сваёй кантрольнай рабоце на гэтыя арганізацыі, яны маглі-б дасягнуць больш значных рэзультатаў і не загружалі-б свой апарат радам дробных пытанняў.

У мэтах хутчэйшай ліквідацыі ўказаных недахопаў у рабоце ўпаўнаважаных КПК і палепшання ўсёй справы пастаноўкі кантролю выканання рашэнняў ЦК ВКП(б) і СНК СССР, пленум КПК пастанаўляе:

1. Лічачы, што інстытут упаўнаважаных КПК цалкам сябе апраўдаў і дапамагае палепшанню пастаноўкі справы праверкі выканання пастаноў з'ездаў партыі і ЦК ВКП(б), павялічыць колькасць упаўнаважаных з тым, каб ахапіць імі ўсе асноўныя краі, вобласці і рэспублікі.

Назначыць дадаткова ўпаўнаважаных КПК у першую чаргу ў Іванаўскую, Чэлябінскую і Харкаўскую вобласці, у Далёка-Ўсходні, Усходне-Сібірскі, Краснаярскі, Паўночны і Куйбышэўскі краі, у БССР і ў Татарскую і Чувашскую АССР.

2. Пленум КПК абавязвае бюро КПК дабіцца ў кіраўніцтве работай упаўнаважаных на месцах і груп КПК у цэнтральным апараце такога становішча, каб партыйны кантроль ведаў і ў любы момант мог паведаміць у ЦК ВКП(б) аб тым, як выконваюцца яго дырэктывы наркаматамі, цэнтральнымі ўстановамі і мясцовымі арганізацыямі.

У адпаведнасці з гэтым пленум абавязвае бюро КПК правесці наступныя мерапрыемствы:

а) Усю работу па праверцы выканання пастаноў ЦК ВКП(б) паставіць такім чынам, каб кожная важнейшая пастанова бралася пад сістэматычны кантроль неадкладна пасля таго, як яна прынята. Неабходна выключыць з практыкі работы груп КПК і ўпаўнаважаных на месцах маючыя месца факты, калі выкананне той ці іншай пастановы ЦК і СНК СССР правяраецца пасля таго, як тэрміны выканання гэтай пастановы даўно скончыліся, а само рашэнне засталося нявыкананым.

Такая практыка падрывае значэнне кантролю, робіць яго нядзейсным і зводзіць усю праверку толькі да налажэння спагнанняў у адносінах асоб, не выканаўшых пастанову, у той час як асноўная мэта кантролю—забяспечыць своечасовае выкананне пастановы—адступае на другі план.

б) Па кожнай пастанове ЦК ВКП(б) і СНК СССР, якая патрабуе арганізацыі спецыяльнай праверкі выканання, бюро КПК зацвярджае парадак і план праверкі яе выканання групамі КПК і ўпаўнаважанымі на месцах з пералічэннем асоб, персанальна адказных за праверку выканання данай пастановы.

Забараніць групам КПК даваць самастойныя заданні ўпаўнаважаных на месцах.

Для ўнікнення паралелізму ў рабоце КПК і КСК пры праверцы сумесных пастаноў ЦК і СНК СССР, намячаемы бюро Камісіі Партыйнага Кантроля парадак праверкі павінен быць узгоднен з Камісіяй Савецкага Кантроля з тым, каб было дакладна ўстаноўлена, якая пастанова правяраецца толькі партыйным кантролем, якая сумесна з КСК і якая—раздзельна.

в) Групы КПК і ўпаўнаважаныя на месцах, атрымаўшы заданне аб праверцы пастановы ЦК і СНК СССР, павінны ў кожным паасобным выпадку дакладна ўстанавіць, хто ў данай арганізацыі ці ўстанове, да якой адносіцца пастанова ЦК і СНК СССР, непасрэдна адказвае за яе выкананне, і сістэматычна кантраляваць, як гэтыя асобы выконваюць рашэнне ЦК і СНК СССР.

Ва ўсёй сваёй рабоце па кантролю за выкананнем рашэнняў ЦК ВКП(б) і СНК СССР групы КПК і ўпаўнаважаныя павінны дабіцца такога становішча, каб выхаваць у работніках пачуццё дзяржаўнай адказнасці, дысцыпліны і акуратнасці ў выкананні даручанага ім задання, звярачаючыся не толькі да карных мер, але і да мер заахвочвання.

г) Групы КПК і ўпаўнаважаныя на месцах павінны сістэматычна (1—2 разы ў месяц) прадстаўляць у бюро КПК зводкі аб ходзе выканання пастаноў ЦК ВКП(б) і СНК СССР, якія знаходзяцца ў іх на кантролі, і аб мерах, прынятых групай ці ўпаўнаважаным для забяспечання своечасовай рэалізацыі данай пастановы.

д) Бюро КПК перыядычна заслухоўвае справаздачы груп КПК і ўпаўнаважаных аб тым, як выконваецца тая ці іншая пастанова ЦК і СНК і рэгулярна інфармуе ЦК ВКП(б) аб ходзе выканання гэтых пастаноў.

3. Паставіць перад упаўнаважанымі КПК як адну з важнейшых задач сістэматычную, а не ад выпадку да выпадку, праверку выканання дырэктыў ЦК ВКП(б) па пытаннях партыйнай работы. На бліжэйшы час упаўнаважаныя КПК павінны сканцэнтраваць сваю ўвагу ў гэтай галіне на выкананні рашэнняў снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) аб стаханаўскім руху, аб выніках праверкі партыйных дакументаў і дырэктыў ЦК ВКП(б) аб прапагандысцкай рабоце і аб выхаванні і вырошчванні кадраў.

Абавязаць упаўнаважаных рэгулярна інфармаваць ЦК ВКП(б) і бюро КПК аб мерапрыемствах абкомаў, крайкомаў і ЦК нацкомпартый па выкананню гэтых пастаноў.

4. Прызнаць няправільным, калі некаторыя ўпаўнаважаныя КПК і ў асаблівасці іх апарат не кантактавалі сваёй работы з мясцовымі партыйнымі арганізацыямі, не інфармавалі сакратароў абкомаў і крайкомаў аб сваіх мерапрыемствах і рашэннях, у сувязі з чым абкомы,

крайкомы і ЦК нацкомпартый часам даведваліся аб пастановах, прынятых упаўнаважанымі КПК, толькі пасля іх апублікавання. Гэта практыка, якая нічога агульнага не мае з правільным разуменнем незалежнасці ўпаўнаважаных ад мясцовых партыйных органаў, прыводзіць да непатрэбных і шкодных трэнняў упаўнаважаных з кіраўнікамі мясцовых партарганізацый і ні ў якой ступені не спрыяе палепшанню справы праверкі выканання.

Пленум КПК абавязвае ўсіх упаўнаважаных рэгулярна інфармаваць першых сакратароў абкомаў, крайкомаў і ЦК нацкомпартый аб планах сваёй работы і своечасова папярэджваць аб вынасімых імі пастановах.

Упаўнаважаныя ва ўсёй сваёй штодзеннай рабоце павінны быць самым цесным чынам звязаны з крайкомам, абкомам і ЦК нацкомпартыі з тым, каб уздзейнічаць на кіраўнікоў мясцовых партыйных, совецкіх і гаспадарчых арганізацый не толькі ўласнымі пастановамі, але і пастановамі партыйных камітэтаў. Гэта мера ні ў якой ступені не абмяжоўвае самастойнасці і незалежнасці ўпаўнаважанага, тым больш, што ён у любы час і любое пытанне можа паставіць на вырашэнне ў бюро КПК ці ЦК ВКП(б) у выпадку нязгоды з яго прапановамі абкома, крайкома ці ЦК нацкомпартыі.

Упаўнаважаныя Камісіі Партыйнага Кантроля павінны пры гэтым выходзіць з таго, што яны нясуць адказнасць перад ЦК ВКП(б) і перад КПК за своечасовасць праверкі выканання і за тое, каб іх кантрольная работа сапраўды забяспечвала выкананне рашэнняў ЦК ВКП(б).

5. У сувязі з узрослымі задачамі праверкі выканання рашэнняў ЦК і СНК СССР пленум абавязвае бюро КПК і ўпаўнаважаных прыняць неабходныя меры да ўмацавання апарату ўпаўнаважаных кваліфікаванымі, ведаючымі справу партыйнымі работнікамі і спецыялістамі—комуністамі і ў месячны тэрмін пераглядзець штаты ўпаўнаважаных для кожнай вобласці, края і рэспублікі паасобку.

Для ўліку, вывучэння і падбору кадраў работнікаў апаратаў упаўнаважаных і цэнтральнага апарату КПК стварыць пры бюро КПК групу па падбору кадраў, узначальваемую адным з членаў бюро КПК.

Зацверджана ЦК ВКП(б)

# Аб рабоце парткалегіі КПК і парадку налажэння партыйных спагнанняў на членаў і кандыдатаў ВКП(б)

## Пастанова III пленума Камісіі Партыйнага Кантроля пры ЦК ВКП(б)

Снежаньскі пленум ЦК ВКП(б) 1935 года, у якасці галоўнага ўрока, які выцякае з вопыту праверкі партыйных дакументаў, адзначыў, што члены партыі і партыйныя арганізацыі ўсё яшчэ дрэнна ўсвоілі неаднаразовыя ўказанні ЦК ВКП(б) аб неабходнасці ўсямернага павышэння большэвіцкай пільнасці і партыйнай дысцыпліны сярод комуністаў.

Праверка партыйных дакументаў паказала, што многія партыйныя арганізацыі не выхоўвалі комуністаў у духу найстражэйшага захавання статута партыі і не вялі сур'ёзнай і сістэматычнай барацьбы з парушэннямі партыйнай дысцыпліны. Асабліва наглядным сведчаннем гэтага з'яўляецца ўкараніўшаяся ў некаторых партыйных арганізацыях зусім няправільная практыка налажэння партыйных спагнанняў на членаў і кандыдатаў ВКП(б), якая ператварае спагнанні са сродку ўмацавання партыйнай і дзяржаўнай дысцыпліны ў фармальна-бюракратычную меру. Дрэнна выкрываючы прымазаўшыхся, разлажыўшыхся і варожых партыі людзей, пакідаючы часта беспакаранай іх злачынную дзейнасць, у той-жа час многія партыйныя арганізацыі практыкавалі агульнае масавае налажэнне спагнанняў на членаў і кандыдатаў партыі па ўсякаму малазначнаму поваду, які часта нічога агульнага не мае з парушэннем партыйнай дысцыпліны. Такая практыка не магла не весці да прыніжэння ролі партыйных спагнанняў, як сродку выхавання членаў партыі ў духу строгай партыйнай і дзяржаўнай дысцыпліны, і стварала ў членаў партыі абыякавыя і безадказныя адносіны да гэтых спагнанняў.

Толькі неразуменнем мэты і значэння партыйных спагнанняў, як сродку выхавання членаў партыі ў духу партыйнай і дзяржаўнай дысцыпліны, можна растлумачыць той факт, што многія пярвічныя партыйныя арганізацыі перасталі даскнала разбіраць на агульных

сходах праступкі членаў партыі, а звялі сваю задачу толькі да абмеркавання на вузкім пасяджэнні партыйнага камітэта меры спагнання, накладаемай на правіні́ўшагася члена ці кандыдата партыі. Такая бюракратычная практыка на справе прыводзіць да таго, што партыйныя арганізацыі не выхоўваюцца на дасканалым і ўсебаковым разборы памылак паасобных яе членаў, пазбаўлены па сутнасці магчымасці ўздзейнічаць на членаў партыі аўтарытэтам усяго партыйнага калектыва і не адчуваюць сваёй адказнасці за памылкі і дзеянні кожнага члена і кандыдата партыі паасобку.

Толькі неразуменнем мэты і значэння партыйных спагнанняў, як сродку ўмацавання партыйнай і дзяржаўнай дысцыпліны, можна растлумачыць шматлікія факты завочных спагнанняў, якія выносяцца без выкліку членаў партыі пры разборы іх справы і без дасканалага расследвання іх праступкаў.

Такая практыка на справе прыводзіць да прыніжэння ролі партыйных спагнанняў, плодзіць шматлікія, часамі заведама няправільныя спагнанні, накладаемыя ў разліку на тое, што вышэйстаячыя партыйныя інстанцыі папраўляць і змякчаць іх, і, нарэшце, сведчыць аб адсутнасці кантролю за далейшымі паводзінамі атрымаўшых партспагнанне комуністаў і абыякавых адносінах да таго, выправіліся яны ці не.

Толькі неразуменнем мэты і значэння партыйных спагнанняў, як сродку ўмацавання партыйнай і дзяржаўнай дысцыпліны, можна растлумачыць шматлікія факты такіх скажэнняў у практыцы наладжэння партспагнанняў, калі сціраецца ўсякая грань паміж партыйнымі спагнаннямі і спагнаннямі, накладаемымі на комуністаў совецкімі органамі па існуючых законах, выкананне якіх абавязкова як для членаў партыі, так і для беспартыйных. Такая практыка на справе прыводзіць ва многіх выпадках да таго, што ўсякі службовы праступак члена партыі папярэдне абмяркоўваецца парткомам, які вырашае пытанне і аб партыйным і аб адміністрацыйным спагнанні, а кіраўнік установы ці прадпрыемства толькі механічна афармляе загадам устаноўленую парткомам меру адміністрацыйнага спагнання. У другіх выпадках усякае спагнанне, наложанае на члена партыі па лініі дзяржаўных устаноў, цягне за сабой механічнае вынясенне і партыйнага спагнання. І, нарэшце, партыйным спагнаннем нярэдка падмяняецца адказнасць члена партыі перад совецкім законам за зроблены ім праступак.

Пленум КПК лічыць, што ўся гэта небольшэвіцкая практыка наладжэння партыйных спагнанняў на членаў і кандыдатаў партыі ў значнай ступені з'яўляецца таксама і рэзультатам нездавальняючай работы парткалегій КПК. Парткалегіі КПК замест таго, каб весці барацьбу са скажэннямі ў справе наладжэння партыйных спагнанняў, замест таго, каб глыбока і ўдумліва разбіраць кожную апеляцыю члена і кандыдата партыі і на прыкладзе такога разбору выпраўляць памылкі партыйных арганізацый, самі сваёй нездавальняючай работай садзейнічалі распаўсюджанню гэтай практыкі. Парткалегіі КПК прымалі к разгляду велізарную колькасць спраў незалежна ад характару праступка члена ці кандыдата партыі і часта, не разбіраючыся ў сутнасці гэтых спраў, разумелі свае задачы толькі ў тым вузкім сэнсе, што трэба або аднавіць у партыі, або пакараць, або змякчыць пакаранне члену ВКП(б).

Такая практыка работы парткалегій КПК на справе прыводзіла да таго, што яны, загружаныя мноствам апеляцыйных і ўсякіх іншых спраў па праступках членаў партыі, не маглі з усёй дакладнасцю і неабходнай увагай разгледзець пададзеныя членамі партыі апеляцыі. Парткалегіі нярэдка фармальна і павярхоўна падыходзілі да разбору апеляцый, без падрабязнага вывучэння сутнасці справы і без выкліку прадстаўніка партыйнай арганізацыі, налажыўшай спагнанне, слепа давяраючы часамі падложным даведкам і дакументам апелюючага.

У рэзультаце гэтага парткалегіі ў радзе выпадкаў адмянялі правільныя рашэнні партарганізацый, аднаўляючы ў партыі чуждых і варожых ВКП(б) людзей, а пры адмене няправільных рашэнняў— не ставілі пытання перад адпаведнымі партыйнымі органамі аб выпраўленні дапушчаных партыйнымі арганізацыямі памылак.

Такая практыка работы парткалегій КПК садзейнічала таму, што партыйныя органы ва многіх выпадках не лічылі сваім абавязкам разглядаць кожны праступак члена партыі, механічна перадавалі ўсе гэтыя справы на разгляд парткалегій, не займаліся выпраўленнем памылак, дапушчаных пры налажэнні партыйных спагнанняў ніжэйстаячымі партыйнымі арганізацыямі, і зусім ухіляліся ад разбору заяў членаў партыі аб пераглядзе наложаных на іх спагнанняў. Парткалегіі замест таго, каб весці барацьбу з такога роду няправільным парадкам разгляду спраў аб партспагнаннях, прымірыліся з ім, лічачы яго нармальным. Яны не ставілі перад абкомамі, крайкомамі і ЦК нацкомпартый пытання аб змене гэтага парушаючага статут ВКП(б) парадку і не дабіваліся таго, каб абкомы, крайкомы і ЦК нацкомпартый самі выпраўлялі памылкі гарадскіх, раённых і пярвічных партыйных арганізацый у справе налажэння партспагнанняў на членаў і кандыдатаў ВКП(б).

Такая практыка работы парткалегій КПК ва многіх выпадках прыводзіла да зусім ненармальных з'яў, калі кіраўнікі совецкіх, гаспадарчых і іншых арганізацый замест таго, каб весці барацьбу з парушэннямі дзяржаўнай дысцыпліны работнікамі іх апаратаў, выкарыстоўваючы прадастаўленае ім законам права налажэння спагнанняў у адміністрацыйным парадку, якому падначалены аднолькава як члены партыі, так і беспартыйныя, знімалі з сябе гэту адказнасць шляхам перадачы спраў членаў і кандыдатаў ВКП(б) на разгляд парткалегій. Парткалегіі замест таго, каб весці рашучую барацьбу з такога роду ненармальнымі з'явамі, прыкрывалі такой практыкай безадказнасць кіраўнікоў гэтых устаноў і па сутнасці бралі на сябе адказнасць за працуючых у іх комуністаў.

Пленум КПК лічыць асабліва нецярпімымі маючыя месца выпадкі, калі члена партыі заведама няправільна выключаюць з ВКП(б), аддаюць яго пад суд, пазбаўляюць права работы, а парткалегія, разабраўшы гэту справу і прызнаўшы, што з членам партыі паступілі няправільна, пакідае без пакарання тых партыйных чыноўнікаў, якія свядома ці несвядома дапусцілі гэта сваявольства ў адносінах члена ВКП(б).

Лічачы ўсе гэтыя недахопы ў справе налажэння партыйных спагнанняў на членаў і кандыдатаў партыі і ў рабоце парткалегій зусім нецярпімымі і патрабуючымі неадкладнага і рашучага выпраўлення, з тым, каб партыйныя спагнанні на справе ператварыліся ў сродак выхавання большэвіцкай дысцыпліны сярод членаў ВКП(б)— пленум КПК пастанаўляе:

## Аб парадку налажэння партыйных спагнанняў на членаў і кандыдатаў ВКП(б)

1. Прызнаць няправільнай існуючую практыку, калі пярвічныя партыйныя арганізацыі падражаюць вышэйстаячым партыйным органам і разглядаюць усе праступкі членаў партыі не на агульных партыйных сходах, а на пасяджэннях партыйных камітэтаў. Пярвічныя партыйныя арганізацыі абавязаны абмяркоўваць праступкі членаў партыі на агульных сходах з тым, каб у рэзультаце абмеркавання пытання выхоўваўся не толькі зрабіўшы праступак член партыі і кандыдат, але і сама партыйная арганізацыя.

Пярвічныя партыйныя арганізацыі сваім уважлівым і ўсебаковым разборам праступкаў членаў партыі павінны дабівацца такога становішча, каб ва ўсёй партыйнай арганізацыі выхоўваць пачуццё адказнасці за паводзіны кожнага члена і кандыдата партыі данай арганізацыі і зжыць такое няправільнае ўяўленне, што пытанне аб партыйных і службовых паводзінах члена партыі з'яўляецца толькі справай парткома, а не ўсяго партыйнага калектыва.

Побач з бязлітаснай і рашучай барацьбой з усякага роду варожымі і чуждымі элементамі, ашуканчым шляхам пранікшымі ў рады ВКП(б), партыйныя арганізацыі ў адносінах членаў партыі, зрабіўшых свае праступкі выпадкова і без злога ўмыслу, павінны шырэй практыкаваць такія меры партыйнага выхавання і ўмацавання дысцыпліны сярод членаў партыі, як цярплівае таварыскае растлумачэнне зробленай членам партыі памылкі, папярэджанне яго, вынясенне яму грамадскага ганьбавання і т. п.

2. Партыйныя арганізацыі і парткалегіі КПК ва ўсёй сваёй рабоце па ўмацаванню партыйнай і дзяржаўнай дысцыпліны абавязаны кіравацца тым, што члены партыі, роўна як і беспартыйныя, адказны перад совецкім законам за зробленыя імі злачынствы перад дзяржавай. Партыйнае спагнанне і ў асаблівасці выключэнне з партыі для большэвіка з'яўляецца самым цяжкім відам пакарання, аднак, гэта спагнанне ні ў якой меры не можа замяніць пакарання, якое павінна быць наложана ў судовым ці адміністрацыйным парадку. У адпаведнасці з гэтым партыйныя арганізацыі і парткалегіі КПК павінны строга размяжоўваць партыйныя спагнанні, накладаемыя на комуністаў за парушэнне статута партыі, партыйнай дысцыпліны і партыйнай этыкі, ад спагнанняў, якія накладаюцца на комуністаў за тыя ці іншыя парушэнні совецкага закона. Партарганізацыі і парткалегіі КПК у тых выпадках, калі член партыі аддаецца пад суд, абавязаны па рэзультатах следства і суда разгледзець яго партыйнае становішча.

Спыніць практыку, калі партыйныя камітэты механічна накладаюць партыйныя спагнанні за службовыя праступкі на члена партыі, атрымаўшага спагнанне ў адміністрацыйным парадку. Партыйныя арганізацыі абмяркоўваюць пытанне аб службовых паводзінах і праступках членаў ВКП(б) у тых выпадках, калі яны лічаць недастаткова абмежавацца адміністрацыйным спагнаннем і знаходзяць неабходным, акрамя таго, пакараць парушыўшага дзяржаўную дысцыпліну члена партыі і ў партыйным парадку.

3. Забараніць няправільную і шкодную практыку, калі член ці кандыдат партыі, механічна выбыўшы, ці выключаны з ВКП(б) за праступкі, якія не ганьбяць яго як беспартыйнага работніка совецкай дзяржавы, неадкладна знімаецца з выконваемай ім работы.

Партыйныя арганізацыі і парткалегіі могуць знімаць выключанага члена партыі з работы ў тым выпадку, калі ён займае які-небудзь адказны совецкі, гаспадарчы ці іншы пост, кіраўніцтва якім ён не можа забяспечыць у сувязі з выключэннем яго з партыі. Гэта, аднак, не пазбаўляе яго права атрымаць іншую работу ў гэтай-жа ўстанове, прадпрыемстве, або ў іншым, як беспартыйнаму.

4. Забараніць пярвічным партыйным арганізацыям, райкомам, гаркомам, абкомам, крайкомам і парткалегіям КПК выносіць партыйныя спагнанні без выкліку на пасяджэнне члена партыі, якому прад'яўлена абвінавачванне, і без дасканалага разбору яго справы. Пры разборы справы ў вышэйстаячых партыйных органах побач з членам партыі, на якога наложана спагнанне, павінен быць выклікан і прадстаўнік налажыўшай гэта спагнанне партыйнай арганізацыі з тым, каб абмеркаванне праступка члена партыі не было аднабаковым.

5. Прапанаваць мясцовым партыйным арганізацыям і парткалегіям КПК ліквідаваць існуючую практыку, калі ўсе пакаранні за праступкі члена партыі абавязкова заносяцца ва ўліковую картку ці асабовую справу. Устанавіць, што партыйныя спагнанні, накладаемыя на членаў партыі пярвічнымі партарганізацыямі, могуць быць занесены ва ўліковую картку толькі ў тым выпадку, калі яны зацверджаны райкомам партыі і апошнім вынесена спецыяльнае рашэнне аб тым, што данае партспагнанне падлягае занясенню ва ўліковую картку ці асабовую справу.

Безумоўна забараніць занясенне ва ўліковую картку ці асабовую справу ўсіх пакаранняў, наложаных на члена ці кандыдата ВКП(б) у адміністрацыйным парадку, акрамя пакаранняў па суду. Адміністрацыйныя спагнанні, накладаемыя на члена ці кандыдата партыі, заносяцца толькі ў асабовыя справы ці працоўныя спісы, якія знаходзяцца ў ведамствах.

6. Прызнаць няправільнай існуючую практыку, калі партыйныя арганізацыі пасля вынясення пастановы аб пакаранні таго ці іншага комуніста за зроблены ім праступак лічаць свой абавязак на гэтым закончаным і ў далейшым не цікавяцца паводзінамі гэтага члена партыі.

Прапанаваць усім партыйным камітэтам устанавіць такі парадак, згодна якому яны незалежна ад таго, узбуджае ці не член партыі па сканчэнні пэўнага тэрміну пытання аб зняцці з яго спагнання, варочаюцца зноў да абмеркавання яго паводзін з тым, каб у рэзультаце гэтага абмеркавання ўстанавіць, ці выправіўся гэты член партыі, і ў гэтым выпадку вырашыць пытанне аб зняцці з яго партспагнання.

7. У тых выпадках, калі член партыі ці кандыдат, адносна якога стаіць пытанне аб выключэнні яго з радоў ВКП(б), усімі сваімі паводзінамі даказаў, што яго праступкі з'яўляюцца рэзультатам несвядомага парушэння статута, рэзультатам недастатковага ўсваення асноў большэвіцкай арганізаванасці і дысцыпліны і вынікам таго, што партыйная арганізацыя яшчэ недастаткова выхавала яго як большэвіка,—дазволіць партыйным арганізацыям прымяняць у паасобных выпадках замест выключэння з партыі, перавод у кандыдаты і спачуваючыя тэрмінам на поўгода—1 год.

Рашэнне пярвічнай партыйнай арганізацыі, райкома ці гаркома аб пераводзе ў кандыдаты і спачуваючыя абавязкова зацвярджаецца абкомам, крайкомам ці ЦК нацкомпартыі.

Гэту-ж меру партыйнага спагнання могуць прымяняць і парткалегіі пры разборы апеляцый.

## Аб рабоце парткалегій КПК

8. Пленум КПК лічыць, што важнейшай задачай парткалегій КПК з'яўляецца найстражэйшы нагляд за правільным прымяненнем статута партыі ў галіне партыйных спагнанняў, які, як паказала праверка партыйных дакументаў, у радзе выпадкаў грубейшым чынам парушаўся практыкай работы не толькі партыйных арганізацый, але і парткалегій.

Парткалегіі КПК павінны да канца ўсвоіць усе ўрокі, якія выцякаюць з рашэння пленума ЦК ВКП(б) па выніках праверкі партдакументаў, і ў адпаведнасці з гэтым рашучым чынам перабудаваць сваю работу. У аснову ўсёй сваёй работы парткалегіі КПК павінны палажыць разбор апеляцый, якія паступаюць ад членаў і кандыдатаў партыі як выключаных з радоў ВКП(б), так і апелюючых на тыя ці іншыя партыйныя спагнанні.

У рабоце па разгляду апеляцый парткалегіі павінны не толькі ўважліва разбірацца ў прычынах праступку, зробленага членам партыі, і ўстанаўляць факты, звязаныя з гэтым праступкам, але і падрабязна правяраць самога члена партыі з тым, каб забяспечыць індывідуальны падыход да кожнага комуніста. Сурова караючы і выганяючы з радоў ВКП(б) чуждых партыі, перараджэнцаў, разлажыўшыхся і людзей, якія не паддаюцца выпраўленню, парткалегіі адначасова павінны чула падыходзіць да членаў і кандыдатаў партыі, якія здольны безумоўна выправіцца, сумленна і да канца ўсвядоміць зробленыя імі праступкі і абавязваюцца самаадданай работай і партыйнымі паводзінамі выкупіць сваю віну перад партыяй.

Парткалегіі КПК павінны зразумець, што апеляцыйная работа партыйных калегій з'яўляецца важнейшай работай і што, правільна праводзячы яе, парткалегіі могуць выпраўляць не толькі канкрэтныя памылкі і праступкі паасобных членаў партыі, але і памылковую, парушаючую статут нашай партыі, практыку паасобных партыйных арганізацый і бюракратычныя скажэнні ў рабоце партыйнага апарата.

Ва ўсіх выпадках, калі парткалегіі ўстановяць, што пакаранне члена партыі ці выключэнне яго з радоў ВКП(б) вынесена адпаведнай партыйнай арганізацыяй няправільна, яны павінны, не абмяжоўваючыся толькі адменай гэтага рашэння, дасканалым чынам высветліць, чаму іменна вынесена такое няправільнае рашэнне, і ў тых выпадках, калі будуць выяўлены наўмысныя, неаб'ектыўныя ці павярхоўныя адносіны да справы, пакараць вінаватых, давёўшы аб гэтым да ведама як той арганізацыі, якая вынесла гэта рашэнне, так і вышэйстаячых партыйных органаў.

9. Абмежаванне задач парткалегій разборам апеляцый ні ў якой меры не выключае разбору паасобных заяў, якія паступаюць ад членаў і кандыдатаў ВКП(б), а таксама і ад беспартыйных, на тыя ці іншыя праступкі члена партыі ці няправільныя дзеянні паасобных партыйных арганізацый. Аднак, парткалегіі КПК павінны выходзіць з таго, што не кожная заява павінна разглядацца абавязкова імі. Ва многіх выпадках парткалегіі абавязаны толькі забяспечыць своечасовы і правільны разбор паступіўшых заяў адпаведнай партыйнай арганізацыяй.

Забараніць парткалегіям КПК займацца ўсякай іншай работай, якая не мае прамых адносін да асноўнай іх работы па разбору апеляцый і паступаючых да іх заяў аб партыйных праступках паасобных членаў партыі.

10. Парткалегіі павінны ўсю сваю работу цяснейшым чынам увязаць з адпаведнымі абкомамі, крайкомамі і ЦК нацкомпартый.

Парткалегіі павінны сістэматычна абагульваць вопыт, звязаны з разборам апеляцый, і паміма выпраўлення паасобных памылак, дапушчаных партарганізацыямі, ставіць перад адпаведнымі абкомамі, крайкомамі і ЦК нацкомпартый пытанне аб мерах, прадухіляючых гэтыя памылкі ў далейшым.

Парткалегіі павінны ставіць на разгляд абкомаў, крайкомаў і ЦК нацкомпартый паасобныя прыватныя праступкі членаў партыі, якія з'яўляюцца характэрнымі і павучальнымі для работы той ці іншай партыйнай арганізацыі, ці характарызуюць сабою становішча кіраўніцтва тым ці іншым участкам партыйнага, савецкага ці гаспадарчага будаўніцтва.

Усе свае рашэнні аб выключэнні і аднаўленні ў радах ВКП(б) і аб пераводзе ў кандыдаты і спачуваючыя, а таксама рашэнні аб зняцці комуністаў з кіруючай работы, парткалегіі КПК праводзяць у жыццё па ўзгадненню з абкомам, крайкомам і ЦК нацкомпартыі. У выпадку разгалосся паміж парткалегіяй і адпаведным парторганам пытанне пераносіцца на разгляд у КПК.

11. Апеляцыі, якія паступаюць ад членаў і кандыдатаў партыі, павінны разглядацца на парткалегіі абавязкова ў прысутнасці апелюючага і ў прысутнасці прадстаўніка той арганізацыі, якая вынесла пастанову аб выключэнні ці пакаранні таго ці іншага члена партыі. У выпадку нязгоды партыйнай арганізацыі з рашэннем парткалегіі яна мае права абскардзіць яго ў КПК.

Парткалегіі КПК павінны забяспечыць, каб кожная апеляцыя, пададзеная членам і кандыдатам партыі, была разабрана не пазней як у 15-дзенны тэрмін з дня яе паступлення ў парткалегію. У тым выпадку, калі ў гэты тэрмін апеляцыя не будзе разабрана, член партыі ці кандыдат маюць права скардзіцца ў КПК.

12. У мэтах больш усебаковага разбору праступкаў членаў партыі і ўзмацнення яго выхаваўчага значэння парткалегіі КПК павінны шырэй, чым зараз, практыкаваць, па ўзгадненню з адпаведным абкомам, крайкомам, ЦК нацкомпартыі разгляд важнейшых спраў непасрэдна ў той арганізацыі, у якой знаходзіцца зрабіўшы праступак член ВКП(б), з тым каб парткалегія далажыла на агульным сходзе партыйнай арганізацыі ўсе акалічнасці разбору праступку члена партыі, ускрыла недахопы ў рабоце самой арганізацыі і, такім чынам, дапамагла вынесці поўнасцю ўсе ўрокі, якія выцякаюць з разбору гэтай справы.

Парткалегіі павінны шырэй, чым зараз, скарыстаць друк, сістэматычна асвятляючы ў газетах паасобныя, найбольш характэрныя і павучальныя для партыйных арганізацый справы.

13. У адпаведнасці з задачамі, якія стаяць перад парткалегіямі КПК на месцах, абавязаць бюро КПК рашучым чынам змяніць практыку кіраўніцтва мясцовымі парткалегіямі з боку цэнтральнай парткалегіі ў тым напрамку, каб яна не абмяжоўвалася толькі разборам паступіўшых апеляцый, а ажыццяўляла штодзеннае, аперацыйнае і сістэматычнае кіраўніцтва работай парткалегій на месцах. Работа па кіраўніцтву парткалегіямі павінна займаць рашаючае месца ў дзейнасці цэнтральнай парткалегіі. Абавязаць бюро КПК шырэй практыкаваць даклады паасобных парткалегій на бюро КПК аб іх дзейнасці і аб паасобных ускрытых імі справах па парушэнню статута ВКП(б) і партдысцыпліны.

14. Ліквідаваць парткалегіі чыгуначнага і воднага транспарту, і разгляд спраў, звязаных з апеляцыямі членаў партыі, якія працуюць на чыгуначным і водным транспарце, ускласці на тэрытарыяльныя парткалегіі тых абласцей, краёў і рэспублік, на ўліку партарганізацый якіх яны знаходзяцца.

15. Пленум КПК лічыць неабходным прыняць меры па ўзмацненню парткалегій на месцах вопытнымі партыйнымі работнікамі. Абавязаць бюро КПК у двухмесячны тэрмін сумесна з адпаведнымі краявымі, абласнымі і рэспубліканскімі партарганізацыямі прагледзець склад работнікаў парткалегій з тым, каб умацаваць іх дастатковай колькасцю партыйных сіл.

# ПАСТАНОВЫ ЦК КП(б)Б

## Аб веснавой сяўбе

*Пастанова Совета народных камісараў БССР і ЦК КП(б)Б*

Не гледзячы на тое, што сярэднія паказчыкі падрыхтоўкі БССР да веснавой сяўбы 1936 г. даволі высокія,—засыпана насення зернавых 112,1 проц., лёну—106,3 проц., адрамантавана трактароў 100 проц., вывезена торфу 236 проц. і т. д.,—СНК БССР і ЦК КП(б)Б лічаць, што галоўнае ў падрыхтоўцы і правядзенні сяўбы—высокая якасць работ—адстае, а ў радзе раёнаў паасобнымі калгасамі і соўгасамі і ў цэлым радзе МТС не выкананы яшчэ неабходныя работы па падрыхтоўцы да веснавой сяўбы. Ачыстка насення праведзена нездавальняюча, асабліва ў Магілеўскім, Чавускім, Гомельскім і Мсціслаўскім раёнах, што пацвярджаецца паўторнай праверкай на ўсхожасць. Міжкалгасны абмен пасеўнага насення ў цэлым па БССР выканан толькі на 64 проц., а ў раёнах: Горацкім—толькі на 4 проц., Рэчыцкім—11 проц., Старых Дарогах—15 проц.; вывезена гною толькі на 73,2 проц. плана, а ў раёнах: Свяцілавіцкім—19,9 проц., Пухавіцкім—32 проц., Чачэрскім—33 проц., Круглянскім—39 проц.

Найбольш дрэнна абстаіць справа з загатоўкай і засыпкай насення канюшыны, лубіну і іншых траў і рэалізацыяй гэтых траў у калгасах, у асаблівасці ў раёнах Камарынскім, Крычаўскім, Расонскім і іншых.

Урокі першых дзён сяўбы ў радзе раёнаў паказваюць, што не разгорнута яшчэ сапраўдная барацьба за высокі ўраджай, а месцамі ёсць выпадкі грубейшага парушэння прымянення агратэхправіл (Петрыкаўскі, Тураўскі раёны), адсутнічае кантроль за абавязковым і правільным правядзеннем пратручвання насення, баранавання азімых, выкарыстання трактароў, радковых сеялак—трактарных і конных, падкормка азімых, а месцамі дапускаецца зусім мелкае ворыва.

У радзе калгасаў некаторых раёнаў яшчэ не разгрнулася як належыць соцыялістычнае спаборніцтва і стаханаўскі рух. Такое становішча стварае пагрозу зацяжкі сяўбы і не забяспечвае выканання асноўнай задачы сяўбы гэтага года—барацьбы за высокі сталінскі ўраджай.

СНК БССР і ЦК КП(б)Б **пастанаўляюць:**

1. Абавязаць Наркамзем, акругкомы, ГК і РК КП(б)Б, акрвыканкомы, РВК, дырэктароў МТС і соўгасаў у сувязі з уступленнем у масавую сяўбу закончыць за бліжэйшыя два дні ўсюды ў калгасах і соўгасах абмен і другую ачыстку насення зернавых і лёну, вывазку на поле гною і мінеральных угнаенняў, а таксама выбраць гаручае. Правядзенне гэтых мерапрыемстваў асабліва адносіцца да партыйна-

совецкага кіраўніцтва Горацкага, Рэчыцкага, Мсціслаўскага, Свіцілавіцкага, Пухавіцкага і Круглянскага раёнаў, якія недапушчальна зацягнулі падрыхтоўчыя работы да веснавой сяўбы.

2. Абавязаць старшынь РВК і дырэктароў МТС, пад іх асабістую адказнасць, у 5-дзенны тэрмін поўнасцю забяспечыць рэалізацыю (продаж) калгасам насення канюшыны, лубіну, лугапасьбішчных і іншых траў, што знаходзяцца яшчэ на складах.

3. СНК і ЦК КП(б)Б абавязваюць партыйнае і совецкае кіраўніцтва раёнаў, загадчыкаў райза, дырэктароў МТС устанавіць найстражэйшы кантроль за пратручваннем насення, безагаворачна забяспечыць выкананне ў кожным калгасе пастановы СНК СССР і ЦК ВКП(б) аб тым, каб пратручванне насення рабілася калгасамі пад кіраўніцтвам агранома і абавязкова складаць акты аб пратручванні за подпісамі старшыні калгаса і агранома.

Абавязаць Наркамзем прасачыць за тым, каб усе прэпараты для пратручвання былі неадкладна дастаўлены ў раёны, прыцягваючы да найстражэйшай адказнасці асоб, парушыўшых пастанову партыі і ўрада аб недапушчальнасці пасеву непратручаным насеннем.

4. Абавязаць партыйнае і совецкае кіраўніцтва ўсіх раёнаў і асабліва Бабруйскага, Рагачоўскага, Буда-Кашалёўскага, Плешчаніцкага, Мехаўскага і Лоеўскага раёнаў, у якіх выкрыты выпадкі, калі няспраўныя сеялкі выдаваліся за годныя, у двухдзенны тэрмін праверыць ва ўсіх калгасах і асабліва ў калгасах «13 год РСЧА», «Ленінскі шлях», імя Гікало, Бабруйскага раёна, «Совецкая Беларусь», «Дняпроўская комуна», Лоеўскага раёна, якасць рамонту сеялак і гатоўнасць іх да работы і вінаватых за няспраўнасць сеялак прыцягнуць да адказнасці.

5. Лічачы, што ўстаноўлены план радковай сяўбы з'яўляецца мінімальным і павінен быць безагаворачна выканан кожным калгасам і соўгасам, Соўнарком і ЦК КП(б)Б абавязваюць партыйна-совецкае кіраўніцтва акруг і раёнаў, дырэктароў МТС, загадчыкаў райза і старшынь сельсоветаў з першых-жа дзён сяўбы ўстанавіць найстражэйшую праверку поўнага выкарыстання сеялак як трактарных, так і конных, усклаўшы адказнасць за поўнае выкарыстанне іх у МТС на дырэктароў МТС і брыгадзіраў трактарных брыгад, а ў калгасах—на старшынь калгасаў і брыгадзіраў паляводчых брыгад, маючы на ўвазе, што адным з асноўных сродкаў у справе забяспечання высокага ўраджаю з'яўляецца радковая сяўба.

Папярэдзіць дырэктароў МТС, што няпоўнае выкарыстанне імі трактарных сеялак ЦК і СНК будуць разглядаць як процідзяржаўнае дзеянне, накіраванае на зрыў мерапрыемстваў партыі і ўрада у справе ўзняцця ўраджайнасці, і вінаватыя будуць прыцягвацца да найстражэйшай партыйнай і крымінальнай адказнасці.

6. Прапанаваць Наркамзему на працягу 2 дзён арганізаваць праверку ў радзе раёнаў і ў паасобных калгасах (на выбарку) выканання аграўказанняў аб баранаванні і падкормцы азімых і даць раёнам дадатковыя падрабязныя ўказанні па гэтаму пытанню.

7. Соўнарком і ЦК КП(б)Б абавязваюць партыйнае і совецкае кіраўніцтва акруг і раёнаў, загадчыкаў райза і дырэктароў МТС неадкладна забяспечыць выкананне пастановы ЦК і СНК БССР аб выдзяленні ў кожным калгасе і соўгасе насеннаводчых участкаў на лепшых угноеных глебах, забяспечыўшы на іх лепшае агратэхнічнае абслугоўванне з тым, каб зрабіць насеннаводчыя ўчасткі сапраўды

ўчасткамі высокай агрыкультуры калгаса, сканцэнтраваўшы ўвагу ў рабоце хат-лабараторый і вопытнікаў-калгаснікаў на высокай апрацоўцы і наглядзе за гэтымі ўчасткамі.

8. СНК і ЦК КП(б)Б абавязваюць партыйнае і савецкае кіраўніцтва раёнаў і акруг забяспечыць безагаворачнае выкананне кожным калгасам, МТС і соўгасам установленых пастановай ЦК КП(б)Б і СНК БССР ад 22 лютага 1936 г. тэрмінаў сяўбы па зернавых у 10—12 рабочых дзён і па ільну ў 5—7 дзён.

9. СНК і ЦК КП(б)Б звярачаюць увагу партыйнага і савецкага кіраўніцтва раёнаў і акруг, дыэктароў МТС і соўгасаў на тое, што рад калгасаў, брыгад і звенняў у парадку соцспаборніцтва ўзялі на сябе абавязацельства даць у гэтым годзе высокія ўраджаі зернавых, лёну і бульбы, аднак, у раёнах часта не вядзецца ўлік тэтых абавязацельстваў, і раённыя арганізацыі не правяраюць выкананне гэтых абавязацельстваў і не аказваюць неабходнай дапамогі спаборнічаючым калгасам, брыгадам і звенням.

СНК і ЦК КП(б)Б абавязваюць партыйнае і савецкае кіраўніцтва арганізаваць асобы ўлік калгасаў, брыгад і звенняў, узяўшых на сябе абавязацельства даць высокія ўраджаі, аказваючы ім штодзенную дапамогу ў рабоце.

Пярвічныя партарганізацыі калгасаў, соўгасаў і МТС павінны ўзначаліць шырокі рух мас за сталінскія 7—8 мільярдаў пудоў зярна, арганізуючы і кіруючы соцспаборніцтвам паміж калгасамі, соўгасамі, МТС, брыгадамі і звеннямі.

У аснову соцспаборніцтва павінен быць пакладзен дагавор на першынства за сталінскі ўраджай, заключаны паміж БССР, Чэрнігаўскай і Кіеўскай абласцямі.

Асноўнай умовай соцспаборніцтва (у калгасе, соўгасе і МТС) павінна быць барацьба за якасць работы, за тэрміны сяўбы.

СНК і ЦК КП(б)Б абавязваюць РК КП(б)Б і РВК уцягнуць у справу абмеркавання соцдагавораў, іх выканання і праверкі іх у дзеянні ўсіх калгаснікаў, калгасніц і рабочых соўгасаў і МТС.

10. Абавязаць акругкомы, ГК і РК КП(б)Б, акрвыканкомы і РВК, а таксама ўсе пярвічныя партарганізацыі аказваць усямернае падтрыманне і дапамогу ордэнаносцам сельскай гаспадаркі ў праводзімай імі вялікай і адказнай рабоце ў барацьбе за высокі сталінскі ўраджай.

СНК і ЦК КП(б)Б абавязваюць акругкомы, гаркомы і райкомы з першых-жа дзён работы па сяўбе штодзенна дапамагаць лепшым людзям, паказваючым стаханаўскія метады работы, шырока практыкуючы сістэму матар'яльнага заахвочвання гэтых людзей, праводзячы абмен вопытам работы стаханаўцаў сярод шырокай масы калгаснікаў. Імёны людзей, паказваючых стаханаўскія ўзоры работы па сяўбе, як роўна лепшыя калгасы, брыгады і звенні павінны быць шырока паказаны ў друку—цэнтральным, раённым, насценгазетах, дошках спаборніцтва і т. д.

11. СНК БССР і ЦК КП(б)Б звярачаюць увагу цэнтральнага і раённага друку на тую выключную ролю ў справе разгортвання стаханаўскага руху калгаснікаў і рабочых соўгасаў, барацьбы мас на аснове соцспаборніцтва за сталінскі ўраджай, якую можа і павінен адыграць друк. СНК і ЦК КП(б)Б абавязваюць рэдактароў цэнтральных газет «Звязда» і «Рабочий» і рэдактароў раённых газет арганізаваць сістэматычны паказ ходу сяўбы на ўсіх участках сельскай

гаспадаркі і ходу спаборніцтва раёнаў, калгасаў, соўгасаў, брыгад і звенняў, работы стаханаўцаў на сяўбе, лепшых людзей, авалодваючых тэхнікай, і лепшых спецыялістаў і т. д. Неабходна таксама з першых-жа дзён сяўбы неадкладна ўскрываць усе недахопы ў рабоце з тым, каб падцягнуць адстаючых і дабіцца агульнага ўздыму ў рабоце.

12. Адзначаючы велізарную ролю сельскагаспадарчых спецыялістаў у справе барацьбы за высокі сталінскі ўраджай, ЦК і СНК указваюць, што ў радзе раёнаў паасобныя спецыялісты (аграномы) яшчэ недастаткова ўключыліся ў справу барацьбы за высокую агратэхнічную культуру і не рэагуюць на парушэнне агратэхнічных правіл, як: на выпадкі мелкага ворыва, пасеву непратручаным і неачышчаным насеннем, парушэнне нормы высеву, на парушэнне плана радковай сяўбы і т. д.

СНК і ЦК КП(б)Б патрабуюць ад кожнага агранома і ўсіх спецыялістаў сельскай гаспадаркі сапраўды па-большэвіцку ўзначаліць і арганізаваць шырокія масы калгаснікаў і рабочых соўгасаў на поўнае правядзенне ў жыццё ўсіх агратэхнічных правіл, забяспечваючы высокі ўраджай і на справе дапамагчы калгасам і соўгасам аўладаць высокай тэхнікай сельскагаспадарчай вытворчасці.

Кожны аграном у пасеўную кампанію, як арганізатар, павінен быць непасрэдна на полі.

Абавязаць РВК і РК КП(б)Б забяспечыць сельскагаспадарчым спецыялістам усямерную дапамогу ў рабоце, у прыватнасці забяспечыць сродкамі перасоўвання, забараніўшы выкарыстанне іх на канцэлярскай рабоце.

13. СНК і ЦК КП(б)Б асабліва ўказваюць АК, ГК і РК КП(б)Б, акрвыканкомам і РВК, а таксама ўсім пярвічным партыйным арганізацыям аб іх велізарнейшай адказнасці ў справе кіраўніцтва работай па своечасоваму і добраякаснаму забяспечанню дзяржаўнага плана веснавой сяўбы і папярэджваюць, што іх работа будзе ацэньвацца па выкананню ўстаноўленых планаў павышэння ўраджайнасці.

Старшыня СНК БССР. **Н. ГАЛАДЗЕД**

Сакратар ЦК КП(б)Б **Н. ГІКАЛО**

Уп. Галоўлітбела № П—5006.
Тыраж 10.364
Здана ў набор 31-III—36 г.
Падпісана да друку 15-IV—36 г.

Рэдкалегія: К. Мінкін (адказны рэдактар), Д. Конік, Г. Рубінштэйн

Менск, друк. імя Сталіна. Зак. № 379.



ЦАНА 40 кап.






ДА ВЕД
ПАРТЫЙНЫХ,
СОВЕЦКІХ, ГРАМАДСКІХ
АРГАНІЗАЦЫЙ і ЎСТАНОЎ

## АДКРЫТА ПАДПІСКА НА 1936 ГОД

НА ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК — ОРГАН ЦК КП(б)Б

═ ГОД ВЫДАННЯ X ═

# „БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ“

ПАДПІСНАЯ ЦАНА НА 1936 г.

| | |
|---|---|
| на 1 мес. | — 40 к. |
| на 3 мес. | 1 р. 20 к. |
| на 6 мес. | 2 р. 40 к. |
| на 12 мес. | 4 р. 80 к. |

## ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА

штомесяц усімі райбюро „Саюздруку“, паасобнымі ўпаўнаважанымі па друку на прадпрыемствах, ва ўсіх паштовых аддзяленнях, агенцтвамі і ўсімі газетаносцамі

МЕНСК
ВЫДАВЕЦТВА
ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА“